Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 23 кастрычніка 1987 г. № 43 (3401) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

**Грамадзяне Краіны Саветаў! Усталёўвайце высокія прынцыпы сацыялістычнай маральнасці і сацыяльнай справядлівасці! Рашуча выкараняйце бюракратызм і валакіту, ураўнілаўку і ўтрыманства!**

*(З Заклікаў ЦК КПСС да 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі).*

## СЕННЯШНЯЯ ВЁСКА: РЭАЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ І ЗАДАЧЫ

Халоднае і дажджлівае надвор'е—цягам вясны, лета і восені—не цешыла сёлета хлебаробаў. Тым не менш вынікі іх працы ў многім радуюць. Прымяненне і выкарыстанне інтэнсіўных тэхналогій і прадуктыўных гатункаў сельскагаспадарчых культур, больш дасканалай тэхнікі і эфектыўных сродкаў павышэння ўрадлівасці зямель і аховы раслін паспяхова супрацьстаялі неспрыяльнаму надвор'ю. У выніку сёлета ўпершыню ў рэспубліцы сабрана па 34,7 цэнтнера збожжа з гектара, а валавы збор яго перавысіў 9 мільёнаў тон. Лепшага выніку дамагліся хлебаробы Гродзенскай вобласці, дзе атрымана з гектара па 40,5 цэнтнера збожжавых. Сярод раёнаў першынство заваяваў Нясвіжскі раён—тут намалочана па 53 цэнтнеры збожжа з гектара. Асобныя ж гаспадаркі сабралі яшчэ большы ўраджай —па 60, 70, 80 і нават 100 цэнтнераў (на некаторых участках жыта і ячменю). Неблагімі ўраджаямі аддзячылі землеробаў і бульбяныя палеткі рэспублікі. Тут таксама лепшых вынікаў дамагліся Гродзенская і Брэсцкая вобласці, дзе ўраджайнасць склала 224 цэнтнеры з гектара. У Ваўкавыскім, Гродзенскім, Слонімскім, Шчучынскім, Нясвіжскім і Клецкім раёнах яна перавысіла 250 цэнтнераў, а ў паасобных гаспадарках (у калгасе «Прагрэс» Гродзенскага раёна, на племзаводзе «Чырвоная зорка» Клецкага раёна) атрымана больш чым па 400 цэнтнераў з гектара. Пэўныя поспехі ёсць і ў жывёлагадоўчым цэху рэспублікі. Калі летась толькі адна Гродзенская вобласць і толькі 17 раёнаў іншых абласцей перавысілі 3-тысячны рубеж па надоях малака на карову, дык сёлета такога паказчыка дасягнуць Брэсцкая і Мінская вобласці, а таксама 47 раёнаў. 80 гаспадарак атрымаюць ад каровы па 4 і больш тысяч кілаграмаў малака, а 14 калгасаў і саўгасаў — па 5 і больш тысяч кілаграмаў. Ёсць (і іх ужо нямала) гаспадаркі, дзе на 100 гектараў сельгасугоддзяў атрымліваюць па 2—3,5 тысячы цэнтнераў малака і па 300 і больш цэнтнераў мяса...

Гэтыя лічбы былі прыведзены ў дакладзе першага сакратара ЦК КПБ тав. Я. Я. Сакалова на рэспубліканскім сходзе партыйна-гаспадарчага актыву, які адбыўся ў Брэсце 12 кастрычніка (пра што «ЛіМ» паведамляў у мінулым нумары). На сходзе было разгледжана пытанне «Аб задачах па паскораным развіцці аграрна-прамысловага комплексу рэспублікі ў святле рашэнняў XXVII з'езда партыі, чэрвеньскага (1987 г.) Пленума ЦК КПСС».

А напярэдадні, 9—11 кастрычніка, на Брэстчыне прайшоў рэспубліканскі семінар на тэму «Шляхі павышэння эфектыўнасці аграпрамысловай вытворчасці на аснове ўкаранення інтэнсіўных тэхналогій і эканамічных метадаў гаспадарання. Вырашэнне праблем сацыяльнага ўпарадкавання — аснова стварэння стабільных працоўных калектываў». Аграпрамысловы комплекс Брэсцкай вобласці ў апошнія гады набыў высокую дынаміку росту. Вопыт работы яго лепшых калектываў і вывучалі ўдзельнікі семінара, сярод якіх былі і прадстаўнікі творчых саюзаў рэспублікі. Яны пазнаёміліся з укараненнем інтэнсіўных тэхналогій у земляробстве і жывёлагадоўлі, з новымі падыходамі да стварэння сучасных вытворчых магутнасцей, прагрэсіўнымі формамі арганізацыі і аплаты працы, з практыкай сацыяльнай перабудовы вёскі, вопытам стварэння пасёлкаў новага тыпу, а больш правільна—аграгарадкоў з усімі неабходнымі для гарманічнага развіцця людзей аб'ектамі і службамі.

Такая ўвага Кампартыі і ўрада рэспублікі да пытанняў аб перспектывах развіцця аграпрамысловага комплексу аб паскарэнні сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у вёсцы—не выпадковая.

Неабходны, як падкрэсліў Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, своеасаблівы рывок у нарошчванні вытворчасці прадукцыі сельскай гаспадаркі.

Нядаўна ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб неадкладных мерах па паскарэнні вырашэння харчовага пытання ў адпаведнасці з устаноўкамі чэрвеньскага (1987 г.) Пленума ЦК КПСС».

У гэтым дакуменце адзначаецца, што дасягненне ў найкарацейшыя тэрміны значнага павелічэння тэмпаў росту прадуктаў харчавання Цэнтральны Камітэт разглядае як самую галоўную, цэнтральную задачу палітыкі партыі.

Тэрміны выканання Харчовай праграмы рэспублікі, разлічанай да 1990 года, канчаюцца, а праблема забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання застаецца пакуль што вырашанай не поўнасцю. Гэтая галоўная акалічнасць і схіліла Бюро ЦК КПБ вынесці на калектыўнае абмеркаванне стратэгію і тактыку паскоранага развіцця аграпрамысловага комплексу да 2000 года.

У дакладзе Я. Я. Сакалова было падкрэслена, што ў рэспубліцы ёсць неабходныя кадравыя, матэрыяльна-тэхнічныя і навуковыя рэсурсы для такой пастаноўкі задачы. У апошнія гады партыйныя арганізацыі, нашы кадры ўзбагаціліся значным вопытам, новымі формамі і метадамі работы, новымі падыходамі да вырашэння праблем павышэння эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці, сацыяльна-эканамічнай перабудовы вёскі. Узрасло майстэрства сельскіх працаўнікоў. Павысілася культура земляробства і жывёлагадоўлі.

Вынікі, дасягнутыя многімі раёнамі, калгасамі, саўгасамі і брыгадамі,—важкі аргумент на карысць правільнасці пастаноўкі задачы паскоранага развіцця аграпрамысловага комплексу рэспублікі. Важнымі фактарамі з'яўляюцца і мацнеючая з году ў год матэрыяльна-тэхнічная база сельскагаспадарчай вытворчасці, і ўмацаванне фінансава-эканамічнага становішча абсалютнай большасці гаспадарак, і, нарэшце, усеагульная падтрымка працоўнымі курсу партыі на паглыбленне перабудовы, паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

Усё гэта дазваляе па-новаму, з улікам узрослых патрабаванняў падысці да вызначэння перспектыў развіцця аграпрамысловага комплексу, да выпрацоўкі тут адзінай, навукова абгрунтаванай праграмы, якая б уключала як галоўныя мэты, так і шляхі іх дасягнення.

У дакладзе тав. Я. Я. Сакалова сфармуляваны галоўныя, прынцыповыя палажэнні канцэпцыі развіцця аграпрамысловага комплексу рэспублікі на перспектыву. Гэтыя палажэнні выразна прачытваюцца ўжо ў саміх назвах раздзелаў даклада: «Перавод жывёлагадоўлі на сучасныя індустрыяльныя тэхналогіі — генеральны напрамак развіцця галіны», «Інтэнсіфікацыі кормавытворчасці — неаслабную ўвагу», «Нарошчваць аб'ёмы вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі раслінаводства, паглыбляць яе перапрацоўку», «Умацоўваць эканоміку, удасканальваць кіраванне аграпрамысловым комплексам», «Паскорыць вырашэнне сацыяльных пытанняў у вёсцы», «Перабудоўваць работу з кадрамі, паляпшаць навуковае забеспячэнне развіцця аграпрамысловага цэха рэспублікі», «Узмацняць партыйны ўплыў на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага пераўтварэння вёскі».

У вырашэнні пастаўленай партыяй галоўнай, цэнтральнай задачы—у найкарацейшы тэрмін дамагчыся значнага павелічэння тэмпаў росту прадуктаў харчавання—выключная роля належыць так званаму чалавечаму фактару, бо ў рэшце рэшт справу робяць людзі. Клопат аб людзях, аб стварэнні найлепшых умоў для іх працы і адпачынку павінен быць у цэнтры ўвагі партыйных, савецкіх, камсамольскіх, прафсаюзных органаў.

У гэтым працэсе сацыяльна-эканамічнага пераўтварэння вёскі больш дзейсным і актыўным павінен быць удзел творчай інтэлігенцыі. У дакладзе тав. Я. Я. Сакалова ў яе адрас прагучаў суровы, але справядлівы папрок.

«У нас мала яркіх, таленавітых раманаў, паэм, п'ес, кінафільмаў, тэатральных пастановак, якія б раскрывалі вобраз сучаснага сельскага працаўніка,—гаварыў кіраўнік Кампартыі рэспублікі.—Героі многіх твораў па-ранейшаму жывуць успамінамі «басаногага дзяцінства», а не рэальнымі праблемамі сучаснай вёскі. Яны адарваны і ад цяперашніх клопатаў і ад новага ўкладу жыцця сельскіх працаўнікоў».

І далей: «Хацелася б спадзявацца, што дзеячы літаратуры і мастацтва сваім талентам і майстэрствам будуць падтрымліваць дух перамен, усё прагрэсіўнае, што адбываецца ў вёсцы, дапамагаць фарміраванню цэннасных арыентацый, духоўнага аблічча нашых людзей».

Малаасвоеным у творах літаратуры і мастацтва, адзначалася ў дакладзе, застаецца пакуль што і жыццё сучаснага горада, жыццё рабочых, інжынераў, вучоных, якія знаходзяцца сёння ў цэнтры ўсіх эканамічных, духоўных працэсаў, з'яўляюцца актыўнымі творцамі сацыяльных і навукова-тэхнічных пераўтварэнняў.

Перабудова ў аграпрамысловым комплексе рэспублікі—*вялікае поле* дзейнасці для работнікаў сродкаў масавай інфармацыі. Друк, радыё, тэлебачанне, падкрэсліў тав. Я. Я. Сакалоў, павінны весці бескампрамісную барацьбу з коснасцю, руцінай, безадказнасцю, усяляк падтрымліваць ініцыятыву, узнімаць грамадскі аўтарытэт работнікаў, якія рупліва гаспадараць, паспяхова вырашаюць сацыяльна-эканамічныя задачы. Трэба ствараць здаровы маральны клімат вакол тых, хто ў вольны час займаецца карыснай для сябе і грамадства працай.

Дзеячы літаратуры і мастацтва, работнікі сродкаў масавай інфармацыі, несумненна, прыслухаюцца да прагучаўшых крытычных заўваг, актыўна адгукнуцца на выказаныя пажаданні і заклікі, падтрымаюць партыйныя захады і ўстаноўкі, зробяць усё для таго, каб, поруч з іншымі фактарамі выканання Харчовай праграмы, уключыць у дзеянне рэзервы і магчымасці, якія адкрываюць паглыбленне дэмакратызацыі ўсіх бакоў нашага жыцця, пашырэнне публічнасці, умацаванне дысцыпліны і арганізаванасці, новы маральна-палітычны клімат у працоўных калектывах і наогул у краіне, гарачае адабрэнне нашымі людзьмі стратэгічнага курсу партыі.

НАВІНЫ ТЫДНЯ

## Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза

21 кастрычніка 1987 года адбыўся чарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС. Пленум разгледзеў пытанні, звязаныя з 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і некаторымі бягучымі задачамі.

З дакладам па гэтых пытаннях выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.

Пленум адобрыў асноўныя палажэнні і вывады, выкладзеныя ў дакладзе, і прыняў адпаведную пастанову.

Пленум разгледзеў арганізацыйнае пытанне. Задаволена просьба т. Аліева Г. А. аб вызваленні яго ад абавязкаў члена Палітбюро ЦК КПСС у сувязі з выхадам на пенсію па стану здароўя.

## ПАТРАБАВАЛЬНЫ АГЛЯД

**На ВДНГ СССР прайшлі Дні Беларускай ССР**



У час ускладання вянка да Маўзалея У. І. Леніна.



Васіль Быкаў у музеі аўтазавода імя Ліхачова.



Кветкамі і ўсмешкамі сустракалі масквічоў прадстаўнікі Беларусі ля ўвахода на юбілейную экспазіцыю рэспублікі на ВДНГ СССР. На першым плане — артыстка народнага ансамбля «Радасць» з Брэста Н. Паўлючык.

**У самых розных кутках сталіцы можна было сустрэць прыкметы гэтага яркага свята, фарбы якога ўдала дапоўнілі каларыт залатой восені.**

**Пасланцоў Беларусі сардэчна прымалі працоўныя Пралетарскага і Чырвонагвардзейскага раёнаў Масквы, якіх звязвае з нашай рэспублікай даўняя дружба. Як гасцінныя гаспадары яны сустрэлі членаў афіцыйнай дэлегацыі, якую ўзначальваў намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. А. Мікуліч, пазнаёмілі іх са сваімі дасягненнямі, праблемамі. Супрацоўніцтва, падкрэслівалі і масквічы, і беларусы, дае рэальныя вынікі.**

**Сустрэча з Масквой заўсёды хвалюе. Гэта сэрца краіны, сімвал адзінства, інтэрнацыянальнага брацтва савецкіх людзей. Тут — рэвалюцыйныя святыні народа. Члены дэлегацыі ўсклалі вянкі да Маўзалея У. І. Леніна, падножжа помніка правадыру ля цэнтральнага павільёна ВДНГ СССР, да магілы Невядомага салдата. На алеі 70-годдзя Вялікага Кастрычніка імі пасаджана блакітная елка. Яна разам са сваімі сяброўкамі, пасаджанымі дэлегацыямі іншых рэспублік, стане сімвалам трываласці каранёў, якія жывяць дружбу савецкіх народаў-братоў.**

**Праграма Дзён была шырокай і насычанай. У многіх кінатэатрах сталіцы правялі творчыя справаздачы перад патрабавальным гледачом кінематаграфісты рэспублікі. Вельмі цёпла прымалі масквічы выступленні Акадэмічнага народнага хору БССР імя Г. Цітовіча, Дзяржаўнага ансамбля танца БССР, вакальна-інструментальных ансамбляў «Верасы» і «Сябры», народных ансамбляў «Радасць», «Пралескі», «Крупіцкія музыкі», «Чараўніцы», вакалістаў Я. Еўдакімава, М. Гулегінай, Л. Колас, іншых выканаўцаў. Тэатр моды, які адкрыўся нядаўна ў Мінску, у своеасаблівых спектаклях прадэманстраваў новыя мадэлі адзення, створаныя беларускімі мастакамі і майстрамі.**

**У цэнтры Дзён была экспазіцыя Беларусі на выстаўцы «70 гадоў пад сцягам Вялікага Кастрычніка». Шырока прадстаўлена ў ёй прадукцыя машынабудаўнічых, хімічных, прыборабудаўнічых прадпрыемстваў, аграпрамысловага комплексу рэспублікі, калектываў, якія выпускаюць электронную тэхніку і тканіны, абсталяванне і фарфор. Многія раздзелы расказваюць аб справах будаўнікоў і чыгуначнікаў, аб развіцці навукі і культуры.**

**Да позняга вечара свяцілася яркімі агнямі галоўная выстаўка краіны. Асабліва святочнай была атмасфера ў суботу і нядзелю, калі масквічы і госці сталіцы з сем'ямі прыйшлі на ВДНГ. Тут іх чакаў сюрпрыз — беларускі «кірмаш» і «горад майстроў». Амаль усе наведвальнікі набылі сувеніры і вырабы беларускіх прадпрыемстваў. А гэта значыць — у многіх дамах далёка ад Беларусі застанецца часцінка рэспублікі, майстэрства і ўмення яе людзей.**

**Спец. кар. БЕЛТА.**

г. Масква.

## Утворана камісія Фонду культуры

**Беларускі фонд культуры стварыў камісію па рабоце з калекцыянерамі. Яна заклікана садзейнічаць развіццю калекцыяніравання ў рэспубліцы, праводзіць конкурсы, арганізоўваць выстаўкі, выяўляць новых аматараў гэтай захапляючай справы.**

**Т. МАКСІМАВА.**

# КАСТРЫЧНІК І ПЕРАБУДОВА




### Анкета «ЛіМа»

**1. У чым Вы асабіста бачыце пераемнасць рэвалюцыйных традыцый, практычную сувязь перабудовы з ідэаламі Кастрычніка?**

**2. Як Вы ўяўляеце значэнне чалавечага фактара, чалавечай асобы ў працэсе перабудовы? Ролю мастака ў рэвалюцыйным абнаўленні, якое адбываецца ў грамадстве?**

**З адказамі на пытанні анкеты ў «ЛіМе» выступілі кампазітар Я. Глебаў (7 жніўня г. г.), кінарэжысёр В. Нікіфараў (21 жніўня), мастак З. Азгур (4 верасня), пісьменнік І. Дуброўскі (11 верасня), літаратуразнаўца У. Гніламёдаў (18 верасня), мастак В. Шаранговіч (2 кастрычніка).**

**Сёння на пытанні анкеты адказвае літаратуразнаўца Віктар Каваленка.**

1. Пераемнасць традыцый Вялікага Кастрычніка — глабальная як па сваіх маштабах, так *і па глыбіні. Магчыма,* на сучасным этапе мы гэтага поўнасцю яшчэ не ўсвядомілі, аднак сам ход часу несумненна змусіць нас востра адчуць праблему глабальнай пераемнасці сучаснасці з Кастрычнікам ва ўсёй сацыяльнай аб'ёмнасці.

Заўсёды з поўнай апраўданасцю можна сказаць самому сабе і іншым: хіба тыя каласальныя дасягненні, якімі ганарыцца савецкі народ, не сталі практычным ажыццяўленнем ідэалаў Кастрычніка? Так, сталі. Гэта бясспрэчна. Але ж нельга адмаўляць і іншае: на працягу даволі доўгага часу ідэалы Кастрычніка сцвярджаліся ў савецкім грамадстве непаслядоўна і абмежавана, а ў перыяд культу асобы Сталіна сам тонус і псіхалогія грамадскага жыцця ўпарта накіроўваліся ўбок ад здабытага вопыту сацыялістычнай рэвалюцыі, ад светапоглядных прынцыпаў марксізму-ленінізму. Існуе агульны ўзровень, стыль грамадскага існавання. І нельга ўяўляць сабе, што быццам можа існаваць такая сітуацыя, калі ў адной справе дапускаецца ідэйна зніжаны лад мыслення і дзеяння, то адначасова іншую справу можна ўзняць на вышэйшую ступень дасканаласці. Аказваецца, у грамадскім жыцці таксама існуе своеасаблівы закон узаемна спалучаных «капіляраў»—яны запаўняюцца аднамерна. Напрыклад, адна з самых распаўсюджаных, бадай, і шкодных ілюзій перыяду застою — спадзяванне, што можна хутка рухаць наперад эканоміку і навуку пры кансерватыўным стане грамадскай думкі. Жыццё пацвердзіла, што нельга. Усё з усім узаемазвязана. І няма такой галіны народнага жыцця, няма такога напрамку ў развіцці сучаснай рэчаіснасці, дзе не адчувалася б вострая патрэба ў паглыбленні і *ўмацаванні працэсу пераемнасці* з ідэаламі Вялікага Кастрычніка.

Кастрычніцкая рэвалюцыя — гэта практычнае ажыццяўленне самых перадавых сацыяльных імкненняў усяго папярэдняга чалавецтва, здзяйсненне самых запаветных мар працоўных мас. І якраз у інтарэсах гэтых мас стала патрэбна дэмакратыя вышэйшая, чым яна дагэтуль дзе-небудзь здабывалася, праўда справядлівейшая, чым яна дагэтуль дзе-небудзь сустракалася, свабода шырэйшая, чым яна дагэтуль дзе-небудзь дасягалася. І ўсё гэта станавілася явай. Ужо ў 1919 г., на VIII з'ездзе партыі, У. І. Ленін меў рэальныя падставы сказаць: «Няма ніводнай краіны ў свеце, якая зрабіла б хоць бы дзесятую долю таго, што зрабіла за мінулыя месяцы Савецкая рэспубліка для рабочых і бяднейшых сялян у сэнсе прыцягнення іх да кіравання дзяржавай. Гэта абсалютная ісціна. Ніхто не стане адмаўляць, што для дэмакратыі сапраўднай а не папяровай, для прыцягнення рабочых і сялян мы зрабілі столькі, колькі за сотні гадоў не зрабілі самыя лепшыя дэмакратычныя рэспублікі і зрабіць не маглі».

**Аднак гэтыя і іншыя справядлівыя выказванні У. І. Леніна аб перавазе савецкай дэмакратыі над буржуазнай вельмі часта прыводзіліся і тады, калі грамадства ўступіла ў страшную антыдэмакратычную паласу жыцця, створаную палітыкай дэспатычнага праўлення Сталіна, для апраўдання існуючага стану рэчаў. Бясспрэчна, што буржуазная парламенцкая дэмакратыя ёсць няпоўная, урэзаная, дзякуючы шматлікім прыхаваным выкрутам, дэмакратыя ў карысць класавых інтарэсаў багатых. Бясспрэчна, што Савецкая ўлада здатная забяспечыць народу дэмакратычны статус вышэйшы за ўсе формы буржуазнай дэмакратыі, бо носьбітам савецкай дэмакратыі з'яўляецца ўвесь народ. Аднак пасля смерці У. І. Леніна, ва ўмовах скажэння самога паняцця савецкай дэмакратыі пачалося практычнае адступленне ад заваяваных ужо нормаў дэмакратычнага жыцця ў краіне. Бязлітасна падаўлялася ўсякая спроба народнай самадзейнасці. У выніку вельмі мізэрная форма дэмакратычнага ўдзелу працоўных у кіраванні дзяржавай, якая фактычна аказалася ніжэйшай за перадавыя буржуазныя заваёвы ў сферы дэмакратычнага духу грамадства, крывадушна выдавалася дагматычнай тэорыяй за самую вышэйшую. Па гэтай прычыне пашыралася тэндэнцыя расчаравання ўсіх шчырых грамадзян краіны і працоўных свету ў дэмакратычных магчымасцях Савецкай дзяржавы. Ленінская ўпэўненасць, выказаная ў першыя гады Савецкай улады, што «дыктатура пралетарыяту і савецкая сістэма маральна ўжо перамаглі ва ўсім свеце», аказалася падарванай эгаістычнакарыслівымі намаганнямі сталінскай бюракратыі. Таму не адкладная задача сучасных абнаўленчых працэсаў, якія павінны вывесці грамадства з крызісу,—зварот да ленінскай тэорыі і практыкі дэмакратычнай арганізацыі жыцця.**

З гэтага вынікае, што савецкім людзям няма патрэбы ў сучасным імкненні да аднаўлення дэмакратычных асноў сацыяльнай дзейнасці ісці на вывучку да буржуазнай практыкі заходніх дэмакратый, як гэта настойліва раяць некаторыя палітычныя дзеячы і публіцысты капіталістычных краін, бо ў паўсядзённай творчасці народных мас у выніку перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі быў ужо дасягнуты вышэйшы, сапраўды ўсенародны характар дэмакратыі — савецкая дэмакратыя, калі кожны чалавек быў далучаны да жыцця грамадства сапраўды вольным, непасрэдным, не зманіпуліраваным асабістым выбарам. Адтуль, з падзей, якія замацавалі перамогу Кастрычніка, бяруць жыватворныя сілы перамены сённяшняга дня.

Працэс паглыблення марксісцка-ленінскіх асноў дэмакратычнага жыцця мае на ўвазе

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА

# ЯК СПРАВЫ, АГРАПРОМ?

Праблемам развіцця сельскай гаспадаркі краіны часопіс «Дружба народов» даўно ўдзяляе ўвагу. Нагадваць пра гэта, відаць, і не варта было б — рэдка якое цэнтральнае выданне знаходзіцца ўбаку ад такой усенароднай справы, як выкананне Харчовай праграмы, калі б не адна акалічнасць... Аўтарам значнай часткі падобных матэрыялаў ці ініцыятарам падрыхтоўкі іх з'яўляецца беларускі пісьменнік Яўген Будзінас, які цяпер працуе уласным карэспандэнтам «Дружбы народов» па Прыбалтыцы і Беларусі.

Нездарма ж кажуць, хто «плаціць, той і музыку заказвае»... Дзякуючы Я. Будзінасу пастаяннымі героямі яго нарысаў ці нават апанентамі ў вырашэнні спрэчных пытанняў (адзін з матэрыялаў, які публікаваўся ў №№ 1—4 за 1984 год, так і называўся —«Падарожжа з Апанентам») сталі вядомыя кіраўнікі гаспадарак рэспублікі. У апошні ж час («Дружба народов»: № 9 за 1982 год, № 4 за 1985 год, № 2 за 1986 год) практыкуецца і правядзенне сустрэч за «круглымі сталамі», што адпаведна прайшлі ў Палтаве, Брэсце і Пярну. Сярод удзельнікаў гэтай своеасаблівай «зборнай» былі і беларусы. Прынялі яны самы актыўны ўдзел і ў пасяджэнні «круглага стала» ў Грузіі, справаздача з якога пад назвай «Што ў Аграпроме?» прапануецца ў дзесятым нумары часопіса.

Чытач, які больш-менш рэгулярна цікавіцца пытаннямі развіцця сельскай гаспадаркі ці, прынамсі, сочыць за асвятленнем іх у друку, адразу здагадаўся, чаму месцам сустрэчы быў выбраны Тбілісі: «Грузія стала адной з дзвюх саюзных рэспублік, што першымі атрымалі права на эксперымент па перабудове кіравання аграпрамысловым комплексам, — зазначае часопіс.— Работа па-новаму тут была пачата раней і вялася больш актыўна, чым у іншых (параўнальна хіба што з Эстоніяй), і пайшлі ў перабудове тут значна далей усіх у краіне (нават з Эстоніяй нельга параўнаць)». Ад Беларусі ў «круглым стале» ўдзельнічалі першы сакратар Баранавіцкага райкома партыі М. Даменікан, старшыня калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна У. Бядуля і кіраўнік калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна У. Калачык.

Праблемы, якія цікавілі ўдзельнікаў «стала», былі самымі рознымі, калі ж паспрабаваць іх звесці схематычна да аднаго пытання, дык яно прагучыць прыкладна так: чаму Аграпром краіны, які, здавалася б, павінен быў выра-

і ажыўленне сувязей паміж перадавымі коламі інтэлігенцыі і авангардам рабочага класа, перарваных гвалтоўна ў перыяд культу асобы Сталіна, хоць такія сувязі — даўняя традыцыя рэвалюцыйнага руху. Кантакты паміж прадстаўнікамі інтэлігэнцыі і прадстаўнікамі іншых пластоў працоўных аж *да апошняга часу магчымы былі* толькі ў афіцыйных абставінах, калі сумеснае вольнае абмеркаванне наспелых жыццёвых праблем і актуальных палажэнняў марксісцка-ленінскай навукі амаль не дапускалася.

**Здаецца, якраз цяпер настае час, калі перадавыя колы інтэлігенцыі павінны знайсці і практычна выпрабаваць новыя формы асветніцкіх сувязей з працоўнымі масамі, вярнуць давер узаемаадносін, які быў распаўсюджаны ў час падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай рэвалюцыі, у першае дзесяцігоддзе Савецкай улады, а пазней быў страчаны не без татальных намаганняў бюракратычнай праслойкі, якая ў карыслівых мэтах ахвотна прадстаўляе перад рабочым сапраўднага інтэлігента як «дармаеда» і «пустога балбатуна». Бюракрату больш мілы сэрцу інтэлігент-прыстасаванец, а не сапраўдны інтэлігент, які валодае глыбокім аналітычным адчуваннем жыцця і абагульняючай, прадбачлівай сілай розуму. Хаця менавіта гэтыя якасці чалавечай дзейнасці заўсёды аказваюцца ў інтарэсах рабочага класа і ўсяго працоўнага народа.**

На жаль, працэс дэмакратызацыі як звяно ў глабальнай пераемнасці ідзе цяжка і недастаткова *паслядоўна*. Пераж[ы]так сумна вядомых мінулых [ча]соў — уяўленне, быццам [а]дзін непажаданы момант грамадскага жыцця можна абмяжоўваць дырэктыўнымі мерапрыемствамі, а іншыя — дэмакратычным шляхам. Такая непаслядоўнасць падтрымлівае ў грамадскім жыцці кансерватыўны светапогляд. Нельга адно вырашаць дэмакратычнымі сродкамі, а іншае — загадным ладам, не верачы ў здатнасць шырокіх народных мас добраахвотна падтрымаць дэмакратычныя *ўстанаўленні*. Боязь і нявер'е дарэмныя. Інстынкт народа заўсёды дэмакратычны.

**Не пажадана, на мой погляд, праводзіць эксперыменты ў галіне дэмакратызацыі жыцця, у правядзенні выбараў. Эксперымент заўсёды з'яўляецца зададзеным мерапрыемствам. І калі ў гаспадарчым абнаўленні ён можа быць карысным, то ў сферы дэмакратычнага развіцця эксперымент фармалізуе сам працэс дэмакратызацыі, засланяе ці нават паслабляе натуральную сутнасць гэтага [п]рацэсу. Дэмакратыя — гэта [т]ворчасць саміх народных мас і эксперыментатарская зададзенасць у яе ажыццяўленні супярэчыць у пэўнай меры самадзейнаму характару гэтай творчасці. Дэмакратыя не прыўносіцца аднекуль збоку, а развіваецца як натуральны працэс, залежны ад узроўню грамадскай свядомасці.**

Перабудова вымагае кансалідацыі ўсенароднага імкнення да перамен, яднання дзейнасці ўсіх пластоў грамадства — і ў гэтым таксама сутнасць пераемнасці нашага часу з абліччам эпохі, пачатай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Практычнае замацаванне гэтай пераемнасці патрабуе не толькі актыўных намаганняў, але *і барацьбы*. Страх перад пераменамі, якія нясе з сабой працэс перабудовы, змушае да аб'яднання і ажыўлення наступальнай агрэсіўнасці дагматычныя сілы, якія працяглы час стаялі на ахове застою і схематызму філасофскай і грамадскай думкі. Адсюль ідзе абвастрэнне палемічнасці ў друкаваных выступленнях. Аднак, на жаль, гэтая палемічнасць даволі часта выклікаецца яшчэ не пошукам ісціны, а скрытым жаданнем навесіць палітычны ярлык на свайго апанента. Хацелася б спадзявацца, што ў хуткім часе такія выступленні стануць немагчымымі па прычыне сваёй маральнай няздатнасці.

2. Чалавечы фактар — гэта, на мой погляд, поўнае выяўленне стваральных сіл чалавечай асобы. Якраз — асобы, а не толькі чалавека як масавай адзінкі. Чалавечы фактар у самым поўным значэнні слова, як сведчаць факты, непрымальны для бюракратыі і недаацэньваецца з тэхнакратычнага пункту погляду. Бюракрат і тэхнакрат выступаюць за актывізацыю чалавечага фактара, але толькі ў пэўным, аднабаковым напрамку, маючы на ўвазе знешнюю дысцыплінаванасць, безадмоўнасць у выкананні вытворчых планаў. Маральная ж і працоўная ініцыятыва чалавечай асобы іх не толькі не цікавіць, але і па-ранейшаму выклікае недавер. Давялося нядаўна слухаць даклад эканаміста аб новых прынцыпах планавання эканомікі ва ўмовах перабудовы. На пытанне, да якіх метадаў і шляхоў трэба звярнуцца, калі новыя прынцыпы планавання не дадуць чакаемых вынікаў, дакладчык адказаў: «Трэба распрацаваць яшчэ больш дасканалае планаванне». І ні слова, ні намёку нават пра тое, што ў рэшце рэшт усё вырашаюць такія ўмовы сацыяльнай і працоўнай дзейнасці, якія пабуджаюць чалавека да вычарпальнай самааддачы. А такія ўмовы ў найвышэйшай ступені ствараюцца сацыялістычнай дэмакратыяй. У разуменні дакладчыкам чалавечага фактара выразна праступае тэхнакратычны погляд, на жаль, яшчэ даволі распаўсюджаны.

**Абмежаванасць тэхнакратычнага падыходу да праблем перабудовы выяўляецца і ў тым, што прадстаўнікі тэхнічнай інтэлігенцыі вельмі часта і на сябе саміх глядзяць толькі як на генератар чыста тэхнічных ідэй і недаацэньваюць свае маральна-духоўныя магчымасці ў плане сцвярджэння грамадзянскай асабовасці. Між тым, агромністая армія вучоных прыродазнаўчых навук безумоўна павінна ўсведамляць сябе як маральна-духоўную, якраз гуманітарную сілу ў паскарэнні развіцця грамадства. Тэхнічная і навуковая інтэлігенцыя — тое асяроддзе, якое здатнае дзякуючы свайму высокаму інтэлектуальнаму ўзроўню да самага чуйнага ўспрымання перадавых ідэй у палітычнай і духоўнай сферы. Гэта ўзмацняе сілу чалавечага фактара ў развіцці краіны.**

М. С. Гарбачоў на сустрэчы з пісьменнікам Габрыелем Гарсія Маркесам сказаў: «Самае цяжкае гэта перабудова ў ідэалагічнай, духоўнай сферах. Як пойдзе справа ў сферы дэмакратыі, у духоўнай сферы, так пойдзе і перабудова» («Праўда», 16 ліпеня 1987 г.). Такім чынам, фактар чалавечай асобы вырашае сёння самае галоўнае і істотнае. У жыцці павінна *з'явіцца асоба нестандартная*, багатая па духоўнаму напаўненню, з тонкім і вострым адчуваннем дэмакратызму чалавечых узаемаадносін, з перадавым светапоглядам. Адна з важнейшых задач літаратуры і мастацтва ва ўмовах перабудовы — садзейнічаць паглыбленню сучаснага светапогляду савецкага чалавека, які павінен быць заснаваны на цвёрда ўсвядомленых прынцыпах свабоды, справядлівасці і дэмакратызму.

Аднак працэс пашырэння новага светаадчування ідзе пакуль што марудна нават у галіне грамадскіх навук, а таксама ў галіне мастацтва і літаратуры, літаратурнай крытыкі. Тут вельмі часта яшчэ пануюць устарэлыя катэгорыі мыслення і скампраметаваныя звычкі навуковага і творчага жыцця. Па-ранейшаму мала адкрытасці думак, праўдзівай ацэнкі, сапраўднай павагі да фактаў, глыбіннага самараскрыцця і па-ранейшаму шмат аглядкі, няпэўных намёкаў, недагаворанасці, звычайнай баязлівасці, дыпламатыі на грані ўступак і кампрамісаў.

Дэмакратызацыя літаратурнага жыцця павінна прывесці да такой сітуацыі, калі з яго пачнуць канчаткова знікаць разлік і прыстасавальніцтва, калі немагчымымі стануць карыслівыя дэмагагічныя спекуляцыі вакол перадавых намаганняў умацоўваць прынцыпы праўдзівасці і рэалізму ў мастацкай творчасці і ў грамадскіх навуках.

**Існуе агульны ўзровень грамадскага або эстэтычнага разумення тых або іншых актуальных *праблем*, і ў адукаваным асяроддзі лічыцца непрыстойным апускацца, асабліва ў публічных выступленнях, ніжэй гэтага агульнага, распаўсюджанага ўзроўню. У нас жа не так і рэдка такое «зніжэнне» афішыравалася, на ім будаваліся разлікі на кар'еру. Пэўная катэгорыя людзей клапацілася не пра тое, каб узняцца вышэй ужо дасягнутага ўзроўню разумення складаных сацыяльных з'яў, а каб звярнуць на сябе ўвагу якраз нежаданнем нікуды ўздымацца, пафасам аховы таго, што абяцае камфортнасць і спакой. На жаль, такі тып паводзін у навуцы і літаратуры не знік яшчэ і сёння, ва ўмовах перабудовы. Кансерватызм мыслення так глыбока пранік у грамадскую практыку, што нямала людзей лічыць для сябе больш выгадным адкрытую, дэманстратыўную абарону кансерватызму і застою, чым прылучэнне да перадавых імкненняў служыць праўдзе часу. Людзей абачлівых і палахлівых не маглі не «ўражваць» шматлікія факты, калі за такое служэнне даводзілася плаціць вялікімі асабістымі стратамі, а ў перыяд рэпрэсій 30-х гадоў — і жыццём. І наадварот, удзел у падаўленні перадавых ідэй адплачваўся высокімі пасадамі.**

Той, хто больш-менш уважліва сочыць за развіццём сучаснай літаратурнай думкі, не можа не ведаць, напрыклад, што літаратурная грамадскасць у сваёй большасці не падзяліла ледзь не крымінальных адносін да тэрміна «акопная праўда» пры аналізе дасягненняў сучаснай савецкай прозы на тэму Вялікай Айчыннай вайны. Вядома, праўда мінулай вайны, як і праўда жыцця, — адна. Яна суровая, бязлітасная. Якраз такая, як «акопная праўда». У акопах быў салдат — галоўная фігура вайны, значыць — і «акопная праўда» найбольш дакладна перадае сутнасць і аблічча цяжкай перамогі савецкага народа над фашызмам. Яна, «акопная праўда», — галоўная праўда вайны. Тым не менш і сёння знаходзяцца людзі — і што асабліва дзівіць, вайскоўцы па прафесіі, — якія ўсё яшчэ бачаць у самім тэрміне «акопная праўда» нейкую ідэйную нявытрыманасць. Так, у водгуку групы чытачоў, па прафесіі вайскоўцаў, на кнігу «Літаратура пра вайну і праблемы века» («Звязда», 4 ліпеня 1987 г.) тэрмін «акопная праўда» кваліфікуецца *як прыдуманы* «некаторымі літаратарамі». Гэта, прынамсі, недасведчанасць, неразуменне таго, што тэрмін гэты ўзнік як супрацьвага параднаму паказу падзей Вялікай Айчыннай вайны.

Па-ранейшаму шмат неапраўданага выкрывальнага запалу траціцца ў некаторых органах друку на асуджэнне тэрміна «абстрактны гуманізм». Напрыклад, артыкул В. Боўша і У. Бегуна, надрукаваны ў часопісе «Политический собеседник» (1987, № 2), так і называецца «З пазіцый абстрактнага гуманізму». Аднак, аўтары, з'яўляючыся філосафамі па адукацыі, не маглі не заўважыць, што тэрмін «абстрактны гуманізм» з адмоўным ацэначным значэннем знікае са сферы ідэалагічнага ўжытку. Прычына ў тым, што сёння асабліва востра адчуваецца, што гуманізм вельмі канкрэтная каштоўнасць і яна не можа мець азначэння абстрактнасці, як не могуць быць абстрактнымі паняццямі «хлеб» або «радзіма». Яны або ёсць або іх няма. І адносна гуманізму таксама можна сказаць, што або ён ёсць або яго няма. Іншая справа, што ёсць гуманізм сузіральны, кніжны, гуманізм слоў і пажаданняў, і гуманізм дзейсны, рэвалюцыйны, гуманізм справы, да якога камуністы імкнуцца даводзіць сваю практычную дзейнасць.

Сёння класавы падыход найбольш выяўляецца праз гуманістычную пазіцыю, праз агульначалавечы характар адносін. У артыкуле члена-карэспандэнта АН СССР Ю. Жданава «Класавае і агульначалавечае *ў ядзерны век*» сказана: «Паслядоўна рэвалюцыйным класам пралетарыят з'яўляецца толькі тады, калі ён усведамляе сваю сусветна-гістарычную місію, гуманную ролю, калі ён выходзіць за свае вузкакласавыя інтарэсы, падцягвае, уздымае ўсе здольныя да гэтага класы да ўзроўню разумення агульначалавечых задач. Марксізм-ленінізм — вучэнне не пра лёс аднаго класа, а пра лёс чалавецтва» («Правда», 6 сакавіка 1987 г.)

Знікае з ідэалагічнага жыц*ця і тэрмін «пацыфізм»* у яго ранейшым значэнні, замацаваным яшчэ ў канцы XIX і пачатку XX стагоддзя, калі тэрмін азначаў непрыняцце ўсякага ўзброенага канфлікту, у тым ліку і адмаўленне рэвалюцыйнай барацьбы, калі на пацыфісцкіх перакананнях прагрэсіўнай інтэлігенцыі шырока спекулявала буржуазія ў сваіх намерах спыніць рэвалюцыйны працэс. Аднак і ў той час сумленныя пацыфісцкія намаганні аб'ектыўна служылі інтарэсам шырокіх народных мас. Спекулятыўныя хітраванні на пацыфісцкіх тэндэнцыях грамадскага жыцця часта былі дробнабуржуазнымі па сваім паходжанні. Як вядома, нават У. І. Ленін у дні барацьбы за заключэнне Брэсцкага міру абвінавачваўся з боку «левых» камуністаў у падмене лозунга рэвалюцыйнай вайны пацыфісцкім лозунгам міру з імперыялізмам.

Сёння паняцце «пацыфізм» з асаблівай нагляднасцю стала абазначаць светапоглядную арыентацыю, якая амаль поўнасцю зліваецца з разуменнем свету актыўных барацьбітоў за мір. Думаецца, невыпадкова ў «Філасофскім слоўніку» 1987 г. само паняцце «пацыфізм» апушчана, бо яму няма

**(Заканчэнне на стар. 4).**

шыць усе супярэчнасці ў кіраванні сельскай гаспадаркай, «прабуксоўвае»? Гаворка, як бачым, у духу часу, у духу перабудовы.

Яўген Будзінас прыводзіць факты, што не могуць не трывожыць. Са стварэннем Аграпрома павінен быў значна скараціцца кіруючы апарат, а на справе: «Тэлевізіёншчыкі ў Мінску хацелі зрабіць перадачу пра чалавека, які з кіруючага паста аб'яднаных міністэрстваў пайшоў бы прама ў калгас, і не змаглі зрабіць гэтую перадачу, таму што такога чалавека не знайшлі. Людзі перайшлі на больш нізкія пасады з захаваннем ранейшай заработнай платы, з тымі ж прывілеямі, але з меншай адказнасцю: *«нам» заўсёды* адказвае менш, чым «сам».

З аднаго боку — самыя лепшыя намеры, а з другога... З выказванняў удзельнікаў «стала» відаць, што па-ранейшаму ў рабоце Аграпрома адчувальна празмернае адміністраванне, пераважаюць бюракратычныя метады кіраўніцтва. Назіраюцца пралікі ў планаванні, недастатковая дэмакратызацыя ўзаемаадносін кіраўніцтва з нізавымі звеннямі. А ўсё таму, што, як ні дзіўна, забываецца простая ісціна: сапраўдны гаспадар на зямлі толькі той, хто на ёй працуе. Пра гэта нагадаў старшыня калгаса імя Іваненкі Міргарадскага раёна Палтаўскай вобласці А. Бака. Падобная думка прагучала і з вуснаў іншых выступіўшых. Аграпром «шукае» «адзінага гаспадара», прытым шукае настойліва і чамусьці забывае, што гаспадар гэты ў саміх жа калгасах, саўгасах.

Да чаго прыводзіць адміністраванне, яскрава сведчыць выступленне У. Калачыка. Штаты ў РАПА павялічыліся ў два разы, было 34 чалавекі, стала 62! Каментарыі, як кажуць, *лішнія*. А гэта ўжо лічбы, якія прывёў акадэмік Акадэміі навук Эстоніі М. Браншцэйн. У Венгрыі ў апараце Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчовай прамысловасці працуе ўсяго 500 чалавек. У Эстоніі ж — 600, а дае рэспубліка прадукцыі ў 12 разоў менш, чым Венгрыя. У іншых саюзных рэспубліках карціна яшчэ менш прывабная: не трэба забываць, што ў Эстоніі самая малая па краіне ўдзельная вага кіраўнічых затрат.

Разважанні бескампрамісныя, адкрытыя, без аглядкі, як таго і патрабуе перабудова. А як не прыслухацца да думкі У. Бядулі, што гаспадаркі пазбаўлены самастойнасці ў такой важнай справе, як вядзенне племянной работы? Не кожнаму, зразумела, гэта па сіле, ды толькі... У «Савецкай Беларусі» стварылі цэнтр трансплантацыі эмбрыёнаў, зрабілі першыя 220 перасадак, а супраць далейшай работы выступіў Аграпром рэспублікі. Маўляў, ёсць інстытут жывёлагадоўлі, там збіраюцца займацца гэтай справай. Толькі пасля выступлення У. Бядулі *на сесіі Вярхоўнага* Савета БССР, падтрымкі ўрада і ЦК КПБ супраціўленне навукоўцаў было зламана.

Нявырашаных пытанняў у рабоце Аграпрома, безумоўна, нямала. Але тое, што ёсць магчымасць гаварыць пра іх, не баючыся, што некаму гэта не спадабаецца, паколькі, маўляў, у нечым падрываецца сама ідэя перабудовы кіравання аграпрамысловым комплексам, настройвае на аптымістычны лад. Ды ў рэшце рэшт і выступленні за «сталом» мелі перад сабой мэту — агульнымі намаганнямі выправіць становішча.

Наколькі выступаўшыя мелі рацыю, сведчаць матэрыялы чэрвеньскага (1987 г.) Пленума ЦК КПСС (на іх звернута ўвага і ў справаздачы). У матэрыялах гэтых і адказ на многія праблемы кіравання народнай гаспадаркай. Тым больш відавочна карысць размовы, што адбылася і цяпер стала набыткам чытача. Праўда, ёсць да яе арганізатараў і пажаданне, каб у час наступных сустрэч была звернута ўвага і на такія важныя аспекты, як *ідэалагічнае, культурнае* забеспячэнне перабудовы ў сельскай гаспадарцы. Тым больш, што на гэта ў апошняй размове пэўныя наметкі ёсць. Скажам, У. Бядуля, развіваючы думку аб уважлівым стаўленні да чалавека працы, зазначыў, што «ўся ідэалагічная работа на дзве трэціх, калі не на тры чвэрткі складаецца ў індывідуальнай увазе да чалавека».

У пачатку справаздачы сказана, што адна з прычын выбару Грузіі ў якасці аб'екта абмеркавання: у «такіх блізкіх, такіх сяброўскіх, нават як бы роднасных адносінах паміж гаспадарчымі кіраўнікамі і работнікамі культуры, друку, кіно, тэлебачання». Разумеем, што ў арганізатараў «стала» былі іншыя, перш за ўсё эканамічныя задачы, але хацелася б, каб пытанні культуры таксама не выпадалі з поля зроку.

І яшчэ адна думка, якая міжволі ўзнікае пасля прачытання справаздачы «Што ў Аграпроме?». Канечне, і рэспубліканскімі часопісамі нямала робіцца па абмеркаванню з удзелам навукоўцаў, практыкаў надзённых праблем сучаснага жыцця. Прыярытэт у рэспубліцы, бадай, належыць «Нёману», напрыклад, «круглыя сталы» на Палессі... Але каб работа гэтая вялася так прадумана, мэтанакіравана?! Ёсць чаму павучыцца ў часопіса «Дружба народов».

**Наш аглядальнік.**

# Кастрычнік і перабудова

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2—3).

адпаведнай рэальнай тэндэнцыі ў жыцці. У выніку эвалюцыі светапоглядных асноў пацыфісцкага руху ўбок сацыялістычнага ідэалу чалавечага існавання без войнаў страціў свой ранейшы змест і сам тэрмін. Асноўны тэзіс сучаснай міжнароднай палітыкі камуністычных партый свету і краін сацыялістычнай садружнасці «Няма нічога важнейшага за мір», які можа здацца некаму генетычна пацыфісцкім, у вышэйшай ступені адпавядае класавым інтарэсам рабочага класа і ўсіх працоўных як нашай краіны, так і ўсяго свету.

Тым не менш ў лісце групы ваенных, які папярэднічае артыкулу В. Боўша і У. Бегуна «З пазіцый абстрактнага гуманізму» і таксама надрукаванаму ў тым жа нумары «Политического собеседника» і ў самім артыкуле А. Адамовіч абвінавачваецца ў пацыфізме, трактоўка якога з боку В. Боўша і У. Бегуна азначае ні што іншае, як антыпатрыятызм.

В. Боўш і У. Бягун імкнуцца абвергнуць А. Адамовіча фактам існавання справядлівых рэвалюцыйных войнаў, супраць якіх быццам бы выступае «пацыфіст»-пісьменнік. Вось які ён, глядзіце — праціўнік свабоды народаў! Але ж А. Адамовіч — і не ён адзін — звяртае толькі ўвагу на тую, прадыктаваную сённяшнімі ўмовамі нацыянальна-вызваленчага руху акалічнасць, што гэты рух пры выбары ўзброеных форм барацьбы павінен улічваць пагрозлівую магчымасць лёгкага перарастання ўсякага ўзброенага сутыкнення ў сусветную ядзерную вайну. Пра гэта не адзін раз пісалася ў тэарэтычна-філасофскіх артыкулах, змешчаных у газеце «Правда», у часопісе «Коммунист» і іншых партыйных выданнях. Так, напрыклад, у артыкуле «Марксізм-ленінізм і рэвалюцыйнасць канца XX стагоддзя» Я. Плімак піша: «У ядзерную эру, ва ўмовах насычэння і перанасычэння свету «звычайнай» і «незвычайнай» зброяй, аблытанасці ўсяго свету ваеннымі саюзамі і блокамі, насілле можа лёгка пераўтварыцца з «павітухі» гісторыі ў яе «магільшчыка». Сацыяльныя роды могуць аказацца сацыяльнай смерцю». І далей: «...Праблема выбару правільных форм барацьбы перарастае сёння ў праблему самога існавання чалавецтва. Думаецца, гэтае палажэнне выходзіць далёка за рамкі чыста тактычных пошукаў. Барацьба супрацьлеглых класавых сіл не знікае і ў ядзерную эру. Але наш час вучыць выпрацоўваць, шырока практыкаваць і кампрамісныя формы барацьбы» («Правда», 14 лістапада 1986 г.)

Узнікае пытанне, ці чытаюць аўтары артыкула матэрыялы газеты «Правда»? Напэўна, чытаюць. Але яны начыста забываюцца пра вычытанае, калі ідуць «біць» А. Адамовіча.

**Захліпаючыся ад радаснага ўзбуджэння, што А. Адамовіч злоўлены як «антыпатрыёт», В. Боўш і У. Бягун маштабна спекулююць на адным з публічных прызнанняў А. Адамовіча, пра што ён гаварыў з камандзірам савецкай падводнай лодкі, а менавіта: што прадпрыняць, калі, дапусцім, першы ядзерны ўдар агрэсара нанесены, але частка чалавецтва яшчэ захавалася, жыве? А. Адамовіч піша, што ў яго асабіста няма на гэты конт адназначнага, несумненнага адказу. І гэта можна зразумець: ядзерны век патрабуе ўзважанасці і шматмернага падыходу да глабальных праблем жыцця. А. Адамовіча ж абвінавачваюць у фактычным раззбраенні перад імперыялізмам.**

**У сувязі з гэтым згадваецца атмасфера перадваенных гадоў, калі пад страхам абвінавачвання ў здрадзе было забаронена не толькі вывучаць, але і абгаворваць тактыку адступлення і саму магчымасць часовага паражэння на полі бою. І такая забарона, як цяпер нам вядома, вельмі дорага каштавала Чырвонай Арміі і савецкаму народу. Дарэчы, вельмі часта тыя, хто быццам бы не мог нават чуць слова «адступленне», першымі ж і беглі ад ворага.**

Камуністы таму і з'яўляюцца перадавой сілай чалавецтва, што яны навукова аналізуюць усе магчымыя з'явы і пагрозы заўтрашняга дня. Як цяпер стала шырока вядома, У. І. Ленін у цяжкія для Савецкай улады дні 1918 года дапускаў магчымасць паражэння сацыялістычнай рэвалюцыі, але разам з тым ніхто так горача не верыў у канчатковую перамогу сацыялізму ў Расіі і ніхто так самаадданa не працаваў дзеля гэтай запаветнай мэты, як ён, У. І. Ленін.

І калі А. Адамовіч імкнецца ўсебакова абмеркаваць магчымую крызісную сітуацыю, то, вядома ж, не дзеля таго, каб яе апраўдаць, а каб яе папярэдзіць. У яго аповесці «Апошняя пастараль» паказваецца, як у час ядзернай вайны застаюцца толькі двое людзей на ўсім свеце. І такую сюжэтную сітуацыю пісьменнік выбраў не таму, што яна мілая яго сэрцу, а па той прычыне, што ён прагне, каб такое ніколі не здарылася. Не зразумець гэтай простай дыялектыкі — значыць нічога не зразумець.

**Змест артыкула В. Боўша і У. Бегуна «З пазіцый абстрактнага гуманізму» не можа мець аб'ектыўнай логікі, бо ён будуецца на відочна лжывым першасным пастулаце, які знарок скажае пазіцыю А. Адамовіча і яго грамадзянскае аблічча. Вось пачатак артыкула: «Паколькі існуе пагроза новай вайны, чытачу няцяжка ўявіць сабе такую сітуацыю. Вось пачынаецца такая вайна; прыходзіць агрэсар, і ён, як некалі фашысцкія каты, катуе і ставіць да сцяны вашых бацькоў. Бадай, зразумелыя паводзіны кожнага ў гэтым выпадку—трэба абараняць бацьку і маці. Чаго б гэта ні каштавала, іх мы не аддадзім на здзек і смерць. Як жа інакш?»**

**Адразу кідаецца ў вочы непрыхаваная падмена прадмета абмеркавання: А. Адамовіч гаворыць пра магчымую будучую ядзерную вайну, а аўтары артыкула пастуліруюць сітуацыю з мінулай вайны. Варта сказаць, што ў будучай вайне наўрад ці агрэсару будзе каго ставіць да сцяны—не застанецца нікога. Але галоўнае ў тым, што, узяўшы сітуацыю з мінулай вайны, аўтары пабілі самі сябе, бо ставіць А. Адамовічу ў віну, што яму мала клопату пра бацькоў, якіх катуе агрэсар, не толькі несправядліва, недарэчна, але кашчунна. А. Адамовіч у час Вялікай Айчыннай вайны шаснаццацігадовым юнаком пайшоў у партызанскі атрад, каб абараняць сваю маці, усіх мацярок роднай зямлі.**

**У артыкуле «З пазіцый абстрактнага гуманізму» вялікімі і, часам, несумненнымі намаганнямі яго аўтараў з цёмных закуткаў мінулага рэгрэсу і застою выклікаюцца да жыцця ўсе хімеры схаластыкі і дагматызму, якія толькі маглі ўзнікаць у мінулыя дзесяцігоддзі.**

Такім чынам, як паказвае практыка ідэалагічнага жыцця, перабудова ў духоўнай сферы будзе хутчэй за ўсё працяглы час суправаджацца працэсам размежавання сіл кансерватыўных, ваяўніча-дагматычных з аднаго боку і з другога — сіл, здатных адчуць подых перспектывы ў развіцці грамадскай свядомасці, пакуль не прасветліцца ісціна часу ў сваім асноватворным сэнсе. Цяпер жа гэты працэс размежавання запатрабуе, напэўна, малапрадукцыйнай абароны ўжо агульнавядомых рэальнасцей сучаснага духоўнага жыцця, прыняць якія яшчэ не ўсе згаджаюцца. Шкада, што на гэты занятак будзе траціцца шмат часу і энергіі замест таго, каб аддаць іх поўнасцю на стваральна-пошукавую дзейнасць.

**Віктар КАВАЛЕНКА,**
**член-карэспандэнт АН БССР, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы.**

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

**ЧЫТАЧ ПЫТАЕЦЦА...**

# НЕКАЛЬКІ «ЧАМУ?»

**Зараз грамадскасць рэспублікі гаворыць пра паляпшэнне навучання беларускай мове дзяцей. Ну а дарослыя? Не ўсе з іх таксама ведаюць беларускую мову. Можа, хто б і хацеў яе вывучыць, але дзе, як і па чым? У нас няма добрых падручнікаў для дарослых. Напрыклад, у іншых саюзных рэспубліках выйшлі падручнікі для дарослых («Узбекский язык для взрослых. Самоучитель»; «Самоучитель грузинского языка»; «Русско - литовский разговорник»). А нам хіба не патрэбны размоўнікі і іншыя падручнікі для тых, хто цікавіцца беларускай мовай?**

**І яшчэ адно пытанне. Паглядзіце на помнікі нашым пісьменнікам. Ні на адным не напісана, што гэта Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. Нядаўна да мяне прыехаў сябра з Горкага, мы хадзілі з ім па Мінску. На плошчы Якуба Коласа госць пытае: «А што гэта за дзядзька сядзіць? Чаму не напісана, хто гэта?»**

**І сапраўды — чаму не напісана?**

**А вось другі прыклад. Адкрыўся новы аэрапорт пад Мінскам, і нічога іншага не знайшлося, як аэрапорт Мінск-1, аэрапорт Мінск-2. А чаму б новаму аэрапорту, нашым галоўным варотам, не даць адметную наскую назву? Хай кожны госць адчувае адразу, што ён прыляцеў у Беларусь!**

**А колькі можна будаваць Захадаў — 1, 2, 3 і г. д.?**

**У. ГОЛУБЕЎ.**
г. Мінск.

**ПРАЦЯГВАЕ РАЗМОВУ...**

# ЧЫЙ УСЁ Ж КЛОПАТ?

Прачытаў у «ЛіМе» артыкул К. Тарасава «Праўдзе ў вочы» (нумар за 4 верасня г. г.), і ён выклікаў цікавасць, як і папярэдні — «Дасягнуты ўзровень» («ЛіМ» за 21 лістапада 1986 г.), таксама прысвечаны пытанням падпіскі. Шкада, што газета друкуе такія артыкулы толькі ў час падпісной кампаніі, бо гаворка ідзе пра вельмі важнае пытанне нашай культуры.

Газета не толькі расказвае аб выніках падпіскі на беларускамоўныя выданні, але глыбока даследуе праблему, ускрывае прычыны недахопаў у гэтай важнай справе. Тут у вузел завязаны інтарэсы работнікаў пошты, чытачоў, грамадскага актыву, у першую чаргу партыйных, камсамольскіх, прафсаюзных арганізацый.

Калі летась я чытаў артыкул «Дасягнуты ўзровень», то здзіўляўся многім лічбам падпіскі. У 12-ці сярэдніх школах Слуцка выпісаны толькі два экземпляры часопіса «Маладосць», тры экземпляры «Полымя» і ніводнага «ЛіМа». Як жа так? Самі настаўнікі, напэўна, мала чытаюць гэтыя выданні? Калі яны так робяць, то глыбока памыляюцца самі і ўводзяць у зман дзяцей. Відаць, не лепшым чынам абстаяць справы і ў іншых гарадах і раёнах рэспублікі.

Чытаў я таксама ў газеце «Советская Белоруссия» пісьмо «Праўдзе ў вочы», якое напісалі начальнік Мінскага гарадскога агенцтва «Саюздрук» П. Кудрэйка і начальнік Мінскага гарадскога паштамта А. Маслаў. Я з павагай стаўлюся да гэтых людзей, да іх працы, але з некаторымі хуткаспелымі іх вывадамі не згодны. Лічу, што справа зусім не ў якасці матэрыялаў, якія публікуюцца ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена» і іншых. Наадварот, тут друкуецца шмат цікавых твораў і матэрыялаў, прычым, што называецца, з першых рук — узятых непасрэдна ў паэтаў і пісьменнікаў.

Можна толькі пашкадаваць, што са спазненнем у 15—20 гадоў у нашай рэспубліцы прымаюцца захады для пашырэння ўжывання беларускай мовы, паляпшэння яе выкладання ў школах, вышэйшых і сярэдніх навучальных установах. Але гэтага будзе мала, калі шырокая грамадскасць не задумаецца над значэннем і роллю роднай мовы як адной з галоўных частак нацыянальнай культуры. Да чаго заклікаў лаўрэат Ленінскай прэміі Васіль Быкаў у сваім нядаўнім выступленні па Цэнтральным тэлебачанні.

Але вернемся да артыкула двух аўтарытэтных кіраўнікоў. Мне думаецца, што яны самі ад выпадку да выпадку зазіраюць у часопісы «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», у газеты «ЛіМ», «Звязда» і іншыя. Адсюль і павярхоўная крытыка. Не хапіла аўтарам, на жаль, самакрытычнасці. Пра тое, што робяць работнікі «Саюздруку», паштамта Мінска дзеля таго, каб змяніць нядзейсную сістэму рэкламы, метадаў і формаў работы з падпісчыкамі, з рознымі іх катэгорыямі, П. Кудрэйка і А. Маслаў прамаўчалі. Але ж мы ведаем, што ўся прапаганда падпіскі на перыядычны друк, у тым ліку і на беларускамоўныя выданні, якой была 20—30 гадоў назад, такой і засталася. Нічога новага няма. «Выпісвайце газеты і часопісы», «Напамінаем аб падпісцы» і іншыя падобныя, знаёмыя з дзіцячых гадоў плакаты і заклікі. А дзе, напрыклад, зацікаўленая сустрэча ідэалагічнага актыву прадпрыемстваў, арганізацый, раёнаў з работнікамі «Саюздруку», пошты, з пісьменнікамі, выдаўцамі? Канечне, работнікі «Саюздруку» і іншых арганізацый тое-сёе робяць. Але ведаю з уласнага вопыту, якія гэта слабадзейсныя мерапрыемствы. На радыё і тэлебачанні ў гэтым накірунку вялікіх зрухаў таксама няма.

Многія гады давялося мне быць распаўсюджвальнікам перыядычнага друку, і скажу, што многае ў справе падпіскі залежыць ад ідэалагічнага актыву, ад партыйнай і камсамольскай, прафсаюзнай арганізацый. Але ў рабоце па прапагандзе перыядычнага друку пераважаюць адміністрацыйныя размовы, тэлефонныя званкі, тэлеграмы, указанні, лічбы, а жывой работы з жывым чалавекам вельмі мала.

Я даўно ўдзельнічаю ў рабоце актыву. І цяпер, знаходзячыся на пенсіі, працую, узначальваю партыйную арганізацыю прадпрыемства, праводжу палітдні, палітінфармацыі, заняткі ў групах палітычнай і эканамічнай вучобы. Удзельнічаю ў рабоце многіх семінараў, нарад, у розных інструктажах, у тым ліку арганізаваных райкомам партыі, райвыканкомам. Скажу шчыра, што не помню такога выпадку, каб калі-небудзь на адным з семінараў ішла зацікаўленая гаворка аб падпісцы на беларускамоўныя выданні. Бывае так, што пазвоняць, дадуць указанні, каб была падпіска на пэўную колькасць экземпляраў газеты «Звязда». А пра такія выданні, як «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «ЛіМ»,—ні разу ніякай гаворкі не чуў. Было б добра правесці спецыяльны семінар па падпісцы на беларускамоўныя выданні, дзе выступалі б сакратары партарганізацый, кіраўнікі цэхаў, змен і г. д. І запрасіць на такія семінары пісьменнікаў, выдаўцоў, рэдактараў. Гэта было б цікава і дзейсна. Я згодны прыняць у такіх мерапрыемствах самы актыўны ўдзел і буду дамагацца праз райком КПБ, каб праводзіліся такія мерапрыемствы.

Сам я па прафесіі кадравы ваенны, каля 30 гадоў служыў у арміі, у асноўным далёка за межамі Беларусі, але ўсюды чытаў беларускія газеты. Часопісы «Маладосць», «Полымя» прысылалі мне па пошце, ды і сам заўсёды прывозіў іх з адпачынку. Кнігі таксама... Служыў палітработнікам у арміі, не раз праводзіў чытацкія канферэнцыі, вечары паэзіі, заняткі ў літаратурным гуртку, дзе чыталі творы Я. Коласа, Я. Купалы, Н. Гілевіча і многіх іншых беларускіх паэтаў. Дарэчы, у падраздзяленнях нямала служыла беларусаў — афіцэраў, салдат, сяржантаў, прапаршчыкаў. Армейская сям'я заўсёды шматнацыянальная, нават у адной роце (батарэі) служаць прадстаўнікі 20-ці і больш нацыянальнасцей.

І вось я не ўяўляю рабочага ці інтэлігента, кіраўніка або партыйнага работніка, якога б сёння не цікавілі літаратура і мастацтва. Сёння без ведання культурнага жыцця рэспублікі абысціся немагчыма.

Заканчваючы сваё пісьмо, хачу пажадаць, каб у «ЛіМе» працягвалася гаворка, распачатая артыкуламі «Дасягнуты ўзровень» і «Праўдзе ў вочы», каб выказаліся тыя зацікаўленыя асобы, ад каго залежыць падпіска на перыядычны друк.

**С. ФЯНЬКО,**
**ветэран Савецкай Арміі.**
г. Мінск.

**ПРАПАНУЕ...**

# УВЕКАВЕЧЫЦЬ ІХ ПАМЯЦЬ

**Я гадоў пятнаццаць працую на Мядзельшчыне, і даўно ўзнікалі ў мяне невясёлыя думкі пра стан помнікаў нашай гісторыі ў гэтым краі. Гаварыў пра гэта з адказнымі асобамі, з таварышамі з таварыства па ахове помнікаў гісторыі і культуры, ды карысці з тых гаворак мала. Мусіць, там павінны працаваць іншыя людзі, якія ведаюць і любяць свой край і могуць рабіць справу не толькі за грошы.**

**На беразе Нарачы ля в. Нікольцы ў першую сусветную вайну стаяў фронт, а могілкі рускіх салдат знаходзіліся ў тыле, ля вёскі Сабалеўшчына, там некалі была драўляная каплічка. Думаю, што мы, нашчадкі салдат першай сусветнай вайны, павінны паставіць ім помнік. Такім помнікам можа быць вялікі валун (як пры ўездзе ў Маладзечна) з мемарыяльнай шыльдай.**

**Лічу таксама, што трэба ўвекавечыць памяць чырвонаармейцаў, расстраляных у Мядзелі ў грамадзянскую вайну. Спасылкі на тое, што невядома, дзе яны пахаваны, звычайная адгаворка, бо яшчэ жывуць людзі — сведкі тых падзей.**

**У нас, на Нарачы, вельмі шмат памятных мясцін — даўнія гарадзішчы, валатоўкі, памяткі баёў, экскурсіі іх не ахопліваюць. Шмат што трэба добраўпарадкаваць, зрабіць знакі і зручныя пад'езды. На гісторыю сваю трэба глянуць па-новаму, а то бывае сорамна перад гасцямі, турыстамі.**

**В. ПАЧКОЎСКІ.**
г. п. Мядзель.

ДЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# Еднасць лёсаў і культур

Białoruś, Białoruś
Sokrat Janowicz
Iskry

Варшаўскае выдавецтва «Іскры» выпусціла кнігу «Беларусь, Беларусь» Сакрата Яновіча, беларускага празаіка, які нарадзіўся і жыве ў Польшчы. «Палякі і беларусы маюць за сабой шэсць стагоддзяў агульнага лёсу, а значыць агульнай гісторыі», — зазначае аўтар. І пачынае ён свой роздум у кнізе пра ўзаемадачыненне беларускага і польскага народаў ад Люблінскай уніі 1569 года, а заканчвае паведамленнем аб тым, што на вайсковых могілках у Кракаве нядаўна знойдзена магіла беларускага паэта Алеся Гаруна (Аляксандра Прушынскага), 100-годдзе з дня нараджэння якога адзначалася сёлета.

Польская зямля дала прытулак не толькі Алесю Гаруну. У Кракаве, напрыклад, вучыўся і славуты беларускі асветнік, першадрукар усходніх славян Францішак Скарына з Полацка, а таксама многія іншыя вядомыя дзеячы беларускай культуры. А беларуская зямля ў сваю чаргу ўзрасціла славутага паляка Адама Міцкевіча. І не толькі яго.

**Здаровы ж будзьце, гэй,**
**добрыя весці!**
**Там, на Заходзе, праліваюць**
**кроў,**
**Б'юцца для славы, свабоды**
**і чэсці**
**І робяць вольных людзей**
**з мужыкоў, —**

пісаў на беларускай мове польскі паэт Л. Сыракомля, які нарадзіўся на Смаргоншчыне. С. Яновіч звяртае ўвагу і на тое, што пачатак беларускай нацыянальнай оперы паклаў польскі кампазітар Станіслаў Манюшка операй «Сялянка», пастаўленай у Люцынцы.

Успамінае аўтар Вячаслава Рагойшу, Алега Лойку— сучасных даследчыкаў беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязей. Згадвае А. Карпюка, які нарадзіўся на Беласточчыне, дзе і сягоння ведаюць яго творчасць, у прыватнасці, аповесць «Данута» была выдадзена на польскай мове ў Лодзі.

Піша Яновіч аб перакладах беларускай літаратуры на польскую мову і польскай на беларускую. Янку Брыля лічыць цэлай эпохай у сучасных беларуска-польскіх узаемадачыненнях. Не забывае аўтар і пра ўклад у гэтую справу Адама Мальдзіса. (Да слова, сам С. Яновіч таксама займаецца перакладамі. Ён пераклаў на беларускую мову творы Тадэвуша Ружэвіча, Эдварда Радлінскага, Багуслава Фаліцкага і інш.).

**Гятрусь КАПЧЫК.**

ЛІТАРАТУРНЫ ПРАЦЭС: НАЗІРАННІ, ЗАЎВАГІ, ДУМКІ

# Шукаць духоўны след

**Марына НОВІКАВА**

**Семдзесят гадоў мы вучымся ў школе, якую Мікола Бажан назваў школай міжнацыянальных культурных зносін. А пра вынік гэтага навучання добра сказаў Дзмітро Белавус: «Першае, што я адчуваю ў сённяшняй працы... — гэта бясконца пашыраны кантэкст: рэспубліканскі, усесаюзны, сусветны... Ад нашай культуры і да нашай культуры працягнуліся шматлікія духоўныя ніці — і ўшыркі, да іншых народаў, і ўглыб, да гісторыі ўласнай» («Радуга», 1986, № 6).**

**Адкуль жа тады цяжкасці? «Праблема інтэрнацыянальнага выхавання — адна са складанейшых, бо яна ў нас заклішыравана і ператварылася ў нейкія стэрэатыпы на ўзроўні заклінанняў і лозунгаў». Мы не раскрываем «сутнасць і значэнне, жыццёвую неабходнасць самога паняцця «інтэрнацыяналізм» на канкрэтных прыкладах і сітуацыях». Гэтыя словы належаць пісьменніку, які дасканала ведае як кіргізскую, так і рускую мовы, які звяртаецца ў сваіх кнігах да самых разнанацыянальных пластоў нашага жыцця, — Чынгізу Айтматаву («Огонёк», 1987, № 28).**

**Заўважце, ён адрасуе свой папрок не «яму» або «ім» — усім нам. Мы пачынаем вастрэй разумець: казёншчына ў справе інтэрнацыянальнага выхавання толькі на шкоду. Свет, час, грамадства сталі іншымі.**

**«Самыя апошнія дзесяцігоддзі адметныя тым, — гаварыў М. С. Гарбачоў на міжнародным форуме «За бяз'ядзерны свет, за выжыванне чалавецтва», — што ўпершыню ў сваёй гісторыі чалавецтва, а не асобныя толькі яго прадстаўнікі, пачынае ўсведамляць сябе адзіным цэлым, бачыць глабальныя ўзаемасувязі чалавека, грамадства, прыроды...» «Небывалая шматстайнасць і адначасова ўзрастаючая ўзаемазвязанасць і ўсё большая цэласнасць свету» патрабуюць новага мыслення, новых адносін да паняццяў звыклых, здольных дэвальвіравацца ад бяздушнага ўжывання.**

**«Чуття единої родини» («чувство семьи единой») — так, сцісла і дакладна, вызначыў Паўло Тычына нашы адносіны *крэўнай роднасці, узаемнага дачынення*. Радок зрабіўся формулай, формула — мноства разоў паўторанай цытатай. А бясконцае цытаванне, трубна ўзмацняючы агульны сэнс, паступова выветрывала з яе *найтанчэйшыя, але істотныя* адценні.**

**«Сям'я» ва ўмовах цытаты непрыкметна ператваралася ў метафару, і «пачуццё» станавілася сінонімам хутчэй калектыўнага светапогляду, чым нечага асабістага, патаемнага: адчування «не свайго» як свайго. Невыпадкова ў большасці артыкулаў пра сувязь нашых літаратур гаворыцца пра падабенства сюжэтаў, перагукванне вобразаў, пра паездкі пісьменнікаў у тую ці іншую рэспубліку. Усё гэта правільна, але...**

**Але жыццё адной сям'і перш за ўсё мае на ўвазе адзінства ДУХОЎНАЙ БІЯГРАФІІ. Усё, што здарылася ў тваёй сям'і, — гораснае або светлае, страшнае або гераічнае — здарылася непасрэдна З ТАБОЙ. Значыць, не сюжэты і не колькасць паездак трэба было б найперш успамінаць, маючы на ўвазе інтэрнацыянальныя сувязі, а шукаць духоўны СЛЕД. Маральны, сацыяльны, усёй існасцю засвоены *УРОК*.**

**Вось я і паспрабую знайсці такі след — хай сабе ў нямногіх, але істотных накірунках. Пры гэтым прыглядзецца, памятаючы словы Ч. Айтматава, да адзінага праз рознае, да агульнага *праз канкрэтнае*.**

Калі будучыя гісторыкі захочуць пералічыць стрыжнёвыя тэндэнцыі культуры 80-х, — што назавуць перш за ўсё? Напэўна — узрыў «неафальклярызму». І не толькі ў літаратуры. Фальклорныя ансамблі, фальклорны стыль у адзенні, фальклорныя элементы ў архітэктуры. Музеі пад адкрытым небам. «Пеўчыя палі» на Украіне (і на Беларусі таксама рыхтуюцца) — як працяг аналагічных святаў песні ў Прыбалтыцы.

Няўжо фальклору не было ў кругаглядзе нашай шматнацыянальнай літаратуры раней? Вядома, ён быў, **не мог** не быць. У гэтым «не мог» — спецыфіка ранняга этапу. *Фальклярызм успрымаўся як радзімая пляма маладых літаратур,* якія ад яго менавіта рухаліся ў славеснасць кніжную, «вялікую», «не горш, чым у іншых».

«...як можа маладая літаратура адарвацца ад слова народнага, вуснага?» Самыя першыя крокі яе «абавязкова абумоўлены фальклорнымі традыцыямі», — так пісаў пра гэты этап украінскі паэт і крытык П. Моўчан, і пісаў слушна.

20-ыя, 30-ыя, 40-ыя гады зрабілі шмат: былі ажыццёўлены навуковыя запісы фальклору народаў СССР (у многіх рэгіёнах — упершыню). Фальклор, *перш за ўсё народны эпас,* пачаў шырока перакладацца на рускую мову і на мову іншых рэспублік (у многіх выпадках — упершыню). Але што ў гэты час выйшла на першы план? Фальклор як жывы помнік — гістарычны, сацыяльны, этнаграфічны. Дзе сацыяльнасці здавалася мала, яе прыбаўлялі ў фальклор новы і навейшы. *Гаворка не толькі пра* вяршыні, дзе вяршыў палёт усім памятны арол: такога кшталту «актуальнымі» стылізацыямі адкрываліся найбольш урачыстыя канцэрты. Іншая справа — «Кубанскія казакі», кінаутопія не толькі эканамічная, але і **фальклорная.** Тут не адмахнешся так проста: маўляў, такі «псеўдафальклор» насаджалі зверху. Не, песні з гэтага фільма сапраўды спяваліся як народныя. Зразумела, чаму: гэта быў далёка не горшы, не бяздарны варыянт. Але будзе і іншы фільм, сучасная дакументальная **антыутопія** — «Лучыначка», дзе выканаўца самых спрадвечных рускіх песень з болем усклікне: у вёскі такія песні, як я спяваю, везці немагчыма, ад іх людзей адвучылі, там гэта абраза, «дзеравеншчына».

Боль фальклорнай спявачкі прагучыць сігналам трывогі ў канцы 70-х і пачатку 80-х. Што ж было паміж «тады» і «зараз»? Паласа 50-х і 60-х гадоў. Новы пісьменніцкі «прызыў», які прынясе з сабой і новыя адносіны да вуснай народнай творчасці. У беларусаў гэта, да прыкладу, — Рыгор Барадулін (спашлюся на свой матэрыял «Групавы партрэт з Барадуліным», «ЛіМ», 16 студзеня 1987 г.). Сказанае пра яго — «вярнуў нам пачуццё дзёрзкасці фальклору»—магло быць сказана пра ўкраінца Івана Драча, пра малдаваніна Грыгора Віеру. Пра іх аднадумцаў з іншых рэспублік і з іншых краін.

Дзёрзкасць, складанасць, навізна, сінтэз — вось акцэнты фальклярызму 60-ых. Радаснае адкрыццё «сваіх» нацыянальных карэнняў, але і абавязкова — смелае злучэнне «свайго» з самым эксперыментальным, самым нязвыклым вопытам суседзяў, *блізкіх і далёкіх.*

Дык што: трыумфальнае шэсце? Зусім не. Узнікла і небяспека. Маўляў, магу гуляць з фальклорам: сёння пішу пра бабулю на хутары, заўтра — пра сінхрафазатрон (яшчэ лепш — пра бабулю ў «сінхрафазатронным» стылі).

Аднак ішлі другія часы, несучы іншую *пазіцыю* адносна фальклору.

Есць у культурна-гістарычнага працэсу нейкая амаль гаспадарская ашчаднасць, з якой ён пакідае ў запасе **кожнага** пакалення і кожнай нацыянальнай культуры якісьці «нетыповы» рэзерв. Спецфонд, які не скарыстоўваецца паспешна. З гэтага фонду «няштатных» нестандартных біяграфій і прабіваюцца потым парасткі для новай культурна-гістарычнай паласы.

Тром мастакам наканаваны лёсам такія маргінальныя біяграфіі. Віктар Кордун (Украіна), Алесь Разанаў (Беларусь), Кнут Скуініекс (Латвія). Усе трое ішлі «да сябе» праз фальклор; усіх трох адсоўвалі ў цень фігуры больш кідкіх «шасцідзесятнікаў», усе яны *перасеклі фальклор па розных кірунках,* усе выклікаюць да сябе сёння абвостраную цікавасць.

У апошні час адбыўся яшчэ адзін «фальклорны бум» — у навуковых выданнях. Навукоўцаў цікавіць не верхні пласт фальклору, не яго святочна-дэкаратыўны бок — а глыбінная, тысячагадовая сутнасць. Здавалася б: што нам гэта глыбіня, што мы ёй? І мы здзіўляемся: чаму Людміла Азарава, архісучасная паэтэса з Рыгі, перакладчыца латышскіх верлібраў, бярэцца за пераклад старажытных замоў? Эстонскі кампазітар Вельа Торміс ствapae «Закляцце жалеза», дзе, па яго прызнанні, «голас продкаў, якія праклiналі жалеза за яго здольнасць рабіцца зброяй і забіваць, зліваецца з галасамі людзей XX стагоддзя, што праклінаюць ядзерную вайну». А пісьменнік-эстонец Леннарт Мэры адшуквае ў Сібіры рытуал «Вялікага мядзведзя». Свята ва ўзросце трох тысячагоддзяў збераглося цалкам, «у строгім чаргаванні песень, танцаў, абрадавых дзеянняў», з касцюмамі і маскамі, з усімі 270 песнямі аб'ёмам каля 30 тысяч радкоў. «Цяжка паверыць і яшчэ цяжэй уявіць, — усклікае Мэры, — што гэта «*вялізная кніга... бытуе* адно ў калектыўнай памяці паўтара дзесятка паляўнічых і рыбаловаў, у іх мазгавым рэчыве», і дасюль не зафіксавана ні на кінаплёнцы, ні на паперы — «не ўступіла ў дыялог з сусветнай культурай, не здабыла вечнасці» («Советская культура», 17 лютага 1987 г.).

Два-тры дзесяцігоддзі назад цяжка было б усвядоміць неабходнасць такой фіксацыі, такога дыялога, зразумець інтэрнацыянальную каштоўнасць таежнага абраду. Наўрад ці знайшоўся б тады правідзец, здольны ўбачыць у Іманце Зіедонісе, які праявіў сябе як паэт і публіцыст «сельскай тэмы», будучага аўтара прадмовы да народных латышскіх песень-дайн — выдання для школьнікаў.

Ну, пісаў бы ён як прынята: што народныя песні апяваюць прыроду, апісваюць цяжкае паднявольнае жыццё ў мінулыя часы і г.д. А Зіедоніс пачаў тлумачыць дзецям, як народ у дайнах «адказвае на вялікія пытанні быцця: навошта я на свеце? Ці ёсць пэўныя законы, па якіх трэба жыць? І калі народ іх вынасіў, то як імі карыстацца?»

Алесь Разанаў тыя ж пытанні ставіць у сваіх эсэ пра народнае слова — якое не адбітак быцця, а калодзеж у сутнасць існавання. А вось інтэрпрэтацыя фальклору Кнута Скуініекса: «Паглыбляючыся ў гісторыю, мы трапляем... у дагістарычныя часы». Мы прыходзім к міфу, к «непасрэднай сувязі з прыродай», к старажытнаму «светаадчуванню цераз увасабленне». У рэшце рэшт — к адзінству Чалавека і Сусвету.

Гэта канцэпцыя і аб'ядноўвае Кордуна, Разанава, Скуініекса як паэтаў. Іх «фальклярызм» не «плавае» па тэксту, ён закладзены ў першаасновах. Фальклор для іх — сусветны лад, рытуал быцця, алфавіт першаэлементаў чалавечай культуры. А не сыравіна для стылізацыі.

*Нарэшце выявілася тое,* чаго не было відно пад дэкаратыўным арнаментам фальклярызацыі: інтэрнацыянальныя ўстоі фальклору. Яго агульначалавечыя карані. Чым больш паглыбляемся ў фальклор кожнага народа, тым менш застаецца «выключна» свайго, тым прыкметней падводныя мацерыкі міграцый, перасячэнняў праагульнасцей. Разанаў, перакладаючы літоўцаў, Скуініекс народныя песні ці не ўсёй Еўропы, Кордун — югаслаўскую і польскую паэзію, — усе яны адчулі гэта, бадай, скурай пальцаў.

Але фальклор, адкрываючы нам свае магчымасці, адкрывае і ўласныя прыроджаныя абмежаванні.

Так, «глыбінны» фальклор шмат у чым універсальны. Шмат у чым, але не ва ўсім. Спакон вякоў ён апавядае пра родавага чалавека і ад імя яго. *Сацыяльна-маральных* катэгорый «асобы» і «чалавецтва» ў ім няма і быць не можа: яны — з другой эры. Вось чаму фальклорны чалавек адначасна і «большы» за сучаснага чалавека — індывідуума і «меншы» за сучаснага чалавека — члена чалавецтва.

Без літаратурных доказаў такі чалавек ведае, што забіць Цар-рыбу ці Маці-аленіху азначае наклікаць бяду на родзічаў і на самога сябе. І ён жа не ведае, як гэта — суперажываць не «сваім» і як расплачвацца за грахі «чужых». Яму невядомыя адчуванне і нормы паводзін чалавека ля ядзернай кнопкі.

Прырода ў фальклоры бессмяротная. Таму і прыродны цыкл, згодна з якім жыве чалавек, таксама вечны. А калі парніковы эфект і хімічная задыха зямлі пагражаюць як цалкам асязальная рэальнасць? *Калі прырода планеты* перастае быць вечнай? Тады фальклор без'языкі.

Вось і б'юцца паэты над тым, як паяднаць фальклор і асобу, фальклор і сучаснае чалавецтва.

Кордун прапаноўвае ўтопію: ідылічнае яднанне чалавека і зямлі, усіх людзей як аднаго вялікага роду (паэма «Славія») прадстае і правобразам мінулага і ўзорам для будучага.

Разанаў выбірае папярэджанне. (Адна з паэм-прыпавесцяў так і называецца).

Гармонія свету, па Кордуну, дадзена адвечна, намаганні патрэбны, каб яе спасцігнуць. Гармонія свету, па Разанаву, толькі здабываецца — доўга і цяжка.

Скуініекс недзе пасярод. Ён сціплей, «цішэй», на першым плане ў яго не «я», а свет, космас.

Такім чынам, пласт за пластом рознанацыянальныя «пытанні» і «адказы» знімаюць з фальклору экзотыку, дэкаратыўнасць, «нацыянальную недатыкальнасць». Пытанні гістарычна мяняліся, адказы таксама. Аднак невыпадкова супаў час 80-ых і нашы новыя адносіны да старажытнага фальклору. Тэмпература гэтых адносін (унутраная, не знешняя), яго маштаб аказаліся адпаведнымі тэмпературы і маштабам самых кардынальных зрухаў унутры нашага грамадства і ўсяго свету.

г. Сімферопаль.

**КРЫТЫКА БІБЛІЯГРАФІЯ**

# Буйным планам

*М. Мятліцкі. Ружа вятроў. Вершы і паэмы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.*

«РУЖА вятроў» — новы зборнік вершаў і паэм Міколы Мятліцкага. Эпіграфам да яго ўзяты ўрывак з верша М. Багдановіча:

**Хто мы такія?**
**Толькі падарожныя,—**
**Папутнікі сярод нябёс.**
**Нашто ж на зямлі**
**Сваркі і звадкі, боль і горыч,**
**Калі ўсе мы разам ляцім**
**Да зор?**

Згаданымі багдановічаўскімі радкамі паэт хацеў, відаць, напомніць, што мы далёка не першыя, хто задумаўся над складанасцю свету і чалавечым лёсам. Думалі і да нас—класікі. Не перабольшваючы можна сказаць, што ў гэтых радках— уся ідэйная праблематыка сучаснай беларускай паэзіі.

Напомню словы касманаўта У. Джанібекава (нядаўна друкавала «Правда») пра Зямлю, якую ён убачыў з космасу: «З космасу, як ніадкуль, відаць яе ранімасць і кволасць... Думаеш: калі б замест планаў «зорных войн», якімі цешацца гарачыя галовы з Пентагона, скааперавацца і стварыць глабальную сістэму збору навуковай інфармацыі, якую б неацэнную карысць мы прынеслі гэтым і сабе, і нашчадкам, наколькі акуратней і эфектыўней маглі б развіваць нашу прамысловую і прыродакарыстальную цывілізацыю».

А вось радкі беларускага паэта:

**Аднойчы на Зямлі**
**Нам стрэцца давялося,**
**Пранесці неспакой**
**Здарожана ў жыцці,**
**Пачуць вякоў зямных**
**Сівое адгалоссе**
**І назаўжды з Зямлі**
**Аднойчы зноў сысці.**

**Чаму ж тады на ёй**
**Хатыні, Асвенцімы,**
**Калі чакае ўсіх—**
**Зямлі сырое тло?!**
**Чаму цікуе нас**
**Крывавымі вачыма**
**Ва ўсіх зямных вяках**
**Раз'юшанае Зло?**
**(«*** Аднойчы на Зямлі...»)**

*М. Мятліцкі* перадае светаадчуванне свайго сучасніка. Даўняе пытанне Багдановіча ён ставіць на новай сацыяльнай глебе, у непараўнальна больш жорсткіх абставінах нашага часу. Інакш кажучы, ён дзейнічае ў рэчышчы традыцыі—сваім асабістым духоўным і біяграфічным вопытам супрацьстаіць сілам зла, энтрапіі чалавечага адчужэння. А ў чым, як не ў гэтым — у супрацьстаянні злу, забыццю, «чорнай імжы» адзіноты, — і заключаецца задача паэзіі, яе «галоўная тэма»!

Думаецца, такі погляд у многім блізкі М. Мятліцкаму. Адсюль—інтэнсіўнасць і смеласць паэтычнай думкі, маштабнасць і кантрастнасць вобразнасці, адмаўленне ад пабытавага плана. Новая яго кніга перш за ўсё звяртае на сябе ўвагу постаццю лірычнага героя, які жыве трывогамі часу.

**Устае агромністы шар,**
**Выкрасае з цемры красу,**
**Аздабляе свету абшар,**
**Асвятляе расу і слязу.**
**(«*** На далонях — сонца нясу...»)**

Паводле паэтычнай філасофіі М. Мятліцкага, усё ў свеце ўзаемазвязана—сонца, раса і сляза... «Не пагасне ў Зямлі на вейцы Перамогі скупая сляза».

**Чуйна хвалюецца спелае жыта,**
**Мроячы вечныя сны.**
**Чуйна праносіць ля сонца арбіта**
**Шар жыццядайны зямны.**
**(«Галоўная тэма»)**

Паэт шырока выкарыстоўвае прыёмы ўзбуйненага плана. Радзіма, Зямля, Сонца, Сусвет, Вечнасць, Час, Памяць—гэтыя словы ён піша з вялікай літары.

Актыўная лірычная энергія нараджае публіцыстычны запал. Часам, праўда, адчуваецца і лішак пафасу, здараецца, шкодзіць рыторыка («О, памяць мая, адкажы!»), лірычная дзёрзкасць падчас мяжуе з некаторай прэтэнцыёзнасцю («Так... Я прыйшоў. І сёння, нахадзіўшыся да стомы ў нагах, думаю: колькі мне год?»). Гэта, вядома, выдаткі.

Калі ж гаварыць пра літаратурную радаслоўную гэтага героя, то трэба адзначыць, што ён не толькі наследнік М. Багдановіча, але і малодшы сучаснік А. Куляшова з уласцівым для аднаго і другога імкненнем да ёмістых, маштабных абагульненняў. Касмічныя матывы—не навіна ў паэзіі, ад старажытнасці да нашых дзён. Дык што новага ўносіць М. Мятліцкі?

На маю думку, яго «касмізм» скіраваны ў глыбіню быцця. Касмічнае ў яго не адрываецца ад зямнога, дапамагае раскрыць вобраз сучасніка, драматызм яго становішча. Паэтычна асэнсаваць, асвоіць космас для яго тое ж, што зведаць, адчуць жыццё, пазнаць «касмічную» глыбіню яго сэнсу.

**Аддаўшы неба зорным завірухам,**
**Зноў выкрасе матэрыя мяне,**
**Таго,**
**хто ў мёртвай,**
**выстылай прасторы,**
**Прымоўкшы на адной з жывых планет,**
**Душой языцкай вас прывеціць,**
**зоры,**
**Вачамі працінаючы Сусвет.**
**(«Пагляд на зоркі»)**

Паэт не забываецца пра ўнутраны свет чалавека, яго духоўнасць. Зрэшты, «не забываецца» — не тое слова, ён жыве духоўнымі праблемамі сучаснасці, высокімі псіхалагічнымі нагрузкамі, верай у перамогу жыцця. Нездарма ў адным з новых вершаў (якія не ўвайшлі ў кнігу) ён заклікае: «Шчыльней у гурт, духоўная радня, да Коласа бліжэй, мы— беларусы».

Паэзія жыве пытаннямі.

Хто я? Колькі мне год? Які мой лёс?—падобныя пытанні лірычны герой задае сабе часта, сувымяраючы свой век з узростам чалавецтва, узбагачаны яго сацыяльна-гістарычным вопытам.

Зборнік сведчыць, што яго аўтар востра адчувае неадпаведнасць паміж узроўнем навукова-тэхнічных ведаў і сярэднім узроўнем свядомасці чалавека («Мы ўмеем ужо...»). Аднак пры ўсім драматызме становішча паэт не падае духам. Пра лірычнага героя паэзіі М. Мятліцкага раскажа чытачу паэма «Неба», якой, відаць, і сам паэт надае не абыякое значэнне ў сваёй творчасці.

**Хто я?—Вечны сузіральнік**
**Недасяжнай небнай шыры.**
**Нада мною, як пытальнік,**
**Млечны Шлях...**
**І зор пункціры.**

«Неба» — лірыка-публіцыстычная паэма. Яна сведчыць *пра веру паэта ў гуманістычныя* каштоўнасці нашага ладу, якія з'яўляюцца агульначалавечымі...

# «ХАТА, ПОЎНАЯ ГАСЦЕЙ...»

*В. Зуёнак. Хата, поўная гасцей. Вершы, Казкі. Жарты. Загадкі. Для дзяцей малодшага школьнага ўзросту. Мінск. «Юнацтва», 1987.*

ЦІКАВАЯ назва новай кнігі Васіля Зуёнка, і малы каток-гарэза, што ўтульна прымасціўся на яе вокладцы, нібы запрашаюць чытачоў увайсці ў «Хату, поўную гасцей».

У новай кнізе паэт без змен, у якасці назваў асобных раздзелаў, пакінуў назвы ранейшых зборнікаў: «Будзем сілы набірацца», «Вясёлы калаўрот», «Жылі-былі пад вадой», «Сонечны клубочак». Аднак гэта не механічнае аб'яднанне пад адной вокладкай ранейшых кніг; па ўсім бачна: паэт дбаў пра кампазіцыйную цэласнасць, жанрава-тэматычную акрэсленасць, лагічную апраўданасць размяшчэння твораў. Арганічна ўліўся ў «Хату, поўную гасцей» новы раздзел — «Дзе канчаюцца дарогі». Кніга прызначана, як напісана ў канцы яе, малодшым школьнікам. «Малодшы школьны ўзрост, — адзначае Сяргей Міхалкоў, — найбольш спрыяльны для трэніроўкі пачуццяў, выхавання душы».

В. Зуёнак пазбягае слоўных штампаў, халодных і пустых, у яго кнізе — россыпы паэтычных знаходак. «Мова не ставіць нам ніякіх абмежаванняў: бяры якое хочаш слова, параўноўвай яго з другім, малюй цэлыя карціны, вынаходзь якія хочаш метафары», — піша вядомы даследчык беларускай літаратуры і мовы Рыгор Шкраба. Так і робіць В. Зуёнак, вынаходлівы мастак, які дапамагае дзецям адчуць прыгажосць і выразнасць беларускай мовы, багацце яе сэнсавых, вобразных, гукавых магчымасцей:

**Лёд — як неба,**
**Лёд — з блакіту,**
**Спадарожнік —**
**Санкі, —**
**І дарога, як арбіта,**
**Легла абаранкам...**

**(«Вясёлы калаўрот»)**

Мастакоўскаму мысленню В. Зуёнка характэрна цікавасць як да вобраза канкрэтнага, зрокава выразнага («Сонца ссунулася з неба — і ляжыць, як бохан хлеба»), так і да вобразаў асацыятыўных:

**Ціха грывай трасяне**
**Конь рахманы —**
**вецер,**
**Цягне хмарку на спіне,**
**Сыпле дожджык дзецям...**
**(«Як расцём»)**

Характэрныя прыкметы паэзіі В. Зуёнка — рытмічная разнастайнасць, лёгкасць гучання, імклівасць, насычанасць дзеяннем. Такімі і павінны быць творы для дзяцей. «Паглядзіце, ці любіць дзіця расцягнутасць, вадзяністасць апавядання? — пісаў М. Г. Чарнышэўскі. — Не, яно безупынна падганяе вас: «Ну, што ж далей?», «Ну, што ж далей?», «Расказвайце хутчэй!..» Дынамічнасці верша паэт дабіваецца тым, што гаворыць толькі самае істотнае, пакідае словы самыя важныя. Дынамізм не супярэчыць псіхалагізму, якім вызначаюцца многія вершы В. Зуёнка. Ён умее ў хадзе імклівага развіцця дзеяння падкрэсліць псіхалагічныя асаблівасці, дэталі паводзін, звычак, характараў дзяцей. Паэт назапасіў шмат нявыдуманых гісторый, здарэнняў, сітуацый, ён тонка адчувае кожны рух дзіцячай душы, магчымую эмацыянальную рэакцыю на пэўную падзею. Натуральна, псіхалагічна апраўдана апісаны, напрыклад, у вершы «Са школы» паводзіны хлопчыка, які атрымаў двойку і цяпер немаведама на каго злуецца:

**Толькі Пеця на парог**
**Пасля ўрокаў —**
**Кот з усіх чатырох —**
**Ды наўцёкі!**

**Паліто крылатым птахам**
**Размахнулася,**
**Заляцела за шафу,**
**Не вярнулася.**

**Аб сцяну з разгону ляснулі**
**Чаравікі...**
**Хто ж бяду на вас,**
**няшчасныя,**
**Наклікаў?..**

**Тата ўраз сакрэты ўсе**
**Рассакрэціў:**
**Пэўна двойку зноў нясе**
**Пеця...**

У героях гумарыстычных вершаў «Са школы», «Качан на п'едэстале», «Лімон», «Ну, а вы?», «Будзем сілы набірацца» і іншых малодшыя школьнікі пазнаюць і сваіх таварышаў. Ім ёсць над чым задумацца, па-новаму многае ўбачыць і зразумець, зірнуць на сябе як бы збоку. Паэт вядзе з імі даверлівую гутарку пра сумленне, справядлівасць, сяброўства, пачуццё абавязку, пра неабходнасць загартоўваць волю, здароўе, характар. Пазбягаючы павучальных слоў і рэкамендацый, ён у жывой гаворцы непрыкметна перадае дзецям свой жыццёвы вопыт, дапамагае ім разбірацца ў людзях, самастойна арыентавацца ў разнастайных сітуацыях, а галоўнае—думаць.

З поспехам выкарыстоўвае паэт у мэтах актывізацыі думкі дзяцей, развіцця іх творчых магчымасцей выпрабаваны *жанр загадак, ім у кнізе* адведзены раздзел «Сонечны клубочак». Прывяду адну з іх, якая называецца «Маўчун»:

**Кліч — не кліч:**
**маўчыць зацята,**
**Як пяску набраў у рот.**
**Некалі —**
**будуе хату**
**Пад зямлёю чорны... (крот)**

Акрамя вершаў, у зборніку змешчана паэма-казка «Дзе канчаюцца дарогі». (Тое-сёе з прыгод Вялікага п'сэра Шатландскага дэ'Колі Дзіка). Паэма гэтая вострасучасная, наватарская.

Асноўны лад яе народны, тут, як і ў іншых творах В. Зуёнка, шмат характэрных выразаў, прымавак, і на гэтым мірным беларускім моўным полі ваенныя тэрміны і выразы—нібы выбухі мін («Першынгі», міжзорныя войны, стратэгічныя базы, лабастыя ракеты, атамныя крылы і інш).

Алегарычныя вобразы мядзведзя-шатуна, ліса, ваўкоў, шакалаў і падшакалкаў, рысі, зайца, барсукоў, вярблюда і...

# Мураваная варта

*М. Ткачоў. Замкі Беларусі. Мінск, «Полымя», 1987. На рускай мове.*

**Месцазнаходжанне Беларусі ў Вялікім княстве Літоўскім, якое з канца XIII па XVIII ст. было вельмі часта арэнай ваенных дзеянняў, абумовіла воблік яе населеных пунктаў і ў першую чаргу — гарадоў. Таму значную частку манументальнага беларускага дойлідства складаюць розныя фартыфікацыйныя збудаванні, рэшткі якіх захаваліся, сталі неад'емнай часткай нашай гістарычнай спадчыны. Пра іх ідзе размова ў новай кнізе нястомнага даследчыка замкавых мўроў Міхася Ткачова — «Замкі Беларусі».**

**У другой палове XIII ст. у архітэктуры *Беларусі з'яўляецца* новы тып абарончых збудаванняў — асобна размешчаная шматпавярховая мураваная вежа. Такія вежы, распаўсюджаныя ў XI—XIII стст. у Цэнтральнай і Заходняй Еўропе і ў Скандынавіі, увайшлі ў абарончую сістэму многіх беларускіх гарадоў і драўляных парубежных крэпасцей. Абарончыя вежы былі, акрамя Камянца, у Гародні, Навагрудку, Тураве, Брэсце і іншых гарадах. Пра іх ідзе гаворка ў першым раздзеле кнігі.**

**Другі, даволі значны па аб'ёме, раздзел апавядае пра ўмацаванні вялікакняжацкіх замкаў і гарадоў. Вельмі падрабязна разглядаюцца гродзенскія замкі, але адна са старажытных гравюр XVIII ст. (с. 33), нягледзячы на тое, што на ёй напісана назва горада, выклікае вялікае сумненне. Гарадская панарама значна адрозніваецца ад сапраўднай, якую можна ўбачыць на іншых гравюрах і малюнках. Напрыклад, на ёй пазначана мураваная сцяна з вежамі вакол горада, чаго ніколі ў сапраўднасці не было.**

**Апошнія даследаванні дазваляюць сцвярджаць, што аўтарам перабудовы Старога замка ў Гродне быў не Скотта, а выхадзец з Фларэнцыі, вядомы дойлід Санці Гуччы (ці Гуцці). Вялікую ўвагу М. Ткачоў звяртае на мужную асобу аднаго з самых вядомых абаронцаў Гародні ў XIV стагоддзі — Давыда Гарадзенскага.**

**Асабліва шматлікімі былі крыжацкія набегі на беларускія землі ў канцы XIII — пачатку XIV ст. Старыя драўляныя ўмацаванні, хоць і ўзмоцненыя мураванымі вежамі-стаўпамі, ужо не маглі стрымаць узброенага да зубоў ворага. Таму ў XIV ст. паўстала цэлая абарончая сістэма, складзеная з магутных мураваных замкаў у Лідзе, Навагрудку, Крэве, Медніках, Вільні і Горках. Гэта былі як старыя драўляныя, але з цягам часу пастуова адбудаваныя з каменю і цэглы замкі-дзядзінцы, так і новы тып замкаў-кастэль, запазычаны на Захадзе. Мясцовыя дойліды, узяўшы за ўзор рыцарскі кастэль, прыстасавалі гэты тып абарончага збудавання да мясцовых умоў. Яны значна павялічылі плошчу замкавага двара, дзе магло ў час небяспекі знайсці прытулак не толькі войска, але і мірнае насельніцтва. Такія замкі паўсталі ў Лідзе і Крэве. Аўтар *падрабязна апісвае сістэму ўма*цавання гэтых помнікаў, звяртае ўвагу на іх планіроўку і будаўнічую тэхніку. Можна толькі дадаць, што апошнія даследаванні, праведзеныя ў Крэўскім замку, дазваляюць пацвердзіць думку тых даследчыкаў, якія лічаць, што замак пабудаваны не ў 30-х гадах XIV ст., а крыху раней — на мяжы XIII і XIV стст.**

**Беларускія гарады XVI — XVII стст. можна моўна падзяліць на дзве катэгорыі: гарады Заходняй Беларусі (такія, як Навагрудак, Ваўкавыск, Слонім, у значнай ступені Гродна), што не мелі гарадскіх умацаванняў, і гарады ў цэнтральнай, паўночнай і ўсходняй частцы краіны, што былі абнесены магутнымі землянымі валамі, часта з мураванымі брамамі. Гэта ў першую чаргу Полацк, Віцебск, Брэст, Орша, Мінск, Магілёў, Мсціслаў, Гомель і інш. Пра гарадскія і замкавыя абарончыя вартасці гэтых гарадоў падрабязна расказвае М. Ткачоў, прычым упершыню падрабязна апісаны, на прыкладзе Магілёва, працэс будаўніцтва гарадскіх умацаванняў.**

**Але варта адзначыць, што на старонцы 56 змешчана старая рэканструкцыя менскага замка, па якой выява галоўнай брамы ўжо не адпавядае апошнім даследаванням. Тым больш, што на суседняй старонцы мы бачым яе новую, больш дакладную, рэканструкцыю. Аўтар памыляецца, калі гаворыць, што ў Мінску быў касцёл францысканцаў абарончага тыпу. Відаць, меўся на ўвазе дамініканскі касцёл пачатку XVII ст.**

**Наступны раздзел прысвечаны сістэме абароны прыватнаўласніцкіх замкаў і гарадоў, якія належалі магнатам — Ра-**

чымі і сцвярджаюць сябе праз гістарычную барацьбу, супярэчнасці і трагедыі.

**Я не веру, што планета**
**Наша — востраў адзінокі.**
**У абсяжышчы сусвету**
**Чалавека ўсюды крокі.**

Думка паэта скіравана ў глыбіню філасофскага спасціжэння быцця, якое бачыцца М. Мятліцкаму ў яго шматмернасці, пастаянным абнаўленні, кругазвароце, унутранай дынаміцы. Чалавек выжыве таму перш за ўсё, што ён чалавек: трываласць яго і моц — у чалавечнасці. Чалавечае сумленне не павінна паддацца сілам расшчаплення.

Лірычны герой, насуперак усяму благому, імкнецца да духоўнай паўнацэннасці, да шчасця і харавства. Гэтае імкненне — у многіх вершах.

**Ноч напоена зноў церпкім**
**жытнім настоем,**
**На асмяглай планеце,**
**як на далані.**
**Ціхі шэпт каласоў здасца**
**вечным пастоем,**
**Пераглянуцца зоркі ў нямой**
**вышыні.**

**Гэта жыта тваё — між зямлёю**
**і небам,**
**І твая баразна — у пламенні**
**зары.**
**І планета — твая.**
**Пахне жытнішчам — хлебам,**
**Дзень разветрацць над ёй**
**маладыя вятры.**
**(«***Ноч напоена зноў...»)**

«Геаграфія душы» паэта (так называецца адзін з раздзелаў) шырокая. І, зразумела, не толькі дзякуючы «касмізму», касмічным матывам. Ён імкнецца ўсвядоміць паўнату і шматмернасць сувязей чалавека з усім светам, зразумець сябе самога і праз сябе — свет. У кнізе дзейнічае ланцужок сувязей: Зямля — Радзіма — Палессе. Палескі цыкл мае назву «Пракаветны бальшак». Тут шмат добрых вершаў: «Цётка Анюта», «***Плодная восень...», «Дарога», «***Зямлі маёй сівыя мацяркі...», «***З далёкіх вёрст...»

Аўтар імкнецца асэнсаваць сацыяльныя зрухі, што мелі месца на вёсцы ў апошнія гады і якія пакуль што слаба адлюстраваліся ў літаратуры.

Чатыры радкі прысвечаны маці, *але якія радкі!*

**Спі, родная. Жальбой бясконца**
**Душа мая пад небам апавіта.**
**Магільны груд — тваё цалуе**
**сонца,**
**Магільны сон — тваё калыша**
**жыта.**

Паэт не шукае выпадковых сугуччаў — іх падказвае думка, якая і існуе ў гэтай сваёй прадметна-пачуццёвай унутранай форме.

Ёсць у зборніку і водгукі чарнобыльскай трагедыі — паэт родам з Хойніцкага раёна. Блізка да сэрца прымае ён чалавечую радасць і нягоды...

Што сказаць у заключэнне?

Новая кніга мне паказалася арганічнай для М. Мятліцкага, непрыдуманай. У яго, па ўсім відаць, была ўнутраная неабходнасць напісаць гэтыя вершы, і ён напісаў іх.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ.**

---

іншых — гэта сацыяльныя характары-тыпы, сутнасць якіх раскрыта недвухсэнсоўна.

Прыгадваецца, як у адным са сваіх выступленняў В. Зуёнак, адзначыўшы асобныя ўдалыя спробы беларускай паэтычнай казкі «вырвацца на шырокія абсягі фантазіі, абуджанай, падказанай сённяшнім днём», канстатаваў, аднак, што ў большасці выпадкаў яна, на жаль, яшчэ «сумна блукае ля трох сосен з бутафорска прывязанымі да іх мядзведзем, ваўком, лісіцай і зайцам». Не супраць традыцыйных казачных вобразаў мядзведзя, воўка, лісы і г. д. выступаў В. Зуёнак, а супраць штампа, перапеваў, таптання на месцы. Сваёй паэмай ён даказаў неабмежаваныя магчымасці творчага пошуку на хвалі сучаснасці.

Хочацца зрабіць удакладненне: паэма адрасавана, безумоўна, не вучням 1—3 класаў, а дзецям сярэдняга школьнага ўзросту. Як арыгінальны літаратурны твор зацікавіць яна і дарослых. І паэма (першая, дарэчы, паэма В. Зуёнка для дзяцей), і кніжка наогул — удаліся. Паэт засведчыў той усцешны факт, што свае творы для дзяцей ён піша па законах сапраўднага мастацтва. Але мушу сказаць: у гэтую «хату» ўсё ж трапілі два-тры вершы выпадкова. Такія, напрыклад, як «Гоша-грыбнік», «Старання — о-го-го! Ды што з таго...» Гучаць яны звонка, але канцоўка іх супярэчыць логіцы верша.

Думаю, што многім кінуцца ў вочы некалькі нязграбныя, каструбаватыя радкі аднаго з ранніх вершаў В. Зуёнка «Сёння ў нас святочны збор». Ну, хаця б такія:

**Я чацвёртае звяно выводжу**
**ў строй:**
**Гэты з кельмай, гэты**
**з кніжкамі ў руках,**
**У таго ў мазуце крышачку**
**шчака —**
**Гэта значыць: ён у нас**
**ужо цяпер**
**У майстэрні самы першы**
**інжынер...**

Нельга не сказаць колькі слоў пра мастацкае афармленне кнігі «Хата, поўная гасцей». Васіль Зуёнак і мастачка Таццяна Беразенская засведчылі плённасць творчай садружнасці, сугучча эмацыянальнай настраёвасці, вернасць народным традыцыям. Іх аб'ядноўвае імкненне далучыць дзяцей да цудоўнага, рассунуць абсягі пазнання дзецьмі навакольнага свету, узбагаціць іх духоўна. Нездарма кажуць, што ў дзіцячай кнізе добры мастак становіцца як бы сааўтарам пісьменніка.

Адмысловую хату ўзвялі паэт, мастачка і выдаўцы (кніга надрукавана на выдатнай паперы, вызначаецца высокай якасцю паліграфіі). Хай сюды заходзяць дзеці: дзверы гасцінна расчынены.

**Маргарыта ЯФІМАВА.**

---

**дзівілам, Сапегам, Ілінігам, Глебавым і інш. М. Ткачову ўдалося яскрава прасачыць дзве тэндэнцыі ў іх будаўніцтве: развіццё мясцовых традыцый (замкі ў Міры, *Любчы і часткова* Геранёнах); творчае запазычанне і трансфармацыя лепшых узораў еўрапейскай фартыфікацыі (Заслаўе, Нясвіж, Ляхавічы). Шкада толькі, што нічога не сказана пра магутную фартыфікацыю Слуцка — аднаго з найбольш умацаваных беларускіх гарадоў. У гэтым раздзеле падрабязна апісана і зброя, якой карысталіся ў час абароны, прычым значная ўвага звернута на дзейнасць гарматнай майстэрні ў Нясвіжы. Дарэчы, апошнія даследаванні гісторыка Л. Чарняўскай і археолага І. Чарняўскага дазваляюць лічыць, што ў летапісе ў XIII ст. (с. 166) упамінаецца іншы Нясвіж, які знаходзіўся за межамі Беларусі. Калі меркаваць па дадзеных археалогіі, горад узнік на месцы феадальнага двара ў XV — пачатку XVI ст.**

**Можна крыху ўдакладніць і звесткі аб Гальшанскім замку. Замак меў варотную вежу (яе рэшткі знойдзены пад час археалагічных раскопак), а падлогі ў яго памяшканнях выкладаліся не з каменных, а з керамічных паліваных (зялёнага і карычневага колеру) плітак.**

**Апошні раздзел кнігі апавядае пра абарончыя храмы: Полацкую Сафію, Сынкавіцкую і Мураванкаўскую цэрквы, Камаўскі касцёл і шэраг кальвінскіх збораў. Дзякуючы акту візітацыі 1760 г. М. Ткачоў удакладняе час узвядзення Сынкавіцкай бажніцы: гэта гады панавання каралевы Боны, дзесьці паміж 1518 і 1556 гг. Цікавай з'яўляецца і думка аб эркерным характары вежаў Полацкай Сафіі, бо рэшткі іх падмуркаў не прасочаны ў час раскопак вакол сабора. На жаль, зроблена памылка пры афармленні кнігі, дзе на чацвёртай старонцы вокладкі мы бачым галоўны фасад Сынкавіцкага храма, а ў подпісах гэты слайд пазначаны як «руіны Навагрудскага замка».**

**Нягледзячы на некаторыя дробныя недакладнасці, можна адзначыць, што аматары нашай гісторыі і архітэктуры, шматлікія краязнаўцы і турысты атрымалі добры даведнік.**

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

---

ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР

Пытанне аб выданні ў рэспубліцы спецыяльнага часопіса для выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры ў школе неаднаразова ўзнімалася грамадскасцю рэспублікі. Цяпер яно вырашана станоўча — са студзеня 1988 года пачынае выходзіць часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе». Наш карэспандэнт сустрэўся з галоўным рэдактарам часопіса Міхасём **Шавыркіным** і папрасіў яго расказаць пра будучае выданне.



# АДРАСУЕЦЦА НАСТАЎНІКУ, СТУДЭНТУ, ВУЧНЮ

**— Міхась Мікалаевіч, такога часопіса даўно чакалі не толькі настаўнікі, але і ўсе, каго цікавіць лёс беларускай мовы і літаратуры. Таму, трэба спадзявацца, выданне будзе мець нямала шчырых дарадцаў. Якім жа бачыцца вам часопіс?**

— Часопіс, як сведчыць яго назва, павінен спрыяць павышэнню якасці выкладання роднай мовы і літаратуры. І не толькі ў сярэдняй школе, а і ў вышэйшай, і ў прафтэхвучылішчах. Такая задача нашага выдання. А як здзейсніць задуманае? Як адшукаць лепшыя варыянты заняткаў па славеснасці, як прапагандаваць іх у часопісе?

Вядома ж, цэнтральнае месца ў нашым выданні зоймуць матэрыялы па беларускай мове і літаратуры. Будзем асвятляць праблемы лінгвістыкі і літаратуразнаўства, тэматычную і жанравую разнастайнасць творчасці пісьменнікаў, вывучэнне асобных твораў, жанраў, прадугледжаных школьнай праграмай. Сярод лінгвістычных і літаратуразнаўчых матэрыялаў вылучым тыя, што прысвечаны развіццю звязнай мовы вучняў. Мэта — навучыць усіх школьнікаў пісаць творчыя работы: замалёўкі, рэцэнзіі, нарысы, апавяданні, вершы. Справа для арганізатараў і аўтараў метадычных артыкулаў — цяжкая, але неабходная і высакародная. Тут і пісьменнікі павінны прыняць актыўны ўдзел.

У адрозненне ад іншых педагагічных выданняў мы будзем змяшчаць матэрыялы па нацыянальнай культуры і яе сувязі з культурамі іншых народаў. Тым самым зможам рэалізаваць міжпрадметныя сувязі па літаратуры, істотна і якасна пашырыць кругагляд школьнікаў. Асвятленне гісторыі беларускай культуры ў часопісе — тэма для новай размовы.

**— Паколькі «Беларуская мова і літаратура ў школе» — часопіс метадычны, значыць, вялікая, калі не асноўная ўвага будзе ўдзелена прапагандзе вопыту лепшых настаўнікаў рэспублікі?**

— Гэта так. Без асвятлення перадавога вопыту немагчыма ўявіць сучаснае педагагічнае выданне. У школьнай практыцы здарылася так, што дасягненні асобных настаўнікаў пераўзышлі пошукі метадычнай службы. Вось тут часопіс, як перыядычнае выданне, павінен хутка адшукаць майстроў педагагічнай справы, своечасова распаўсюдзіць іх метады. Найперш — даць слова самім настаўнікам. Пастаянна будуць змяшчацца артыкулы метадыстаў, якія абагульняюць вопыт лепшых педагогаў рэспублікі. Канечне, на старонках часопіса з'явяцца і журналісцкія замалёўкі, нарысы, героямі якіх будуць настаўнікі.

**— Педагогам можна назваць і пісьменніка, які, дарэчы, сеючы «добрае, разумнае, вечнае», не толькі праз творы звяртаецца да сваіх чытачоў. Як рэдакцыя мяркуе супрацоўнічаць з беларускімі пісьменнікамі?**

— Самым цесным чынам. Рэдакцыя часопіса ўжо звярнулася да Саюза пісьменнікаў з прапановай аб супрацоўніцтве.

Прысутнасць асобы пісьменніка не толькі паляпшае змест урока, робіць яго светлым, радасным, а і напаўняе незвычайнай духоўнасцю жыццё школьнікаў. Вядома, літаратары не могуць наведаць усе школы рэспублікі. А дзеці, падлеткі чакаюць іх усюды. Таму, калі ласка, прыйдзіце ў школу... праз часопіс, на яго старонках. Тэм для гутарак надта шмат: пытанні літаратуры, праблемы выхавання, беражлівыя адносіны да спадчыны. Спасылаемся на прыклад Уладзіміра Маякоўскага, які часам сам прапагандаваў свае кнігі. А чаму нашым пісьменнікам не расказаць школьнікам пра сваіх таварышаў, творчых настаўнікаў, пра гісторыю напісання сваіх твораў?

Плануем перыядычна публікаваць агляды літаратуры. Апрача таго, думаем рэгулярна весці факультатывы па сучаснай паэзіі, прозе. Гэтыя матэрыялы будуць шырока прапагандаваць беларускую літаратуру.

Мяркуем наладзіць сустрэчы і з дзеячамі культуры. Слова мастакоў, кампазітараў, рэжысёраў, якія ўвасабляюць літаратурныя творы ў выяўленчым мастацтве, музыцы, на сцэне ці экране, таксама станоўча паўплывае на выхаванне падлеткаў і моладзі, на павышэнне якасці навучальнага працэсу.

**— Плануемы тыраж часопіса?**

— Каля 12 тысяч экземпляраў. Спадзяёмся, што часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе» стане надзейным памочнікам для настаўнікаў беларускай славеснасці, і яны будуць актыўнымі падпісчыкамі. Мяркуем, што наша выданне зойме пачэснае месца ў метадычных кабінетах школ, што ім зацікавяцца і метадысты-філолагі, навучэнцы педвучылішчаў і студэнты педінстытутаў і універсітэтаў.

**— Поспехаў вам!**

**Наш кар.**

---

У ЛУЧНАСЦІ БРАТНЯЙ

# СПАРАДНЕННЕ

Напрыканцы 1986 года прадстаўнікі бюро секцыі мастацкага перакладу пры Саюзе пісьменнікаў БССР на чале з В. Рагойшам гасцявалі ў кіеўскіх калег.

У Саюзе пісьменнікаў Украіны былі абмеркаваны многія праблемы літаратурных і культурных узаемасувязей, пытанні культуры міжнацыянальных зносін. Тады таварышы з Львоўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў УССР выказалі думку звярнуць увагу і на рэгіянальныя кантакты, запрасілі пры магчымасці наведаць Львоў.

І вось сёлета група беларускіх пісьменнікаў прыехала ў гэты цудоўны старажытны горад, які мае без перабольшання векавыя традыцыі міжнацыянальных зносін нашых народаў. А самы багаты і плённы — апошняя чвэртка веку, пра што і гаварылі ўдзельнікі «круглага стала». Гэта не былі агульныя заклікі мацаваць дружбу і абстрактныя дэкларацыі, а творчая справаздача кожнага, аналіз асабістага ўкладу для чалавечага ўзаемаразумення, для ўзаемаўзбагачэння нацыянальных літаратур. Па-дзелавому, пранікнёна выступілі вядучыя «круглага стала» Вольга Іпатава і Раман Лубкіўскі. Шчырымі, заклапочанымі былі гарачыя словы ўсіх удзельнікаў бяседы — Аксаны Сенатовіч, Валянціны Коўтун, Уладзіміра Лучука, Івана Дзенісюка, Міколы Ільніцкага...

Дарэчы, бяседа «круглага стала» была запісана на відэастужку і паказана па Беларускім тэлебачанні.

Наведанне Львова не было турыстычным падарожжам з экзатычнымі супынкамі. Гэта была пазнавальная работа. Мы наведалі дом піянера беларусістыкі на Украіне І. С. Свянціцкага, сустрэліся з яго дочкамі — Верай Іларыёнаўнай і Марыяй Іларыёнаўнай. У Музеі ўкраінскага мастацтва (колішні Нацыянальны музей, які заснаваў І. Свянціцкі і быў на працягу дзесяткаў гадоў яго нязменным дырэктарам) убачылі скарынаўскія кнігі, іншыя старадрукі з так званага беларускага аддзела музея.

Каля былога Ануфрыеўскага манастыра сустрэліся з прадаўжальнікамі скарынаўскай справы — Іванам Фёдаравым, Пятром Мсціслаўцам, Грынем з Заблудова: цікавая скульптурная група каля музея ўкраінскага кнігадрукавання прывабіла сваёй арыгінальнасцю.

На пачатку стагоддзя з Вільні ў Львоў эмігрыравала беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка Цётка, у Жоўкне (зараз г. Несцераў) яна выдавала свае кніжкі. У выніку паездак былі зроблены яшчэ дзве перадачы, якія таксама прайшлі па Беларускім тэлебачанні.

У перадачы пра Цётку «Рваць ланцуг цемнаты...» прынялі ўдзел паэт і перакладчык Уладзімір Лучук, дачка І. С. Свянціцкага Марыя Іларыёнаўна Свянціцкая і дырэктар Несцераўскай гарадской друкарні Ксаверый Іванавіч Галань.

Для перадачы «Подзвіг Скарыны», прымеркаванай да 470-годдзя беларускага кнігадрукавання, цікавае інтэрв'ю даў старшыня Львоўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Украіны паэт і перакладчык Раман Лубкіўскі, узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. А архіўны матэрыял для кіназдымак падрыхтавала супрацоўніца Музея ўкраінскага мастацтва Вера Іларыёнаўна Свянціцкая.

Так у летапіс украінска-беларускага спараднення былі запісаны новыя цікавыя старонкі.

**С. ПАНІЗНІК.**

Не кнігі — барабаны!
Усім ім — грош цана!
— Ах, вось як.. ягамосцю...
Забудзь пра мой парог!
— І ты не пападайся! Знявечу!
Сведка — бог!
Так творчая дыскусія
скацілася з гары.
Да смерці будуць помсціцца
два даўнія сябры.
Ну як тут не прыпомніць
бацькоўскі літ-урок!..
Эх, жорны вы, жаронцы...
Музейны той куток...

Ну й *талечкі*! Ну й *нітачкі*!
Ах, кужаль залацісты!
У мілага Мікітачкі
Такі чубок фарсісты!
Выводзяць ніткі-талечкі
Заўзята дзеўкі-таечкі,
З-за прасніцы, з-за кросенцаў
Дыхнуць няма калі.
А ногі ў польку просяцца
Дый хлопцы кужаль грозяцца,
Дальбог жа, падпаліць!
«Ах ты, полечка-трасуха,
Дождж ідзе, дарога суха...
Даскакаў да палавіны —
Да канца скакаць павінны.
Каля лесу рык ласіны,
Аж трасецца ліст асіны,
Ля балота куст каліны,
На балоце журавіны,
На балоце мох, мох,
Я па дзеўцы сох, сох...
Не шкадуйце ног, ног!
Танцаваў, як мог...
Ох!»
Настаюць вёсны —
З *хаты кросны*.
Жанкі ўсю зіму ляскалі,
Пало-оцен!
Хоць каляскамі
На траўку, да вады.
Намочаць і насцелюць,
Бы сівізной убеляць
Сваіх гадоў сляды.
Паэзіі — упіцца,
Як збоку паглядзець.
А колькі пасляпіцца,
А колькі пагарбець
Матулям давялося!
А песень сумных колькі,
Вярэдлівых, як болькі,
І нават слёз лілося!

Нялёгка ткаць ручнік, абрус!
Нітоў — аж пад дванаццаць.
І ні загад, і ні прымус
Не падсабяць у працы.
А хіба посцілкі лягчэй?
Яны, перабіранкі,
Нібы вясёлкі для вачэй,
Нібы вясны заранкі.
Такіх хітрасплячэнняў
Не бачыў, можа, свет,
*Майстэрства і натхненне*
Ішлі тут след у след.
Міжволі паралелі
Падкатваюць, як сані...
Ткаць нашы маці ўмелі,
А як жа тчом мы самі?
Ці тых ідэй выснову
Кладзем мы на аснову?
А мова, стыль, браток,
Хіба не той жа ўток?
Прыстукнуў бердам ты ледзь-ледзь,
Не загусціў свой выраб,
І не тканіна ўжо, а рэдзь,
Чытач выносіць вырак.
Прысуд той канчатковы
Абскардзіць не бярыся,
Не хмур сурова бровы,
Пасадай не гразіся.

Што там яшчэ? А, ступа...
Паэты вельмі скупа
Карміліцу ўслаўлялі,
Надоўга забывалі,
Пакуль і ўшчэнт забылі.
І вось
стаіць у пыле...

Дае мне маці торбу...

Ячмень — куццю рабіць.
«*Старайся, сынку, добра*
Шалушкі абабіць.
Стаўчэш, то с'апалаю,
Не зробіш, то палаю».
Хацелася за брата
*Мне лепшым тады быць*,
Стаў таўкачом заўзята
Па ячмяню лупіць.
Па хаце — пырскі зерня,
А мне няма сутрыму...
«Ой, хату шчэ разверне
Асілак наш на зіму, —
Журыла маці калісь. —
Сынок, мяне паслухай...
Ты ж не калодку колеш,
Не трэба біць з-за вуха,
Не трэба гэтак грохаць —
Дзяўбі й дзяўбі патроху.
Таўкач сам добра важыць,
Таўкач муку пакажа.
Ячмень мо перасушаны?
А ты
Ліні крыху вады!
На хітрасць людзі змушаны
Ісці хоць інагды».
Мне ступа аж да носа,
Таўкач — ну як падняць!
Калодачку падносяць,
Каб лепш было стаяць.
Таўку... Таўкач хістаецца,
З рукваліцца, хоць плач.
Па лобе ўцяць стараецца
Няўклюдны той таўкач.
Сцінаю зубы ўпарта:
Няўжо цана мне — грош?
Я ўсё ж чагосьці варты!
Я гонар маю ўсё ж!
І стоўк... Глядзіце! Ступа ўся!..
Далоні ў мазалях...
Да ісціны дастукаўся,
Хоць лоб у гузаках.

Гады — як метэоры.
Было ўсё так даўно!
І ў радасці, і ў горы
Сабе дзяўбу адно:
Упарта кроч да ісціны,
Сшалушвай з праўды шлак,
Да іх вядзе *цярністы*,
Заўсёды цяжкі шлях.

Няспынна трэба дзяжыць...

Гэй, там!
Таўкач — завіс?!
«Таўкач муку пакажа!» —
Трымайце за дэвіз!

---

Цікавы быў дыялог журналісткі А. Ліопы з рэжысёрам Б. Луцэнкам. Рэпартаж, які правяло ТБ з аддзела рэдкай кнігі Ленінградскай бібліятэкі імя М. Салтыкова-Шчадрына, — карысная перадача, асабліва цяпер, калі нам не хапае гістарычнай інфармацыі. А вось нарыс «Спасціжэнне» яўна не дацягвае да сённяшняга ўзроўню гаворкі пра турботы нашай школы. Чаму б цікавага педагога са Слоніма А. Руцкую не запрасіць на «Сустрэчу для вас»?

— Беларускі тэлеэкран стракаціць кантрастамі, — нечакана падводзіць вынік песіміст.

— Тэлебачанне і павінна быць тэматычна разнастайным...

— Але не дзяжурным «памінальнікам» актуальных праблем. Раённы Дом культуры, НДІ —часта праблема толькі называецца, як у чарговым «Свабодным мікрафоне» ці ў выпуску «Народнага кантролю» — і ўсё. На мінулым тыдні толькі адна перадача пасапраўднаму «пагрузілася» ў жыццё, у ломку старых стэрэатыпаў.

— Гомельскія журналісты ў жывой форме *расказалі і пра слаўную* гісторыю свайго горада —праз назвы вуліц, але галоўнае — пра надзённыя, канкрэтныя праблемы, справы людзей. Рэпартаж з «Гомсельмаша» даволі рэзкі па інтанацыі...

— ...Затое без падманлівага пафасу, калі перабудова, *дык і пакажыце* яе працэс ля станка, на калгасным полі... Гэтым — спробай наблізіцца да рэальных людзей, да іх клопатаў, убачыць, як мяняецца чалавек ва ўмовах галоснасці, дэмакратызацыі — павінна вызначацца сённяшняя публіцыстыка.

Аптыміст задумаўся. Гэтую думку цяжка аспрэчыць. Пакуль *яшчэ* наш дакументальны экран пакутуе ад апісальнасці, нават у выяўленчых сродках.

— Мала ў нашых перадачах цікавых субяседнікаў, — прадоўжыў песіміст. — Чаму б у новай інфармацыйна - музычнай праграме напярэдадні панядзелка не даць дынамічную, змястоўную гутарку з пісьменнікам, старшынёй калгаса, кінарэжысёрам, рабочым, ды ці мала з кім з разумных, аўтарытэтных людзей!?

— Лёгка даваць парады, — усміхнуўся аптыміст. — Хоць, з іншага боку, чым натужвацца ў гумары, *які ў нас* «буксуе», чаму б не пашукаць у гэтым накірунку, хоць бы так, як зрабілі В. Казанлі і А. Кручаных у апошнюю нядзелю гэтага тыдня, запрасіўшы *да гаворкі Я. Брыля*. Мы прывыклі па частцы забаўляльнасці разважаць функцыянальна. Мастацкі фільм, спектакль, перадача «Сустрэнемся пасля адзінаццаці» — як ні круці, а ў *праграме* ёсць. Дык, можа, і на самой справе ў інфармацыйна-музычным блоку мігціць правобраз таго тэлевяшчання, якое б і захапляла, і выхоўвала, і вучыла адначасова — праз слова і забаву, праз думку і бадзёры рытм?

— Як ты лічыш? — звяртаюся да песіміста.

— Пажывём — пабачым, — верны сабе, адказвае ён.

Дыялог ля тэлеэкрана
запісала
Н. ФРАЛЬЦОВА.

---

КІНО

# СКІРАВАНЫ Ў БУДУЧЫНЮ

**На кінастудыі «Беларусьфільм» заканчваецца работа над двухсерыйнай тэлевізійнай мастацкай стужкай пад рабочай назвай «Першы з камунараў». Фільм здымаецца па заказе Цэнтральнага тэлебачання. Расказвае ён аб адным годзе з жыцця прафесійнага рэвалюцыянера, таварыша і памочніка У. І. Леніна — Панцеляймона Мікалаевіча Лепяшынскага.**

Член РСДРП з 1898 года, агент «Искры», Лепяшынскі адразу ж пасля рэвалюцыі ўзначаліў у Наркамасвеце аддзел рэформы школы. Але ўжо летам 1918-га, апантаны ідэяй стварэння школы


У кадры — народныя артысты СССР В. ЦІХАНАЎ і В. ТАРАСАЎ.


Адзін з памочнікаў П. Лепяшынскага — камуніст Гайкоў (Ю. ГРАЎЦОЎ).


Рабочы момант. На першым плане — рэжысёр-пастаноўшчык В. ПАНАМАРОЎ.

новага тыпу, едзе на радзіму, у Беларусь. Тут, у глухой вёсачцы Ліцвінавічы на Магілёўшчыне, арганізуе адзіную ў сваім родзе працоўную школу-камуну. Ва ўмовах гэтай школы Лепяшынскі на практыцы правярае (і пацвярджае) сваю тэорыю: калі аб'яднаць у адным калектыве дзяцей бедных і багатых, адарваўшы іх ад класавага асяроддзя, ад бацькоў, то такім чынам можна выхаваць новага чалавека. Выхаваць людзей, якія забудуць на векавую варожасць, якая раздзяляла іх бацькоў.

Усяго 11 месяцаў праіснавала унікальная школа: *набліжаўся* фронт, шалелі банды, і камунарам давялося паехаць разам з Лепяшынскім у Маскву. Але 1 верасня 1919 года ў Маскве была ўрачыста адкрыта новая школа, у якую ўліліся выхаванцы з камуны Лепяшынскага. Тут вучыліся дзеці наркомаў і князёў Абаленскіх, рабочых, сялян і кулакоў. Унікальны педагагічны эксперымент быў прадоўжаны.

Гэтая гісторыя і лягла ў аснову сцэнарыя, напісанага Ю. Ніколіным і Я. Радкевічам.

**— Хоць фільм і ствараецца на гістарычным матэрыяле,— гаворыць рэжысёр - пастаноўшчык Валерый Панамароў (вядомы яго работы «Дэбют» па сцэнарыі А. Дударава, «Траянскі конь» — экранізацыя камедыі М. Матукоўскага «Амністыя»), — мы стараліся знайсці пункты жывога судакранання з днём сённяшнім. Бо зараз у нашай краіне адбываюцца рэвалюцыйныя пераўтварэнні, вяртаюцца тыя ідэйныя і духоўныя каштоўнасці, за якія змагаліся бальшавікі-ленінцы, а ў іх ліку і П. М. Лепяшынскі. І яшчэ: як і тады, так і цяпер выхаванне новага чалавека застаецца першачарговай задачай грамадства. Заўважу таксама, што хоць мы засяроджаны на асобе галоўнага героя, фільм наш — і пра Беларусь, пра яе людзей, яе гісторыю.**

Аператар - пастаноўшчык фільма Анатоль Кляймёнаў, мастак Ігар Тапілін. У ролях заняты народны артыст СССР Віктар Тарасаў, народныя артысты БССР Стэфанія Станюта, Уладзімір Куляшоў, Павел Кармунін, акцёры Вольга Гобзева, Ганна Лавухіна, Уладзімір Носік, Уладзімір Конкін і іншыя. У фільме ўдзельнічае група мінскіх школьнікаў.

Вобраз Панцеляймона Мікалаевіча Лепяшынскага ўвасабляе Герой Сацыялістычнай Працы народны артыст СССР Вячаслаў Ціханаў. Вось што расказвае ён пра сваю новую ролю.

**— Кожны раз, далучаючыся да тэмы рэвалюцыйнага часу, адчуваеш хваляванне, узмоцненае пачуццём асаблівай адказнасці за будучую работу. Вось і цяпер: трэба ж расказаць пра чалавека, які больш за чвэрць стагоддзя працаваў побач з Уладзімірам Ільічом! У жыцці бальшавікоў-ленінцаў мы можам чэрпаць маральныя ўрокі, актуальныя для цяперашніх, сапраўды рэвалюцыйных дзён. Менавіта сапраўдным выхаваўчым зарадам прываблівае мяне педагагічная старонка жыцця Лепяшынскага. Хочацца расказаць пра асабістыя якасці вернага ленінца: самаахвярнасць, сумленнасць. адданасць ідэі, маральную чысціню. Людзі ленінскага гарту дастойныя пераймання. Такія людзі патрэбны нашай краіне і нашаму часу, і нашай будучыні.**

**А. ДЗМІТРЫЕЎ.**

*Фота аўтара.*

прыгадваю таксама вядомы артыкул Я. Глебава ў «Советской культуре» (нумар за 22 верасня г. г. — РЭД.), дзе адна фраза Т. Шчарбаковай прыведзена без кантэксту таго выступлення, прыведзена такім чынам, што музыказнавец аказваецца ў няпраўдзівым становішчы, і гэта не на карысць беларускай музыцы. Думку ж Глебава пра тое, што ў музыказнаўстве нашым справы кепскія, падзяляю. Агаваруся толькі: з дысертацыямі ў нас добра, яны — на ўзроўні. А з працай над падручнікам па гісторыі беларускай музыкі дрэнна зусім.

Дрэнна складваюцца адносіны з выканаўцамі: для «Песні пра Буравесніка» Я. Цікоцкага, што значылася ў праграме адкрыцця пленума, не знайшлі саліста (!), не знайшлося музыкантаў для выканання твораў В. Карэтнікава і Э. Казачкова, пазначаных у праграме камернага канцэрта. Вяршынь у пленумаўскіх канцэртах не было, былі творы, пераканальныя па мастацкіх якасцях. Відавочныя агульныя хібы школы, інертнасць мыслення, звязанага з нейкім рэтраспектывізмам, здзіўляе стылістычная арыентацыя кампазітараў на савецкую музыку рубяжа 50—60-х гадоў.

Што з паказанага прывабіла асабіста мяне? Канцэрт У. Дамарацкага для аркестра, творы А. Елісеенкава, А. Бандарэнкі, У. Дарохіна, у студэнцкім канцэрце — п'еса Л. Сімаковіч. Араторыя «Песня пра Ігара» Л. Шлег, якую я лічу адной з таленавітых кампазітараў сярэдняга пакалення, падалася цікавай, але ёсць тут яўныя недахопы. Прынамсі, не магу прыняць канцэпцыю «Слова пра паход Ігаравы» (а ён — аснова араторыі), дзе ўсё заканчвае «амінь». Гэты твор Л. Шлег менш... музычны, ускладняецца яго ўспрыманне з-за вязкасці нотнай фактуры. Прымаць гэты твор толькі таму, што ён актуальны, прысвечаны юбілею «Слова...» — недарэчна, нетактоўна ў адносінах да кампазітара. Тое самае датычыць «Музыкі для струннага камернага аркестра» М. Марозавай: яна закранула актуальную тэму, напісаўшы твор па матывах вядомага жывапіснага цыкла М. Савіцкага, але музычным матэрыялам яўна не валодае. Тут ледзьве не Брамс, увасоблены праз Крылатава. Чыстая эклектыка!

**С. САПОЖНІКАЎ**, старшыня камісіі музыкі народаў СССР (Масква):

Даводзілася слухаць беларускую музыку на розных пленумах. Да 70-годдзя Кастрычніка яна прыйшла з сур'ёзнымі набыткамі. Прыгадваю V сімфонію Я. Глебава, «Мемарыял» У. Дарохіна, «Янку Купалу» В. Помазава, вакальны цыкл Г. Гарэлавай на вершы Э. Верхарна, яе ж Канцэрт для габоя. У мяне адчуванне, што беларуская музыка мае цікавыя імёны.

**Н. КАЛЕСНІКАВА**, музыказнавец:

Калі пленум — вынік пэўнай працы, дык прадстаўлена на ім мае быць самае лепшае. І калі ўжо пазначылі ў праграме «Песню пра Буравесніка», трэба было выканаць. Чамусьці не прагучалі на пленуме нядаўнія творы Г. Гарэлавай, А. Мдзівані, Д. Смольскага, В. Войціка, А. Залётнева. Аднак пленум паказаў аблічча нашай кампазітарскай моладзі.

Творы даволі падобныя адзін да аднаго. Справа не ў тым, што гэтае падабенства — ад пераймання прыёмаў Шастаковіча. Існуе ж стыль савецкай музыкі і пэўны інтанацыйны слоўнік нашай эпохі. Справа ў тым, што паказ твораў раскрыў працэс стандартызацыі музыкі і яе ўспрымання, у гэтым працэсе губляецца аўтарскае «я». Гучыць камерная музыка М. Марозавай, В. Кузняцова, А. Навахроста — але што хоча сказаць кожны з аўтараў? І калі бракуе яснасці і сталасці светапогляду, узнікае і стылёвая, і драматургічная блытаніна ў музыцы. Удала вылучаецца сваімі творамі А. Бандарэнка («Славянская старажытнасць» для віяланчэлі і фартэпіяна, Сімфонія для камернага аркестра): ёсць думка і рух думкі, ёсць кантрасты ў драматургіі; малады кампазітар не сароміецца меладычнай адкрытасці, як некаторыя аўтары, што баяцца выглядаць «традыцыйнымі».

**В. ЯКАНЮК**, прарэктар БДК:

Часам падаецца, што кампазітар менш за ўсё дбае, каб яго зразумеў слухач. У «Песні пра Ігара» не зразумеў ні слова і не разумею, чаму твор менавіта пра Ігара, а не, скажам, пра Алега. І прычына тут не ў дыкцыі артыстаў хору, прычына ў праліках кампазітара, які захапіўся сваімі пошукамі і не паклапаціўся пра слухача, для якога ж, у рэшце рэшт, музыка і пішацца.

**У. ДАРОХІН**, намеснік старшыні праўлення СК БССР:

Музыка, адрасаваная ў нікуды. Вынік парушэння ў сістэме сувязей паміж намі і слухачом... Прычына тут не адна. Ёсць катэгорыя слухачоў, якіх не прымусіш і не завабіш слухаць самую вытанчаную класіку. У гэтым выпадку трэба гаварыць аб праблеме ўздыму ўзроўню агульнага музычна-эстэтычнага выхавання, праблеме, якую не вырашыў нават Кабалеўскі і якой члены нашага саюза, мабыць, і не павінны займацца. Кожны павінен рабіць справу, дзеля якой вучыўся і якой прысвяціў сваё жыццё. Ёсць інстытут культуры, культасветвучылішчы, музычна-педагагічнае аддзяленне ў пед-інстытуце — вось адкуль найперш павінен зыходзіць клопат пра выхаванне людзей, пра стан музычнай культуры насельніцтва. Кампазітарам жа варта дбаць пра тое, як узняць на большую вышыню планку свайго творчага майстэрства.

Музыказнавец Т. Дубкова, кампазітар У. Дарохін і народны артыст СССР І. Лучанок.

Але ўявіце сабе, што пойдзе на нашы канцэрты кампетэнтны слухач. Баюся, нам будзе яшчэ больш сорамна, чым бывае сорамна за пустыя залы. Не пагаджуся з Яўгенам Аляксандравічам Глебавым, які гаварыў за «круглым сталом» пра дастатак у беларускай музыцы твораў, вартых паказу на самым высокім узроўні. Твораў, дастойных паказу на любым высокім узроўні, у нас не так і многа, а калі гаварыць пра наватарскія — дык іх проста няма. Скардзімся, што нас не прапагандуюць? Прапагандаваць трэба, але ж мы так часта не паважаем нашага слухача, гатовы прапанаваць яму што заўгодна, абы толькі задаволіць нашы аўтарскія амбіцыі! Хіба мы арыентуемся на слухача, які павінен быў бы запоўніць залу? Праграма сімфанічнага канцэрта, якая занатавана ў пленумаўскім буклеце, разлічана на 3 гадзіны гучання музыкі — гэта ж немагчыма слухаць! Але мы задавальняем просьбу Л. Шлег уключыць у канцэрт яе араторыю, пакідаючы ў праграме і буйны твор К. Цесакова, і сюіту з балета С. Картэса, і ўсё астатняе, замест таго, каб нешта скараціць. Чаму слухач павінен пакутаваць толькі таму, што ўсе кампазітары хочуць «гучаць»? Дырыжору Б. Райскаму варта толькі падзякаваць, бо ён узяў святы грэх на душу: выключыў з праграмы Сімфонію У. Чараднічэнкі як не падрыхтаваны да выканання твор і «Песню пра Буравесніка» Я. Цікоцкага, бо не знайшлося саліста. А калі б мы заўпарціліся і саліста «здабылі», і гучанне яўна перагружанай праграмы падоўжылася б яшчэ на адну вакальна-сімфанічную паэму?

Давайце дамовімся рабіць нашы праграмы не падоўжанымі, а карацейшымі, тады і выкананне будзе выдатным, бо пакуль пры такіх нагрузках, выканаўцы ледзь спраўляюцца з нотамі, а на тое, каб далучыцца да твора душою, ім проста не хапае рэпетыцыйнага часу.

**Л. ЛЮБОЎСКІ**, кампазітар (Казань):

Што значыць правесці пленум, прысвечаны 70-годдзю Кастрычніка? Гэта значыць, паказаць у праграмах сярод некалькіх твораў адзін такі яркі, пра які ўсе адразу б загаварылі, адчуўшы, што кампазітар сказаў нешта важнае пра сённяшні свет. Сёння найбольш цікава працуюць літаратары: што ні часопіс, то абавязкова знойдзеш свежую магутную думку. Тое самае адбываецца ў кіно. А ў кампазітараў?.. Азначэннем «музыка» можна прыхаваць многае: рыхласць формы, недахоп мастацкіх ідэй і да т. п. Напэўна, кампазітары ў нейкай меры расчароўваюць публіку. Прапануюць адно — паказваюць іншае. Я настроіўся на сімфанічны канцэрт вашага пленума, упэўнены, што для гэтага паказу звычайна выбіраюць лепшае, яркае, глабальнае, але...

**Т. ДУБКОВА**, музыказнавец:

У мяне ёсць канкрэтная прапанова наконт таго, каб досыць аб'ектыўна адабраць творы для шырокага выканання. Трэба правесці сацыялагічны рэферэндум сярод членаў СК. Кожны назаве некалькі лепшых, на ягоную думку, твораў. З нечага ж нам трэба пачаць, інакш страцім і тых слухачоў, якія яшчэ ходзяць на канцэрты беларускай музыкі.

Прафесійная крытыка знікла з нашых газет. У «ЛіМе» яе падмяніў аўтарскі міжсабойчык супрацоўнікаў радыё і «ЛіМа» (?! Да ведама: паводле рэгістрацыйных дадзеных за 1986-87 гг. з аддзелам музыкі «ЛіМа» супрацоўнічаюць 102 няштатныя аўтары, сярод якіх выкладчыкі БДК, Мінскага інстытута культуры, музычных вучылішчаў рэспублікі, члены СК, супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, музыканты-выканаўцы і інш. Работнікаў музычнай рэдакцыі Беларускага радыё, дарэчы, прафесійных крытыкаў і музыказнаўцаў, у тым ліку — чатыры. — РЭД.).

**С. КАРТЭС**, кампазітар:

Колькі б мы ні скардзіліся на недахоп слухачоў у філарманічнай зале, нічога не зменіцца, пакуль не будзе наладжана ўзмоцненая гуманітарная адукацыя ў школах. Не забуду, як уразіў мяне на адным з канцэртаў у Рызе фальклорны ансамбль дзіцячага сада. Вось з чаго трэба пачынаць нам: з дзіцячых садкоў! І выхоўваць дзятву не на песеньках, якія пішуць выхавацелькі, а на фальклоры. Пачынаць з фальклору — як з калыханкі, прадаўжаць музычнае выхаванне ў школе. Гэта справа не на адзін год. Але яе трэба рабіць, каб мы, кампазітары, не адчувалі, што пішам толькі для сябе, звяртаючыся не да слухача, а на «рынак збыту» музыкі. Яна, вядома, ёсць і будзе рознаю, не толькі адметнаю, але вакол нашай музыкі павінна існаваць грамадская думка, поле зацікаўленасці слухачоў.

**Г. КРАСТОВА**, прадстаўнік УААП (Масква):

Калі СК БССР будзе гатовы прадставіць свае праграмы, якія адпавядалі б узроўню сусветнага прафесіяналізму, забяспечыць інфармацыйна-рэкламныя матэрыялы, забяспечыць вельмі высокі ўзровень выканання тых праграм, дык СК СССР і УААП з задавальненнем пойдуць вам насустрач і правядуць у Мінску выязны «круглы стол» з запрашэннем зарубежных прадстаўнікоў.

**А. ФЛЯРКОЎСКІ**, сакратар праўлення СК СССР (Масква):

Пленум паказаў досыць шырокую панараму беларускай музыкі. Карціна складваецца такая: з прафесіяналізмам у вас усё ў парадку. Вы хочаце паказаць, што можаце ўсё. Але ж вы мне пакажыце, што можаце вы як творца асабіста, — у такім разе я нават дарую вам і прафесійныя памылкі. Я іх не заўважу. Прафесіяналізм там, дзе яго не заўважаеш. Вось — камерны канцэрт: уражанне, што дзве з паловай гадзіны гучала музыка аднаго і таго ж аўтара, і не беларуса. Зразумейце правільна: я не за тое, каб гучалі цытаты з фальклору. Але ж быць павінна тое, што называецца талентам і праз што адчуваеш час, месца нараджэння аўтара. Толькі калі пераканаы, што ніхто іншы не скажа так, як гэта зробіш ты, маеш права выходзіць да слухача. На жаль, тэндэнцыя агульнай усярэдненасці адчуваецца і ў творчасці кампазітараў Масквы, і ў ленінградцаў... А ў кожнага ж з нас ёсць імя і прозвішча! Буду рады, калі ў наступны прыезд да вас давядзецца пачуць сапраўдныя творчыя імёны, а не азнаёміцца з нейкім кампазітарскім наміналам.

Сутнасць, жыццё твора павінны быць сённяшнія, і тады я адчую, як трывожыцца гэты чалавек, аўтар музыкі. за сябе і за мяне, як абудзіў ён ува мне пачуццё Бацькаўшчыны, і мне таксама захочацца ўзяць чысты аркуш і паведаміць пра нешта людзям...

●

З трыбуны пленума выступілі таксама дырэктар Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР **В. БУКАНЬ**, кампазітары **А. СОНІН**, **Э. ХАНОК**, **Б. АРАНОВІЧ** (госць з Масквы), намеснік старшыні праўлення Музычнага таварыства БССР **Т. КУРЫЛА...** Але час, як кажуць, падвесці рысу. Аддамо належнае тым, хто гаварыў сумленна, ад чыстага сэрца, скінуўшы груз кампрамісаў і прытоенай нядобразычлівасці. Умець сказаць праўду, пэўна, гэтак жа няпроста, як напісаць шчырую музыку...

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота Ул. КРУКА.

ВІНШУЕМ

# З КАГОРТЫ ПЕРШЫХ

### Народнай артыстцы БССР Ларысе АЛЯКСЕЕВАЙ — 80 гадоў

На святкаванні паўвекавога юбілею Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР Ларыса Філалогаўна Аляксеева была сярод самых шаноўных гасцей. Бо імя гэтай спявачкі — яркі радок у гісторыі станаўлення беларускай савецкай музычнай культуры. Яркі, хаця, на жаль, кароткі — таму, мабыць, і ўспамінаюць пра Аляксееву радзей, чым пра Александроўскую, Млодак, Кудрашову...

Але ў старых мінскіх сем'ях сярод прыхільнікаў мастацтва імя Аляксеевай згадваецца з асаблівай цеплынёй. Бо дэбют спявачкі на сцэне беларускага опернага быў падзеяй адметнай. Паспяхова ўдзельнічала яна ў Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве, спявала ў «Кветцы шчасця» А. Туранкова. Потым — вайна, праца ўдалечыні ад Беларусі, дарогі франтавых канцэртных брыгад.

Пасля ж вызвалення Мінска — яшчэ тры гады працы на сцэне. Карэнныя мінчане-меламаны могуць расказаць вам пра сапраўдны тагачасны творчы росквіт спявачкі. Яна віртуозна валодала сваім пяшчотным лірыка-каларатурным сапрана, мела тонкі артыстычны густ, адчуванне стылю твора. была вельмі абаяльная і ў італьянскай, і ў рускай опернай класіцы, і ў вобразах беларускіх гераінь. У першым — яшчэ пад раяль — выкананні оперы Я. Цікоцкага «Алеся» (Мінск, 1944 год) Л. Аляксеева стварыла вобраз Марфачкі. Захапляла публіку яе Разіна ў «Севільскім цырульніку», асабліва ў славутай каваціне. Спявала Л. Аляксеева Джыльду, Віялету, Снягурачку, Марфу... У свае канцэртныя праграмы ўключала беларускія народныя песні, рамансы А. Багатырова, Р. Пукста.

Усяго восем гадоў. з 37-га па 41-шы і з 44-га па 46-ты, выступала яна ў спектаклях Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. У зеніце поспеху вымушана была пакінуць мінскую сцэну — так распарадзіўся лёс...

На жаль, мастацтва першых беларускіх савецкіх оперных салістаў захоўвалася не на відэастужках, а ў легендах, успамінах, у крытычных артыкулах. Мала каму з пачынальнікаў пашанцавала зрабіць фондавыя запісы для радыё ці запісацца на грампласцінку. Добра, што на бібліятэчных паліцах — і ў самых свежых энцыклапедычных выданнях, і ў першых кніжках-нарысах пра наш тэатр оперы і балета, і ў пажоўклых ад часу старых лімаўскіх падшыўках — чалавек дапытлівы знойдзе радкі пра творчасць народнай артысткі БССР Ларысы Філалогаўны Аляксеевай.

Жыве яна цяпер у Маскве, родны тэатр памятае, піша сваім даўнім сябрам-мінчанам.

**С. ВЕТКА.**

СТО РАДКОЎ ПАСЛЯ ПРЭМ'ЕРЫ

# Ніл і іншыя

*«Мяшчане» М. Горкага (пераклад А. Разанава). Пастаноўка А. Дольнікава. Сцэнаграфія А. Салаўёва. Кампазітар — У. Браілоўскі.*

*Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. 13 кастрычніка 1987 г.*

Спектакль коласаўцаў — не аб праслойцы грамадства. Пра з'яву. Пра з'яву жыцця, калі дабрабыт, свой дом (свая крэпасць!) робяцца самым галоўным, і больш за гэта не хвалюе анічога. Не заклапоцяць мешчаніна ні пакуты людзей на другім кантыненце, ні суседскія турботы. І дабрабыт свой і свой спакой будзе абараняць ён да апошняга. Дом, сям'я, дзеці, мэбля, — усё павінна быць не горш, чым у іншых. Клопат пра знешнюю прыстойнасць — таксама адзін з асноўных абывацельскіх клопатаў...

Бездухоўнасць працінае кожнае слова, кожны рух — жыццё і лёс персанажаў спектакля. Таму, напэўна, і ўзнікае такі мастацкі вобраз сцэнічнага твора — панурыя сцены і звісаючае павуцінне (хоць можна, вядома, паспрачацца: ці здарылася б такое ў доме Бяссеменава).

У спектаклі Бяссеменаў (Ф. Шмакаў) — чалавек, які ўжо страціў свае пазіцыі ў грамадстве, сіла яго ўжо сышла, і яму застаецца толькі крычаць і мітусіцца. На першы план выходзіць Ніл (Ю. Кулік). Яны з Поляй (Т. Ліхачова) — так званае «новае пакаленне». Пакаленне людзей, больш страшных за Бяссеменава. Яны выйшлі з мяшчанства, выпеставаны мяшчанствам і панеслі псіхалогію мяшчанства далей. Ніл такі самы, як і ўсе астатнія тут, хіба што дбае пра ўласныя інтарэсы больш рашуча і ваяўніча. Ён «ведае, чаго хоча». Пэўна, Ніл выклікае тыя пачуцці, якія ў ранейшых трактоўках горкаўскай п'есы выклікаў Бяссеменаў.

Дарваўшыся да свайго кавалка шчасця, адразу мяняе аблічча і Поля Пярчыхіна: з ціхмянай і непрыкметнай робіцца паважнай, павольнай кабетай, упэўненай у сабе, у сваёй значнасці і сваіх правах, гатовай абараняць цяпер сваю крэпасць не горш за іншых. У спектаклі Ніл і Поля амаль фізічна знішчаюць Бяссеменава (адна з фінальных сцэн, калі Ніл схіляецца над прыёмным бацькам і вось-вось, здаецца, прыдушыць яго перад тым, як пакінуць былы родны дом).

А вобразы Цецерава (Л. Трушко) і Таццяны (Н. Фацеева) — сапраўды трагічныя. Пеўчы п'е з таго, што ён нікому не патрэбны; ён і разумее больш за астатніх, і пачуцці яго тонкія і прыгожыя, і здолеў бы ён зрабіць у жыцці шмат добрага, а вось — нідзе не патрэбны; хацеў сагрэцца душой побач з Поляй, аднак і тут перайшлі дарогу — упэўнены і нахабны Ніл аказаўся і спрытнейшы, і прыгажэйшы. Плячом штурхануў Цецерава, той і паваліўся (фінал першай дзеі — дыялог Ніла і Цецерава: нічога не бачыць вакол сябе Ніл, людскі боль яму незразумелы, ён ідзе наперад — напрасткі, і погляд яго гарыць нядобрым агнём). І Таццяна — сярод тых, каго саштурхнулі з дарогі. Інтэлігентная, разумная, яна пакутуе ў гэтым панурым доме. Сярод нікчэмнасці, пошласці, пустэчы ёй асабліва цяжка: няма адкуль браць, няма каму аддаць тое, што ёсць у душы. Работа Наталлі Фацеевай сталая і цікавая. Актрыса пражывае кожную паўзу, у яе няма «прахадных» эпізодаў. Рухі, жэсты часам гавораць пра вобраз больш за словы, на працягу спектакля малюнак ролі дакладна акрэслены. Кульмінацыя — сцэна перад спробай самазабойства. На адчайны крок гераіня наважылася не таму, што яе пакінуў Ніл, — таму, хутчэй, што згінула вера ў іншае жыццё, якое, магчыма, калі-небудзь і настане...

Рытм спектакля то запаволены і спакойны, то напружаны, рваны; лейтматыў «Мяшчан» — разлад ва ўсім. Стваральнікі спектакля выказалі свой сум па чалавечай дасканаласці. «Мяшчане» ў коласаўцаў — і пра тое, што з цеснага кола мяшчанства мае быць выйсце. Над гэтым спектакль прымушае задумацца кожнага, хто яго глядзіць.

**Таццяна КАТОВІЧ.**

г. Віцебск.

# МАЙСТЭРСТВА І ФАНТАЗІЯ

Высокай мастацкай годнасцю вызначаюцца палескія бандарныя вырабы, якімі займаюцца ўмельцы вёскі Рылавічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Шмат іх у вялікай вёсцы, ганарацца бондары сваім рамяством.

— Бочка — справа няпростая, — гаворыць народны майстар Сцяпан Фёдаравіч Корсак, — асабліва сувенірная. Лепш за ўсё, калі яна дубовая, загартаваная ветрам, дажджом і сонцам.

Падбярэ, падгоніць Сцяпан Фёдаравіч клёпачкі, уставіць донца, надзене драўляныя ці металічныя абручыкі, прымацуе кран, падставачку — вось і гатовы сувенір. Пахне ён лесам, жаўцее сонечнымі бакамі і здзіўляе ўменнем чалавека, які яго стварыў. Яшчэ майстар робіць кубкі, балеі, дзежкі хлебныя, маслабойкі, сальніцы. Пачаў бандарыць Сцяпан Фёдаравіч даўно і за сваё жыццё зрабіў каля дзесяці тысяч вырабаў, якія радуюць людзей дабротнасцю і прыгажосцю.

**А. СТУПАК.**

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

**Таіса МЕЛЬЧАНКА**



### *Жніўнае*

Пара жніва — як гаспадыня
Праходзіць полем спакваля.
Далонню колас прыпадыме—
Узважыць, родзіць як зямля.

Ледзь зерне вуснамі пакратала,
Пагляд стамлёны пацяплеў.
...Снапамі жытнішча напята—
Так нараджае ніва хлеб.

### *Каб загадалі*

Каб я пачула:
— Адрачыся
Ад родных сцежак
І гаёў!
...Я стала б елкаю вячыстай
І зелянела б зноў і зноў.

Каб давялося адступіцца
Ад мовы роднае маёй—
На свет прабілася б
Крыніцай,
Звінела б срэбнаю бруёй:
«Няма смачнейшае
Вадзіцы,
Чымся з роднае
Крыніцы».

### *У Хатыні*

Будзіць промень знямелую
сінь,
Зазвінеўшы дрыготкай
струною.
Абгарэлыя рукі Хатынь
Да мяне працягнула з журбою:

— Дай іскрынку жыцця,
А не кветак.
Каб вярнуць з небыцця
Маіх дзетак.
Трэба ў печы паліць
гаспадыням.
Задыхаемся ў дыме,
Мы ў дыме...

То ж не дым,
То—сады.
Дай глыточак вады.
Ты глядзі на мяне,
Я—не прывід, не здань.
Чуеш, вогнішча ў коміне вые?

Дай цярпення,
Дай сілы.
Нянавісці дай.
Каб згарэць
І ўваскрэснуць жывымі.

### *А было ж у маці...*

(З НАРОДНАГА)

А было ж у маці
Тры сыночкі.
Тры сыночкі,
Тры каласочкі.
Іраслі яны,
Як дубочкі,
Кожным светлым днём,
Цёмнай ночкай.

Вышывала ім
Тры сарочкі,
Тры сарочкі.
Тры паясочкі.
На вяселле ім
Вышывала,
Ды вайны напаўзла
Навала.

...І ляжаць—ляжаць
Тры сарочкі...
Тры сарочкі...
Тры паясочкі...
Адцвілі на іх
Васілёчкі.

### *Свята разумення*

Хай меней будзе страт,
А болей свят.
Не каляндарных,
Проста чалавечых.
Каб ты з'яўляўся
Радасны, як сват,
Каб асцярожна
Абдымаў за плечы.

Каб нам здаваўся
І звычайны дзень
Ад светлыні душэўнай—
Незвычайным.
Каб вочы ў вочы
Мы маглі глядзець
Без недаверу, без хлусні,
Адчаю.

Скажу табе,
Шчаслівая, тады:
— У нас сягоння—
Свята разумення.
Давай запішам
У календары,
Каб адзначаць
Наступным пакаленням.

●

Ёсць адчуванне блізкасці
маўклівай,
Што пасылае імпульсы свае
Так непрыкметна, але так
імкліва
У сэрцы нашы, нібы токам,
б'е.

Я адчуваю, як яны магніцяць
Ад позірку, ад дотыку рукі.
Праменьчыкі вачэй тваіх, як
ніці,
Дарогу к сэрцу сцелюць
напрасткі.

## ВЫСТАЎКІ

# ЯШЧЭ РАЗ НАПОМНІЛА...

Часам менавіта «камерная», а не «манументальная» рэспубліканская выстаўка становіцца ледзь не этапнай з'явай у мастацтве, падводзіць вынікі ці не цэлага перыяду ў развіцці той або іншай тэндэнцыі мастацкага жыцця. Такімі былі ў свой час персаналіі Г. Вашчанкі, Л. Шчамялёва, А. Малішэўскага, А. Кішчанкі, М. Савіцкага, А. Кашкурэвіча...

Выстаўка такога ж плана працуе зараз у Полацкай карціннай галерэі. Палачане знаёмяцца з творчасцю жывапісца Алеся Марачкіна і скульптара Аляксандра Шатэрніка.

Жывапісец прадставіў творы амаль за дваццаць год. Работы канца 60-х — пачатку 70-х гадоў можна было б выставіць у экспазіцыі сённяшніх «нефармалаў», і яны ўспрымаліся б як самы апошні крык мясцовага «авангарду». *Але ж галоўная* тэма творчасці, якая ў Марачкіна вызначылася яшчэ ў студэнцкія гады, патрабавала адмовіцца ад наўмыснай зашыфраванасці, ад эфектаў дзеля эфектаў. У сярэдзіне 70-х гадоў жывапісец піша палотны, якія зрабілі яго імя шырокавядомым. Гэта — «Мара пра палёт» (1975), «Гуканне вясны» (1976), «Дарога» (1976).

Хлопчык — герой «Мары...» нібыта стаіць у цэнтры Сусвету. Пад нагамі зямля, а вакол — космас, загадкавы, таямнічы, ён палохае і прыцягвае.

Іншы настрой у «Гуканні вясны». Сам мастак расказваў: «У нас, на вёсцы, гэты час называлі Саракамі. Казалі, што сорак розных птушак з выраю вяртаюцца. З паганскіх часоў такое павер'е было. «Калі прыйдуць Саракі, не хадзі каля ракі», бо пачынаецца крыгаход. У гэты час цэлыя вёскі выходзяць у поле і вясну гукаюць. Адна вёска песню пачынае, другая адгукваецца, падхоплівае... Вось так гукаюць вясну і чуюць адзін аднаго».

Палатно Марачкіна для мяне атаясамлівалася тады з *вільготным вясновым паветрам*, голымі дрэвамі, з зямлёй, што вызваляецца з-пад снегу, з песнямі, якіх ніколі не чуў, але, здаецца, адразу пазнаў бы...

«Дарога». Такую дарогу можна ўбачыць толькі ноччу. Днём увагу адцягваюць краявіды, *гарызонт*. А ноччу — толькі кавалак шашы, выхаплены з цемры фарамі. Дарога нібы сама цягне цябе наперад, падпарадкоўвае свайму рытму.

Зараз, у Полацку, я спрабаваў аднавіць далёкія першыя ўражанні ад гэтых палотнаў. Не атрымалася. Можа, адпавядаючы эстэтычным патрабаванням 70-х гадоў, яны пазбаўлены той глыбіні, якая раскрываецца толькі з часам?

Але ж ёсць у Марачкіна карціны, якія нібыта мяняюцца разам з табою. Для мяне гэта «Пачатак. Францыск Скарына» (1978), «Язэп Драздовіч» (1977—78), «Алаіза Пашкевіч» (1976), «Мікола Гусоўскі» (1980), «Вераніка і Максім» (1981). Я кожны раз нібыта бачу іх упершыню. Існуе такая мастацкая формула «праўда без верагоднасці». Гэта — калі вобразу, створанаму мастаком, на падставе ўласнага ўяўлення верыш болей, чым дакладнаму, але халоднаму апісанню сведкаў.

*Гістарычныя* асобы на партрэтах А. Марачкіна ў значнай ступені рамантызаваны. Але раней за мастака іх вобразы беспамылкова рамантызаваў сам народ. Народная памяць захоўвае герояў у адпаведнасці з іх справамі. У прыгаданых партрэтах мастак стварае вобразы гістарычна аб'ектыўныя, хоць гістарычныя рэаліі дадзены на палотнах у вельмі ўмоўнай форме.

Іншыя партрэты гэтага вялікага цыкла менш удалыя. Прайшоў час, і нешта страцілася ў партрэце Івана Луцкевіча (1982), які на выстаўцы «Песняры зямлі беларускай» уваходзіў у «абойму» лепшых твораў. Спрошчаным і нават шаблонным здаецца вобраз Рагнеды (1982). Зразумела, можна сказаць новае слова, нават карыстаючыся стэрэатыпнымі сімваламі, *замацаваць новы змест у старой* форме. Але ў дадзеным выпадку гэта А. Марачкіну, як мне здаецца, не ўдалося. Нельга аднесці да творчых удач партрэты Сімяона Полацкага (1986), Вітаўта Вялікага (1980), Ефрасінні Полацкай (1984).

Часам Марачкіну бракуе пачуцця сучаснай формы. Але яго работы ўсё ж «працуюць». Выратоўвае шчырасць майстра, ягоная адданасць народнасці і гістарызму.

На маю думку, экалагічная тэма, *да якой у апошнія гады* Марачкін звяртаецца ўсё часцей, патрабуе іншай, больш гучнай формы, чым распісныя дываны ў традыцыях Язэпа Драздовіча і Алены Кіш. Такую гучную, публіцыстычную форму мастак знайшоў у апошняй карціне «Планета «Палын», прысвечанай чарнобыльскай трагедыі. Яна зараз у экспазіцыі рэспубліканскай выстаўкі «Краіна Саветаў». Жывапісец-рамантык звярнуўся да трагедыі. У сувязі з гэтым варта прыгадаць яго вельмі цікавую работу 1975 года — «Касмічная пачвара над маёй вёскай». Дванаццаць гадоў назад яшчэ не гаварылі пра «зорныя войны».

Ну, а скульптуры Аляксандра Шатэрніка? У асноўным гэта творы апошніх пяці-шасці год. Скульптар таксама працаваў над вобразамі Кірылы Тураўскага (1987), Рагнеды (1985), Вітаўта (1984), Міколы Гусоўскага (1980), Максіма Багдановіча (1986). Такім чынам, гледачы могуць суаднесці розныя мастацкія трактоўкі.

Адна з лепшых работ скульптара — кампазіцыя «Якуб Колас — *настаўнік*» (1982). Шатэрнік пераадольвае заганную традыцыю этнаграфічна-натуралістычнага разумення асобы і літаратурнай спадчыны Якуба Коласа (яскравае ўвасабленне гэтай традыцыі — помнік у Мінску). Простая і вельмі ёмістая метафара: Колас запальвае газнічку, каб асвятліць раскрытую кнігу ў руках вучня.

На выстаўцы некалькі варыянтаў кампазіцыі «Адвечнае». Адзін з іх выкананы ў шамоце, мабыць, найбольш удалы. Тут сама тэхніка прымусіла аўтара адмовіцца ад дэталізацыі, якая іншы раз бывае ў яго работах недастаткова асэнсаваная, што, зразумела, зніжае эстэтычныя якасці твораў.

У сувязі з тым, што выстаўка адбываецца ў Полацку, што і назва кампазіцыі мае ўдакладненне «Полацк — калыска нашай гісторыі», мне падумалася, што гэтая скульптура жанчыны з мячом і калыскай была б у старажытным горадзе вельмі дарэчы, як напамін пра яго тысячагадовую гісторыю, пра гісторыю Беларусі.

Дэкаратыўнасць з рысамі манументальнасці — гэта якасць таксама іншых кампазіцый з шамоту: «Крывічы», «Дрыгавічы», «Вітаўт». Зварот да новай тэхнікі плённа адбіўся на творчай манеры майстра, пра што сведчыць *апошняя* работа Шатэрніка «Кірыла Тураўскі».

Нягледзячы на тое, што Аляксандр Шатэрнік ужо можа падводзіць пэўныя вынікі сваёй творчай дзейнасці, гэтая выстаўка — толькі дэманстрацыя патэнцыяльных магчымасцей майстра. Бо яго скульптуры (за малым выключэннем) не выйшлі за сцены майстэрні і выставачнай залы. На жаль, нацыянальная гісторыя ўсё яшчэ мала «прапісана» ў нашых гарадах. Для манументальнай прапаганды, у тым сэнсе, як яе разумеў У. І. Ленін, на Беларусі зроблена пакуль вельмі мала. Выстаўка ў Полацкай карціннай галерэі яшчэ раз пра гэта напомніла.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# Юбілею Полацка прысвячалася...

Гэты год шчодры на гарадскія юбілеі: 850 гадоў споўнілася Мсціславу, 700 год — Кобрыну, 1125 год—старажытнейшаму гораду Беларусі Полацку.

З гэтай нагоды і адбылася 28—30 верасня ў Полацку навуковая канферэнцыя «Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі». З цікавымі і змястоўнымі дакладамі выступілі гісторыкі і археолагі, мастацтвазнаўцы і этнографы, рэстаўратары і краязнаўцы. На дзвюх секцыях гісторыі і археалогіі можна было пачуць паведамленні вучоных з Масквы і Ленінграда, Кіева і Мінска, Віцебска і Калугі. Пра розныя аспекты вывучэння старадаўняга дойлідства Полацка, пра яго ўзаемныя сувязі з іншымі архітэктурнымі школамі Кіеўскай Русі расказалі В. Булкін, В. Церашчатава, І. Тоцкая, М. Цэйтліна, Ю. Ліўшыц. У дакладах Т. Раждзественскай і І. Залілава ішла гаворка аб развіцці полацкай пісьменнасці і аб насценных надпісах (графіці) Спаса-Прэабражэнскай царквы XII ст. Моцнае ўражанне на прысутных зрабіла выступленне ленінградскага музыказнаўца Н. Сярогінай, якой пашчасціла знайсці, расшыфраваць і выканаць у старадаўняй музычнай тэхніцы пеўчы цыкл XII ст. аб Ефрасінні Полацкай.

У дакладах Л. Аляксеева, Ю. Зайца, Л. Калядзінскага, В. Собаля, В. Ляўко, В. Зайцавай былі асветлены розныя аспекты гісторыі, матэрыяльнай культуры і тапаграфіі гарадоў Полацкай зямлі: Мінска, Віцебска, Друцка і Друі.

З цікавым паведамленнем «Рака Палата і таямнічы Турунт» выступіў ленінградскі археолаг В. Булкін. Аб ролі Полацка ў палітычнай сістэме Кіеўскай Русі, яе мастацкай гісторыі гаварылі Г. Штыхаў і В. Пуцко. Старонкі з гісторыі славянскага этнагенезу, этнічны склад насельніцтва Полацкай зямлі, яго антрапалагічная характарыстыка — тэма гаворкі археолагаў Л. Побаля, З. Сяргеевай, Л. Дучыц, В. Шадыры і этнографаў А. Кушніра і І. Чаквіна. Археолаг з Мінска Ш. Бекцінееў расказаў аб асноўных гандлёвых шляхах X—XV стст. на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, а даследчыца з Масквы Т. Джаксан — пра згадкі аб Полацку ў старажытнаскандынаўскіх пісьмовых крыніцах.

Цікавы даклад аб тапаграфіі Полацка IX — XVII стст. зрабіў малады беларускі археолаг С. Тарасаў. Ён лічыць, што першапачатковае полацкае гарадзішча знаходзілася не на выспе, як зараз, а было звычайным мысавым паселішчам, якое штучна аддзелена ад асноўнай гарадской тэрыторыі толькі ў XVI ст.

Пад кіраўніцтвам С. Тарасава былі праведзены значныя раскопкі на тэрыторыі былога Вялікага Пасада. Пра іх вынікі расказала супрацоўнік Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка Г. Раманенкава. Некаторыя знаходкі можна было ўбачыць на невялічкай выстаўцы. Гэта паліхромная і зялёная кафля, касцяная шахматная фігурка, каменная пячатка, фігурныя паліваныя пліткі *падлогі, старадаўняя плінфа* са знакамі цагельнікаў, скураны абутак, вырабы з металу, шкла і гліны.

Удзельнікі канферэнцыі агледзелі шматлікія архітэктурныя і археалагічныя помнікі Полацка. На жаль, некаторыя з іх знаходзяцца ў нездавальняючым стане. Пашкоджана цэментная адмостка вакол Спаса-Прэабражэнскай царквы, у выніку парушэння тэмпературнага рэжыму ўзнікла пагроза унікальным фрэскам XII ст. (дарэчы, дакладны пачатак іх рэстаўрацыі пакуль не вызначаны), няма ахоўных знакаў і не добраўпарадкавана тэрыторыя, дзе некалі знаходзіліся архітэктурныя помнікі XII ст., вясной гэтага года на плошчы Леніна, у гістарычным цэнтры горада, будаўнікі знішчылі частку культурнага археалагічнага пласта.

У сувязі з гэтым удзельнікі канферэнцыі аднагалосна прынялі рашэнне звярнуцца ў саюзныя і рэспубліканскія дзяржаўныя органы, а таксама ў Савецкі фонд культуры і рэдакцыю газеты «Советская культура» з прапановай пашырыць межы Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка, перагледзець план забудовы і добраўпарадкавання плошчы Леніна з улікам існуючага тут культурнага археалагічнага *пласта і помнікаў архітэктуры*, пачаць комплексную разгенерацыю старажытнай гарадской забудовы гістарычнага цэнтра Полацка.

Пасля канферэнцыі ў Полацкім гарвыканкоме адбылася зацікаўленая гутарка ўдзельнікаў канферэнцыі з прадстаўнікамі мясцовых савецкіх і партыйных органаў. У прыватнасці, было пастаўлена пытанне аб стварэнні камісіі па перайменаванні некаторых гарадскіх вуліц і завулкаў у адпаведнасці з гістарычнай тапаграфіяй горада і ўшанаванні памяці некаторых гістарычных асоб, звязаных з Полацкам. Было выказана пажаданне раз у пяць год праводзіць у Полацку навуковыя канферэнцыі, а найбольш цікавыя даклады і паведамленні друкаваць асобнымі выданнямі пад назвай «Полацкі зборнік».

**Наш кар.**

# У руху, у творчым пошуку

**Споўнілася 40 год Гродзенскаму абласному драматычнаму тэатру. Віншуем калектыў са знамянальнай падзеяй, жадаем творчага плёну — і прапануем нашым чытачам артыкул тэатразнаўцы В. Навуменкі пра сённяшні дзень тэатра.**

ЗА СОРАК ГОД былі ў тэатра з Гродна перыяды ўзлёту, звязаныя перш за ўсё з імёнамі вядомых беларускіх рэжысёраў М. Кавязіна і І. Папова, былі проста ўдалыя гады, калі тэатр узначальваў У. Караткевіч. Здараліся і сезоны застою, спаду, але самая трывожная сітуацыя склалася на пачатку 80-х гадоў, калі неўкамплектаваная і растрэніраваная трупа знаходзілася ў стане крайняй разгубленасці, у калектыве не было ніводнага мастака і толькі адзін рэжысёр, а ўвесь рэпертуар складаўся з трох даволі шэрых спектакляў. Тэатр апынуўся на перыферыі духоўнага жыцця горада, згубіў давер і павагу гледача.

У такіх умовах у Гродна быў запрошаны І. Пятроўскі — вядомы ў тэатральным свеце чалавек, які стаў адначасова дырэктарам і галоўным рэжысёрам, і пад кіраўніцтвам якога тэатр вымушаны быў тэрмінова вырашаць цэлы комплекс творчых і арганізацыйных праблем.

Прайшло тры гады, і сітуацыя змянілася ў лепшы бок: сёння Гродзенскі абласны драматычны тэатр — адзін з найбольш цікавых творчых калектываў.

**Кожны дзень гродзенцы даюць у сваім новым памяшканні па два спектаклі — на вялікай і малой сцэнах, — чаго не могуць дазволіць сабе нават купалаўцы, якія працуюць на малой сцэне толькі па пятніцах і суботах. Менавіта гродзенскі тэатр можа ганарыцца самымі цікавымі і прэстыжнымі гастролямі. У 1987 годзе ён знаёміў са сваім мастацтвам жыхароў Польскай Народнай Рэспублікі, калінінградцаў, мінчан, нядаўна вярнуўся з Сухумі, дзе гастраляваў амаль**



«Стары» М. Горкага. Сцэна са спектакля.



«Князь Навагрудскі» Л. Пракопчыка і Д. Кальчанкі. Т. Харламава (Квета) і У. Шакала (Міндоўг).

Фота А. КАСАРСКАГА.

**увесь верасень. Да таго ж, калектыў вырашыў кожны год абавязкова выязджаць ва ўсе сталіцы Прыбалтыйскіх рэспублік. Два выезды (на тыдзень — дэкаду) ужо адбыліся, і можна не сумнявацца, што да канца года праграма будзе завершана. Такім чынам — Польшча, Вільнюс, Рыга, Талін, Калінінград, Сухумі. Наўрад ці які-небудзь іншы тэатр рэспублікі зможа нават за пяцігодку выстраіць аналагічны рад.**

Як вядома, зараз праходзіць тэатральны эксперымент, мэта якога — пашырэнне правоў сцэнічных калектываў у вырашэнні вытворча-эканамічных і творчых пытанняў, з аднаго боку, і ў павышэнні адказнасці за вынікі сваёй дзейнасці, з другога. У значнай ступені па-новаму жыве і гродзенскі тэатр, хоць фармальна ў эксперыменце ён і не прымае ўдзелу. Я памятаю выступленне І. Пятроўскага на першым з'ездзе Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі, дзе ён, адказваючы тым кіраўнікам тэатраў, якія скардзіліся, што немагчыма дастаць тую ці іншую рэч, неабходную для нармальнай працы калектыву, гаварыў: «Усё можна дастаць, для гэтага неабходна толькі ўмець зарабляць сродкі і з розумам іх траціць— іншымі словамі, трэба ўмець працаваць». Па сутнасці, па законах эксперымента працякалі і працякаюць у гродзенцаў галоўныя ў жыцці любога тэатральнага калектыву працэсы аднаўлення трупы і фарміравання рэпертуару.

Каля палавіны трупы сёння складаюць выхаванцы беларускай тэатральнай школы, астатняя частка — запрошаныя І. Пятроўскім акцёры з розных гарадоў краіны. Прычым, геаграфія запрашэнняў самая шырокая — ад Кішынёва да Вільнюса, ад Калінінграда да Уладзівастока. У выніку нараджаецца новы творчы калектыў — працаздольны, з багатымі патэнцыяльнымі магчымасцямі. Вядома, не ўсё тут проста. І справа не ў тым, што не ўсё ў акцёраў, у тым ліку і вядучых, заўсёды атрымліваецца, што здараюцца няўдалыя ролі, — а ў тым (і гэта ў большай ці меншай ступені ўплывае амаль на ўсе спектаклі), што на гродзенскай сцэне сустрэліся выканаўцы розных школ, не аднолькавага творчага вопыту. Стварэнне адзінай эстэтычнай сістэмы, дасягненне сапраўднай ансамблевасці — працэс складаны і даволі працяглы.

СЁННЯ на афішы гродзенцаў каля 20 спектакляў (амаль усе яны былі паказаны сёлета на гастролях у Мінску). Рэпертуар вабіць разнастайнасцю — у ім ёсць спектаклі на любыя густы, а таксама арыгінальнасцю — большасць з іх ідзе толькі на гродзенскай сцэне.

Своеасаблівай «візітнай карткай» тэатра стаў спектакль «Князь Навагрудскі», вырашаны рэжысёрам І. Пятроўскім у жанры гістарычнай драмы. Гэты твор напісаны драматургам-дэбютантам Л. Пракопчыкам у садружнасці з загадчыкам літаратурнай часткі Д. Кальчанкай. Па сутнасці, п'еса стваралася ў сценах тэатра. Перад калектывам стаяла складаная і вельмі пачэсная задача — расказаць аб далёкім мінулым беларускага народа, раскрыць працэс фарміравання нацыянальнай самасвядомасці ў час стварэння і ўмацавання на тэрыторыі сучасных Беларусі і Літвы новай дзяржавы, якой суджана было адыграць адметную ролю ў гісторыі сярэдневяковай Еўропы — Вялікага княства Літоўскага са сталіцай у Навагрудку.

Рэжысёр свядома адмовіўся ад акцэнціроўкі этнаграфічна-фальклорных момантаў п'есы, усю ўвагу сканцэнтраваўшы на светапоглядных пытаннях. У цэнтры твора — Вялікі князь Міндоўг і ягоны сын Вайшэлк. У выкананні У. Шакалы Міндоўг — асоба вельмі супярэчлівая, але, разам з тым, надзвычай цэльная — ён і магутны воін, і пяшчотны муж, і буйны дзяржаўны дзеяч, заклапочаны лёсам сваіх падданых, і ў той жа час рукі ягоныя па локці ў крыві народнай: ён вельмі любіць свайго адзінага сына, але, па сутнасці, асуджае яго на страшэнныя пакуты. Вайшэлка іграюць два акцёры: палымянага, страснага, ганарлівага юнака — В. Мірны, а мудрага палітыка, усе думкі якога ў сталыя гады накіраваны на ўмацаванне дзяржавы, — Э. Мурашоў.

Цікавыя, характарныя вобразы стварылі В. Смачнеў (вярхоўны жрэц Пяруна), А. Акчурын (баярын Васіян), І. Таран (пасол Зіберт), Свірын (князь Галіцкі).

Ёсць у спектаклі і недахопы, у прыватнасці, амаль усе сюжэтныя лініі абрываюцца, не атрымаўшы лагічнага завяршэння, акцёрам цяжка даецца вершаваны тэкст, даволі невыразнае вырашэнне сцэнічнай прасторы (мастак К. Чамекаў), часцей за ўсё механічна спалучаюцца псіхалагічна-бытавыя эпізоды з эпізодамі ўмоўна-рамантычнымі, рэжысура ў асобных момантах занадта традыцыйная і банальная. Але самі па сабе супрацоўніцтва з пачынаючым беларускім драматургам і зварот да гістарычных каранёў нашай зямлі— вартыя ўхвалы.

**Класіка на афішы гродзенскага тэатра прадстаўлена спектаклямі «Стары» М. Горкага, «Школа жонак» Ж. -Б. Мальера і «Дэкамерон» паводле Дж. Бакачча.**

**У свой час, у прадмове да амерыканскага выдання п'есы «Стары», М. Горкі пісаў: «У кожнай маёй п'есе з'яўляўся, насуперак маёй волі, чалавек, па адносінах да якога ўсе іншыя дзейныя асобы ігралі ролі залежныя...» Менавіта такім чалавекам у гродзенскім спектаклі стаў Стары — Піцірым. В. Смачнеў стварае ёмісты вобраз чалавека цэльнага, пазбаўленага мітусні, фанатычна адданага адной ідэі. Уся трагедыя героя і тых, хто яго акружае, у тым, што гэтая ідэя — ілжывая. Ён перакананы ў сваім праве асуджаць і прымусіць пакутаваць Мастакова — былога катаржаніна, які трапіў у зняволенне па сутнасці выпадкова, з-за судовай памылкі, збег адтуль, і вось ужо шмат гадоў людзі не бачылі ад яго нічога, акрамя дабра. Стары Смачнева — сканцэнтраваны, сабраны, гаворыць цвёрда, важка і ціха, бо ведае, што яго заўсёды пачуюць — падпарадкаваў сабе амаль усіх персанажаў.**

**Мастакоў (М. Емяльянаў) — асоба каларытная і таленавітая. Ён энергічны, справядлівы, разумны, інтэлігентны, але слабы і бездапаможны перад агрэсіўнай сілай Піцірыма. М. Емяльянаў паслядоўна і пераканаўча вядзе свайго героя да трагічнага фіналу, сцвярджаючы тым самым галоўную думку спектакля: дабро, каб процістаяць злу, павінна ўмець змагацца, у адваротным выпадку яно заўсёды будзе асуджана на паражэнне.**

**У спектаклі «Школа жонак» зроблена спроба дасягнення сінтэзу розных тэатральных стыляў, напрамкаў — прадстаўленне ў ім суіснуе з перажываннем, адкрытая ігра з пераўвасабленнем. Аднак гарманічным такое спалучэнне назваць нельга — хутчэй можна гаварыць не аб сінтэзе, а аб эклектыцы, зноў жа — асабліва прыкметнай у акцёрскім выкананні.**

**Галоўная ўдача спектакля — Арнольф у выкананні А. Акчурына, які спрабуе з'яднаць усіх выканаўцаў. У Арнольфа натуральна спалучаецца герой Мальера — стары чалавек, які вырашыў ажаніцца з маладзенькай прыгажуняй, — і акцёр Акчурын, які часам пасміхаецца, іранізуе над сваім персанажам, часам спачувае яму. Акчурын артыстычны ў шматлікіх трансфармацыях пачуццяў, думак і настрояў. Ён — бясспрэчны лідэр, ад якога ў вырашальнай ступені залежыць атмасфера спектакля.**

У фарміраванні сучаснага рэпертуару, які складае аснову афішы, няцяжка заўважыць пэўны кампраміс, на які былі вымушаны пайсці гродзенцы, каб абудзіць цікавасць да тэатра, пашырыць глядацкую аўдыторыю гледачоў у вельмі сціслы тэрмін. Так з'явіліся спектаклі «Экспромт-фантазія» В. Токаравай, «Ён і яна» А. Штэйна, «Сямейная вячэра а палове другой» В. Паўлава, «Спартыўныя сцэны 1981 года» Э. Радзінскага, «Попел Алімпа» Э. Ветэмаа, «З Новым годам» М. Варфаламеева і шэраг іншых.

Для спектакля «Попел Алімпа» рэжысёр М. Мамедаў прыдумаў адмысловую абалонку. У дзею неаднаразова ўмешваюцца хлопцы-брэйкеры, якіх у п'есе няма, але ў спектаклі яны лёгка, хвацка вытанцоўваюць модны танец. Пастаянна знаходзіцца на сцэне музыкант — ён грае на сінтэзатары, пяе, імітуе бытавыя гукі, рэагуе на падзеі. Ёсць і іншыя знаходкі, якія сведчаць аб фантазіі, добрым гусце пастаноўшчыка, але раз-пораз узнікае пытанне — а навошта ўсё гэта? Пытанне правамоцнае, бо такое «размалёўванне» не вельмі стасуецца з драматургічным матэрыялам.

П'еса Э. Ветэмаа, думаецца, заслугоўвае больш глыбокага прачытання, таму што звернута да праблем сапраўды драматычных — да наркаманіі і рэгулярнага мэтанакіраванага ўжывання ў нашым спорце допінгаў — стымулятараў, якія губяць арганізм спартсмена, асабліва калі гэты спартсмен — жанчына.

Для п'есы «Попел Алімпа» характэрна вельмі напружаная, экспрэсіўная атмасфера ўзаемаадносін персанажаў. Каханне і нянавісць перапляліся так, што раздзяліць іх амаль немагчыма. Адсюль аголенасць канфлікту, рэзкія змены настрояў, узаемны эпатаж партнёраў. Але ў спектаклі Марцін (А. Марцынюк) залішне спакойны, разважлівы, просты, аднастайны, хоць хада падзей пагражае яму крахам трэнерскай кар'еры, разбурэннем сям'і, ганьбай. Найбольш цэльны вобраз спектакля — знакамітая спартсменка Інес (Л. Красікава). Ёсць у яе боль, пакуты, адчай, каханне да мужа і нянавісць да трэнера...

**У апошнія гады крытыка і тэатральная грамадскасць б'юць трывогу ў сувязі з засіллем у рэпертуары многіх тэатраў п'ес, у якіх аналізуюцца ценевыя бакі жыцця. Тэматычны дыяпазон такой драматургіі — сямейныя сваркі, расчараванні, брудноватыя любоўныя гісторыі. Сцэну запаланілі ўсялякія ныцікі, людзі без ідэалаў, без прынцыпаў. Лаўкі, кухні, спальні — вось асяроддзе, дзе вырашаюць свае праблемы гэтыя людзі.**

**Аднак, да гонару гродзенцаў, не «Экспромт-фантазія» і не «Спартыўныя сцэны 1981 года» з'яўляюцца вызначальнымі ў рэпертуарнай палітыцы тэатра. Калектыў імкнецца размаўляць з гледачом аб сур'ёзных, актуальных праблемах сучаснасці. І няхай такая размова не заўсёды вытрымліваецца на належным мастацкім узроўні, сама тэндэнцыя заслугоўвае павагі. Маю на ўвазе спектаклі «Галасы» М. Абрамава і Д. Кальчанкі, «Акушэр» А. Кудраўцава, «Выбар» Ю. Бондарава, «Лепш застацца мёртвым» К. Вітлінгера і шэраг іншых.**

Ваенныя, дакладней перадваенныя інтанацыі афарбавалі ў трывожныя таны агульнае гучанне адной з апошніх пастановак тэатра — «Заўтра была вайна» паводле аповесці Б. Васільева.

Спектакль будуецца як успаміны ацалелага ў полымі вайны чалавека аб сваіх аднакласніках, большасць якіх не вярнуліся з палёў Вялікай Айчыннай вайны. І хоць самога аўтара на сцэне няма, аўтарская інтанацыя гучыць даволі выразна, таму што ягоныя словы ўплятаюцца ў тэкст амаль усіх персанажаў. Ёсць у спектаклі і эпізоды, дзе акцёры, «выходзячы з ролі», звяртаюцца да гледачоў не ад імя аўтара і не як персанажы, а ад свайго асабістага імя.

Гэтую вельмі складаную задачу аб'яднання ў адным спектаклі трох пластоў, трох інтанацый — аўтара, акцёра і персанажа — тэатр вырашае проста і эфектыўна. Жыццё вобразаў не спыняецца — акцёры, звяртаючыся да гледача, захоўваюць эмацыянальны стан, ідэнтычны стану, у якім знаходзіўся і сам персанаж.

Тэатр, апавядаючы аб адным, 1940 годзе, з жыцця дзевятага класа, змог пераканаўча і дакладна ўзнавіць на сцэне атмасферу таго цудоўнага і трагічнага часу. У калектыўным партрэце школьнікаў — старшакласнікаў, дзе асабліва прыкметнымі фігурамі сталі бескампрамісная, сумленная Іскра (С. Літвінёнак), страсная, глыбокая, цэльная Віка (М. Забалотная), эмацыянальна-артыстычная Лена (Л. Волкава), тэатр раскрывае маральную чысціню, душэўную шчодрасць, патрыятызм пакалення, якому суджана было прыняць на сябе ўдар фашызму і здабываць Перамогу.

Цікавы дуэт ствараюць А. Гайдуліс (класны кіраўнік) і М. Емяльянаў (дырэктар школы). Абодва яны людзі перакананыя, прынцыповыя, аднак стаяць на розных пазіцыях, і паміж імі ідзе жорсткая барацьба за душы школьнікаў. Канчатковая перамога — за дырэктарам, а адсюль, нягледзячы на трагізм сітуацый, безумоўна, аптымістычнае гучанне спектакля.

КАЛЕКТЫЎ гродзенскага тэатра знаходзіцца ў руху, у творчым пошуку. Прычым, не толькі шукае, што само па сабе ў мастацтве надзвычай важна, але і знаходзіць. І — можа ганарыцца вынікамі сваёй працы.

Хочацца спадзявацца, што самы цяжкі, складаны перыяд свайго аднаўлення і станаўлення Гродзенскі абласны драматычны тэатр ужо мінуў, глядач мае права чакаць ад яго новых сур'ёзных работ. У планах калектыву — творы В. Дуніна-Марцінкевіча, М. Цвятаевай, І. Бабеля, М. Шатрова, грунтоўна знаёміцца І. Пятроўскі са спадчынай У. Караткевіча, марыць паставіць п'есу пра С. В. Прытыцкага.

Пажадаем жа ўсім планам тэатра — здзейсніцца!

Віктар НАВУМЕНКА.

**ЧЫТАЧ СТАВІЦЬ ПЫТАННЕ**

# «ЦІ ЗАШУМІЦЬ ПАД ВЕТРАМ?..»

**Пад такім загалоўкам ў «ЛіМе» за 5 верасня мінулага года быў надрукаваны мой допіс. Я пісаў пра занядбаны стан бярозавай алеі, закладзенай у Стоўбцах у гонар 100-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа. Праз некаторы час рэдакцыя паведаміла, што на мой ліст атрыманы адказ за подпісам старшыні Стаўбцоўскага раённага Савета народных дэпутатаў, у якім, у прыватнасці, гаварылася: «Стаўбцоўскі лясгас узяў шэфства над Коласаўскай алеяй і абавязаўся сістэматычна праводзіць неабходны догляд. Раённаму вытворчаму аб'яднанню жыллёва-камунальнай гаспадаркі даручана паставіць у 1987 годзе на алеі адпаведны мемарыяльны знак. У 1987 годзе будуць зроблены неабходныя работы па добраўпарадкаванні тэрыторыі, якая мяжуе з Коласаўскай алеяй».**

**Што ж змянілася з таго часу?**

**Як і год назад, у Коласаўскай бярозавай алеі многія дрэвы засохлі, паламаны. Па-ранейшаму навакольная тэрыторыя не ў лепшым выглядзе. Праўда, тут паставілі спецыяльную агароджу, ды мясцовыя вадзіцелі мала зважаюць на яе, едуць напрасткі.**

**А зусім нядаўна тут быў пажар. Відаць, нехта з вадзіцеляў выкінуў з кузава салому, хтосьці яе падпаліў... У выніку агнём пашкоджаны яшчэ дзве бярозкі.**

**Не так ужо многа часу засталося да 110-й гадавіны з дня нараджэння песняра. На свята гэтае з'едуцца шматлікія госці з усіх кутКоў краіны, і як будзе сорамна ўсім нам, калі перад іх вачамі паўстане знявечаная Коласаўская алея.**

**Трэба неадкладна навесці тут належны парадак.**

**С. ГАЛОУКА,**
**супрацоўнік стаўбцоўскай раённай газеты «Прамень».**

**ПЕРАКЛАДЫ**

## Слова, што вырасла з сэрца і болю

**Яму не пашанцавала — ён жыў і працаваў у нялёгкі для роднай яго Славеніі час, і таму паэтава жыццё было напоўнена трывогамі, пакутамі і расчараваннямі.**

**Але менавіта дзякуючы гэтаму яму і пашанцавала, бо жыць і працаваць у цяжкія і шчаслівыя гады самасцвярджэння свайго народа, самаспазнання нацыі, яднання мовы і радзімы — чаго яшчэ можа жадаць сапраўдны паэт і што лепей за гэта можа жывіць яго творчасць?!**

**Францэ Прэшарн нарадзіўся на самым пачатку XIX стагоддзя, калі ўсе паўднёваславянскія народы перажывалі сваё абуджэнне і нацыянальнае адраджэнне. Сербы, харваты, славенцы, якія даўно страцілі сваю незалежнасць і жылі ў межах чужых ім дзяржаў — Турцыі, Аўстрыі, Венгрыі, — зноў нараджаліся для актыўнай палітычнай і грамадскай дзейнасці.**

**І таму Прэшарну, якога самі славенцы і сёння называюць славенскім Пушкіным, амаль усё даводзілася рабіць упершыню — ён быў і сярод пачынальнікаў славенскай паэзіі, і сярод тых, хто закладваў асновы славенскай літаратурнай мовы.**

**Пачатковую адукацыю будучы паэт атрымаў на роднай мове — тады якраз мінуўся той час, калі ішла германізацыя славенскага насельніцтва, калі дзяржаўнаю моваю была нямецкая, калі на гэтай мове пісала і гаварыла славенская інтэлігенцыя, калі само слова «славенец» было пад забаронаю, калі славенцаў запісвалі па назвах абласцей: краінец, прыморац, харутанін. Менавіта тады квітнелі гады, калі, нібы цёплае і ласкавае сонца між халоднай і слотнай восені, выбліснула прывідная надзея — вызваліўшыся з дапамогаю Напалеона ад аўстрыйскага прыгнёту Габсбургаў, славенцы ў створанай французамі Ілірыі атрымалі права карыстацца роднай моваю.**

**Але неўзабаве да ўлады вярнуўся аўстрыйскі кесар, і ў Крайне зноў не засталося ніводнай славенскай школы — Прэшарн змушаны быў прадаўжаць сваю адукацыю на нямецкай мове.**

**Жыццё нібы знарок ставіла перад ім адну перашкоду за другою.**

**Ф. Прэшарн едзе ў Вену, паступае ва універсітэт, працуе ў бібліятэках, з прагаю накідваецца на кнігі, вывучае юрыспрудэнцыю.**

**Ён з годнасцю абараніў дыплом доктара права. Для таго, каб атрымаць адвакатуру, яму трэба было два гады папрацаваць практыкантам на дзяржаўнай службе. Але Прэшарн не два, а цэлых чатырнаццаць год дамагаўся гэтага права: аўстрыйскія ўлады аж пяць разоў адмаўлялі яму ў самастойнай адвакацкай дзейнасці.**

**Вершы непакорнага славенца неаднойчы забараняліся за вольналюбства, атэізм, дэмакратызм, за праўду. Ён знаходзіў шчырыя словы, каб узвялічваць родную мову, пра якую гаварылі тады, што яна — «мова прыслугі», ён радаваўся, што мова, гэты найвялікшы скарб, збераглася ў нетрах народа, ён ставіў яе побач з усімі славянскімі мовамі, не зважаючы на тое, што «да нямецкай мовы схільны нашы дзевы...».**

**Асабліва не падабалася творчасць Прэшарна каталіцкаму духавенству. Нават пасля смерці духоўнікі не пакінулі яго ў спакоі — па іх загаду была спалена большасць рукапісаў паэта.**

**І ўсё ж ён жыў сумленна і пісаў шчыра.**

**І ўсё ж нам на радасць засталіся яго вершы, балады, санеты, газелі, тэрцыны, стансы, у якіх услаўляецца чысты свет чалавечых пачуццяў.**

**І ўсё ж мы маем шчасце чытаць яго «Вянок санетаў» — выдатны твор, прысвечаны дзяўчыне і радзіме адначасова, у якім цудоўна суседнічаюць лірычныя і патрыятычныя настроі.**

**І ўсё ж нам засталася гістарычная паэма «Хрышчэнне пры Савіцы», дзе так набатна гучыць тэма любові да радзімы і вернасці яе традыцыям.**

**І ўсё ж нас хвалююць і сёння Прэшарнавы «Санеты смутку» — гэта вяршыня філасофскай лірыкі паэта. Яны перакладзены на шмат якія мовы свету і здабылі сусветную любоў і павагу да славенскай паэзіі.**

**І да самога паэта, які самаахвярна любіў свой народ, быў шчырым патрыётам, нястомна пісаў пра свабоду, гуманізм, братэрства, пра дружбу ўсіх славянскіх народаў і народаў усёй зямлі.**

**ПЕРАКЛАДЧЫК.**

**Францэ ПРЭШАРН**

## Санеты смутку

**1**

О вёска Верба, што прапахла рутай,
дзе ў хаце бацькавай было ўсё міла;
каб прага ведаў стуль не заманіла,
нібы змяя, мяне на шлях пакуты,

Не ведаў бы, што скінецца атрутай
усё, што сэрца соладка так сніла,
не страціў бы я веру ў свае сілы,
не стаў бы забаўкай віхур акрутных!

Руку і сэрца вернае на радасць
мне б аддала дзяўчына ў сукні яркай,
і мы б жылі з абранніцай без звадаў;

Не засціла б кахання ані хмарка;
дом ад агню, а ураджай ад граду
сусед бярог бы — храм святога Марка.

**2**

У афрыканскай стоенай пустыні
вандроўнік згубіць сцежку і уночы
чакаць світання доўга не захоча
і на пясок дарожны плашч свой кіне.

Праб'ецца месяц з воблачных вышыняў —
убачаць і спалохаюцца вочы:
гняздзяцца побач змеі, тыгры сочаць
за ім, і галаву ўжо леў ускінуў...

Вось так і хлапчуку даўно карцела
праз сёння ў заўтра зазірнуць іначай —
на ім заслона тайніцай вісела.

А ноч мінула, і юнак убачыў
жыцця гнюсоту, бруд душы і цела,
і бездань, прад якою людзі плачуць.

**3**

Дуб, ветраломам звалены зімовым,
зазелянее нечакана ўвесну,

**СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ**

**Валянціна КУЛЯШОВА**

# БЕЛАРУСКІЯ СЫНЫ

**У розны час мы друкавалі раздзелы з «Кнігі пра бацьку» В. Куляшовай. Сёння завяршаем іх публікацыю.**

МЯНЕ ніколі не пакідала адчуванне, што паміж паэзіяй Янкі Купалы і Аркадзя Куляшова існуе арганічная сувязь. Думаючы пра Куляшова, яго светаўспрыманне і паэзію, я, відаць, інтуітыўна адчула, што ў Купалы Куляшоў узяў галоўнае — яго боль за лёс народа, яго палымянае жаданне бачыць беларуса шчаслівым, роўным у сям'і народаў свету.

«Багацце і разнастайнасць паэтычных тэм характарызуюць творчасць народнага паэта Янкі Купалы. Цяжка было б хоць больш-менш схематычна пераказаць узнікненне гэтых тэм, іх уплывы адна на другую. Гэта варта вялікай крытычнай работы. Тут жа мы можам толькі адзначыць адну з іх, якая бярэ свой пачатак у самых ранніх вершах Купалы і з выключнай сілай прагучала ў вершы «А хто там ідзе?», — чытаем у артыкуле А. Куляшова «Цудоўныя песні», які быў напісаны ў 1940 годзе і прысвечаны творчасці Янкі Купалы.

«Тэма гэта — жаданне беларусаў, сацыяльна і нацыянальна занядбаных, «глухіх і сляпых», людзьмі звацца. І вось, на нашу думку, тэма ч а л а в е ч а й  г о д н а с ц і і з'яўляецца цэнтральнай у творчасці Янкі Купалы, а глыбокае, мастацкі праўдзівае, арыгінальнае вырашэнне яе вызначыла песняру пачэснае месца ў шматнацыянальнай сям'і паэтаў Савецкага Саюза».

У гэтым невялікім па аб'ёму артыкуле — погляд Куляшова на творчасць геніяльнага папярэдніка. Куляшоў тады заўважыў галоўнае, што ўласціва творчасці Купалы і тых, хто працаваў у рэчышчы купалаўскіх традыцый.

Куляшоў увахол зіў у беларускую літаратуру ў той час, калі Купала яшчэ плённа працаваў у ёй.

Аднак цеснага чалавечага кантакта ў Куляшова з Купалам не было. Ён не змог бы, калі б нават і хацеў, падобна Петрусю Броўку альбо Андрэю Александровічу, якія ўваходзілі ў літаратуру амаль адначасова з ім, пахваліцца здымкамі з Купалам, хоць на агульных фота, якія дакументальна замацавалі той ці іншы момант жыцця рэспублікі, іх часам і можна бачыць побач.

А не «сябраваў» Куляшоў з Купалам з-за ўласнай, здаецца мне, сціпласці і той глыбокай пашаны, з якой ён ставіўся да «жывога класіка». У такой жа сітуацыі апынуўся і сам Куляшоў у сталым узросце, калі да яго саромеліся прыходзіць акурат тыя з маладых літаратараў, хто меў на гэта найбольшае права.

Што ж бачыў і што цаніў у творчасці Янкі Купалы Аркадзь Куляшоў?

«Век занядбаныя, век глухія і сляпыя, несучы крыўду сваю напаказ усяму свету, мы хочам звацца людзьмі»,— як бы гаварыў паэт. І хіба гэта не пераклікаецца з вядомым выразам геніяльнага пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага «Чалавек — гэта гучыць горда»? І хіба на пытанне: «а хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?» — нельга было адказаць не «беларусы», а, скажам, украінцы, грузіны, армяне і г. д., і г. д.? Так, лёс прыгнечанага царызмам працоўнага беларускага народа быў агульным з лёсам іншых прыгнечаных нацыянальнасцей, і таму яшчэ ў тыя далёкія часы, вырашаючы тэму чалавечай годнасці, Янка Купала перарос ужо нацыянальныя рамкі. Ён стаў ужо ўсерасійскім паэтам.

Артыкул «Цудоўныя песні» быў напісаны Куляшовым у перыяд, калі сам ён зразумеў, чаго патрабуе ад паэта новы час і ў нейкай ступені ажыццявіў гэта ў цыкле вершаў «Юнацкі свет» і тых, што былі напісаны пасля, у 1939 — 1940 гг.

Праз два гады, у суровым сорак другім, Купалы не стала.

Гэта здарылася ў тым трагічным для армій Калінінскага фронту чэрвені, калі, выводзячы з акружэння частку байцоў, загінуў камісар Зуеў, калі мог загінуць і сам Куляшоў.

Такім чынам складваўся ланцуг трагічных акалічнасцей, што падштурхнулі маладога паэта, малодшага палітрука Аркадзя Куляшова распачаць працу над паэмай на беларускай мове.

Сюжэт выспеў. Жыццё ўвяло ў яго апошнюю дзеючую асобу — камісара, а боль, які паэт насіў пад сэрцам з таго часу, як пакінуў ахоплены полымем Мінск, прарваў плаціну і разліўся шырокай ракой народнага гора ў адзіным русле паэмы «Сцяг брыгады».

Многіх здзіўляў феномен стварэння такой паэмы ў той час, у тых умовах і такім маладым аўтарам. Але давайце паслухаем, што сказаў Куляшоў пра паэта рангу Купалы ва ўжо вядомым нам артыкуле.

«Як вытлумачыць складаны і шматгранны працэс развіцця і росту арыгінальнага таленту? Што такое галоўная тэма творчасці і што гэта за пабочныя тэмы? Розных нараджала зямля паэтаў. Аднаго яшчэ з першых дзён юнацтва ўразіла каханне, пакінула ў душы яго, у пачуццях глыбокі след. Як бы далей ні ўплывала на яго жыццё, як бы ні ўздзейнічала людское асяроддзе, але кожную жывую з'яву, кожны цікавы факт ён абагульняе ў сувязі з новым, або перажытым пачуццём кахання. Магчыма, гэта ад аднабаковасці, інтэлектуальнай і сацыяльнай абмежаванасці паэта, але ўсё цікавае для яго ў праявах кахання. Каханне — галоўная тэма яго творчасці. Узняцца вышэй ён не можа.

А Янка Купала?

Ён сын народа. З першых жа дзён жыццё ўсклала на яго плечы гора і нястачу, крыўду і эксплуатацыю. Вельмі балела ў яго сэрца, калі ён бачыў гора адных і багацце другіх. Ён бачыў разлад між людзьмі:

**Адзін нахраў — багацце ўмножыў,**
**Другі згалеў, галей сабакі.**
**. . . . . . . . . . .**
**Аслу з напоўненай машною**
**Леў акаваны лапы ліжа...**
**Рака затоўчана крывёю,**
**Удава заводзіць каля крыжа.**
**(«Разлад», 1907)**

Гора, лёс працоўнага чалавека, парабка, «льва акаванага» не давалі паэту спакою. Горам чалавечым была да краёў перапоўнена істота паэта. І ўсведамленне таго, што прыгнечаным час ужо «людзьмі звацца», не пакідала паэта ніколі, вызначыла на ўсе гады яго інтэлектуальнае развіццё, зрабіла яго народным паэтам. Таму ўсё іншае, што хвалявала ў жыцці паэта, абагульнялася ў сувязі з гэтай асноўнай паэтычнай думкай, як бы ў дадатак да яе. Узяць хоць бы выдатны цыкл аб каханні «Яна і я». У заключным вершы «Краса свету» паэт вітае прыход вясны:

**Гэй, ажыло зямлі старое папялішча!**
**Зайгралі рэкі, плечы выраўнаваў бор,**
**Спраўляе птушак жвавы рой ігрышча**
**І падлятае з радасцю аж да зор.**

Але паэт заклікае думку ляцець «вышэй, далей», каб яна схапіла песню «з перуновай сталі» і прынесла «волю сільную, як сталь».

**З песняй мілую сваю праслаўлю**
**Паміж народамі сваіх, чужых зямель,**
**Каб не загінула, як кветка, у бяспраўю. —**
**Жыла й тады, як ляжа ў вечную пасцель.**
**А воля мне жалезная патрэбна**
**За крыўды маёй мілай помстай заплаціць,**
**Што гаравала так яна бясхлебна,**
**Што ланцугамі мусіла шмат лет званіць.**
**(«Яна і я», 1913)**

Такім чынам,— гаворыць далей Куляшоў, — шчасце простага сялянскага хлапца і дзяўчыны, злучаных горам, поўнае хвілін ідылічнага замілавання, непаўнацэнна. Паэту патрэбна яшчэ жалезная воля, каб плаціць помстай за бясхлеб'е, за ланцугі бяспраўя, якія скоўвалі жыццё беднага хлапца і дзяўчыны».

У сувязі з тым, што было сказана Куляшовым пра Купалу, хочацца звярнуць увагу на адзін факт творчай біяграфіі Куляшова — паэму «Цунамі», ідылію пад атамным грыбам. І тут не толькі і не столькі тэма родніць Купалу і Куляшова, колькі падыход да яе адлюстравання з боку сацыяльных, а ў Куляшова нават сацыяльна-касмічных праблем.

Высокая логіка купалаўскай паэзіі вяла Куляшова і ў яго працы над «Сцягам брыгады». Хіба ад трагедыі аднаго не

